№ 4' 1929 г.

Ꝯ чытаецца як „дз“,
Ꞩ—як „дж“,
н̑, л̑, с̑, ш̑, і ўсе іншыя зычныя са знакам над імі чытаюцца як падоўжаныя (падвойныя).

(Гл. артык. Ул. Дубоўкі „Проэкт літар для згукаў „дз“ і „дж“, „Узвышша“, № 4 (10), 1928 г.) і „Падоўжаныя (або падвойныя) зычныя і спосаб іх азначэньня на пісьме“, „Узвыша“, № 2, 1929 г.).
Новыя літары ўведены як спроба.

Рэдакцыя.

# ЗЬМЕСТ



**Вокладка работы мастака М. М. Аксельрода**


Галоўлітбел № 1293. Заг. № 1977. У ліку 1000 экз. Гомель, друкарня „Палесдрук“

**Уладімер Дубоўка**

# Браніслава[1])

*Поэма*

## Прадмова

I

Мне прышлося даваць растлумачэньне пра сваю поэму „І пурпуровых ветразей узьвівы“ пасьля надрукаваньня яе, каб зьняпраўдіць надзвычайна суб'ектыўныя выступленьні некаторых крытыкаў (гл. мой арт. у Зьвязьде за 4/IV—29 г.). Каб пазбыцца гэтага ў далейшым, я прымушаны даць адпаведнае тлумачэньне для гэтага твору разам з ім самім.

II

Гэтая поэма напісана мною бадай цалкам у пачатку 1925 года. Тады-ж яна пачата была друкаваньнем у часопісі „Маладняк“, пад назваю „Там, де вазёры“. Калі была надрукавана першая частка, у мяне зьявілася жаданьне перайтварыць поэму ў драматычны твор, бо яна мае для гэтага ўсе падставы. Деля гэтага я і спыніў тады далейшае друкаваньне. Прайшлі аж чатыры гады. Такія, сякія жыцьцёвыя прычыны не дазволілі мне да гэтага часу выканаць сваё жаданьне, што я маю на мэце зрабіць у наступным. Уважаючы на цэльнасьць і закончанасьць поэмы, пры некаторай, зусім зразумелай, эскізнасьці, я рашыў выдрукаваць яе ў такім выглядзе, де-што скараціўшы, де-што дадаўшы ды адначасна забараніўшы пераробку яе ў іншыя творы. З прычыны гэтага прашу чытачоў ня вытлумачыць няспрыяюча для мяне паведамленьня пра забарону пераробак.

III

Апісаныя ў поэме падеі цалкам адпавядаюць сапраўднасьці і разгортваліся, як зазначана ў ёй, на Мядельшчыне, ля Нарача. Адіная поэтычная выгадка дапушчана аўтарам: возера Нарач набліжана да мястэчка Мядела (якое стаіць на беразе в. Мястры) у большай меры, чымся гэта ёсьць сапраўды. Фамільнае прозьвішча пана, які выведены ў поэме,—Кошчыц. У далейшым на Мядельшчыне іхнае пакаленьне зьвялося. Труна самога фундатара ўмуравана ў касьцёле, з адпаведным эпітафам.

„Сьвяты Юстын“ быў перанесены, пасьля пераробкі Стара-Мядельскага касьцёла на царкву, у Мосара. Цяпер ён ізноў знаходіцца ў Старым Мяделе, каля якога адноўлена Кальварыя.

Каменны слуп, у які была замуравана вясковая дяўчына Браніслава, знаходіўся да 1916 г. у добра захаваным выглядзе між Мяделам

---

[1]) Пераробка гэтай поэмы ў іншыя творы (п'есы, кіносцэнары і г. д.) аўтарам забараняецца.

і вёскай Сабалеўшчынай. Магчыма, што ён уцалеў да нашых дзён. У кожным разе ўсё наўкольнае насельніцтва добра ведае яго.

Кара сьмерцю, апісаная тут, таксама не зьяўляецца вымыслам аўтаравым або народным: яна часта практыкавалася за паншчынай. Больш таго, ёсьць зьвесткі, што яна практыкавалася яшчэ эгіпецкімі фараонамі, што чытач можа ня рэдка спаткаць у мастацкай літаратуры. У кожным разе аўтар трымаўся народных апавяданьняў, даўшы ім мастацкае афармленьне.

Такім чынам, калі аўтар і паграшыў чым у падачы матар'ялу, дык гэта ў вялікай датрыманасьці і об'ектыўнасьці высьвятленьня самога гістарычнага факту.

IV

Падобныя апісанай падзеі паступова рэволюцыянізавалі працоўнае сялянства, паступова прыводзілі яго да пераканаьньня, што, толькі зьнішчыўшы паноў, можна пабудаваць лепшую будучыну (гэтая тэза разьвіта ў маёй поэме „Кругі"). Зразумела, што такога вызваленьня працоўнае сялянства магло дачакаць толькі ў саюзе з пролетарыятам. Ілюзіі народнікаў, якія спадзяваліся на сялянскую рэволюцыю, разьбіў быў яшчэ Г. В Плеханаў у такіх словах: „Практыка давяла, што лёгка гаварыць пра сялянскую рэволюцыю, але немагчыма яе зрабіць" (Соч. т. X., б. 38).

Паўстае запытаньне, ці мог быць тыповым вобраз Браніславы, ці ня было гэта рэдкім выключэньнем? Ці не зьяўляецца гэты вобраз штучным, надуманым?

Для таго, чый погляд на беларусаў выхаваны расейскімі публіцыстымі 60-х гадоў, вобраз Браніславы будзе штучным. Як вядома, гэныя публіцыстыя „изо всех сил старались представить белоруссов самым несчастным, самым угнетенным народом в мире" дзеля спэцыфічных мэт расейскага царызму (гл. т. IX России, б. 157). Сапраўднасьць гаворыць іншае. Я ўжо меў выпадак цытаваць словы нашага сучасьніка Л. Н. Войталоўскага („По следам войны"). Нагадаю іх яшчэ:— „Помніцца, дзесьці ў якойсьці вельмі вучонай кніжцы чытаў я пра жыхароў Палесься (і, здаецца, гэта рэпутацыя стаіць вельмі цьвёрда), быццам гэта дзікі, цёмны народ, з бясслоўнай пакорлівасьцю ў душы і з калтуном у валасох. Уяўляю, што падумалі-б паляшукі пра гэнага вучонага брахуна. З сваіх дзікіх балот увассалі яны нейкую воўчую гордасьць, нястрымную напорнасьць і найглыбшую пагарду да людзей звычайных", пад якімі разумеліся паны (пра гэта гл. Шэйн, т. III, б. б. 98—99).

Такою воўчаю гордасьцю, нястрымнаю напорнасьцю і найглыбшаю пагардаю да паноў уладала і Браніслава, уладалі сотні і тысячы протэстантаў супроць прыгонаў, паншчыны, імёны якіх засталіся пад засьцілаю нябыцьця.

Няхай гэты сьціплы твор будзе помнікам для гэных невядомых.

19 красавіка 1929 г.
г. Масква.

1

Я ведаю, што не ў краіне справа,—
бяз бацькаўшчыны пролетарыят.
Жыцьцё ад хаты адарвала,
ня будзе ўласьніцтву спрыяць.
Я ведаю, што комінам фабрычным
зьіначацца палі, лясы і сьвет.
Зубцы жняяркі загранічнай
заляскаюць і у аўсе.
Вітаю гэты час і заклікаю:
прыдзі да нас, парупся, не марудзь.
Нясеш кашулі нам з паркалю
каб пачаскаў зьмяніць кару.
І песьні мілагучныя з сабою,
пабудаваныя на новы лад,
ты прынясі: хай дух напояць,
каб воля моцнаю была.
Калі-ж далёкае паўз нашы вочы
з экрану памяці праводзіць час,
душа успомніць тое хоча,
як шалясьцелі клёны ў нас.
Таполі з клёнам, ля вазёр далёкіх,
на Віленшчыне, дзе пачаў гарот-
нае жыцьцё. Ці-ж песьні змоўклі,
як пошчак часам за гарой?
Яны вучылі ненавідзець пана,
яшчэ—кахаць хаўрус сям'і працоў-
ных і працы. І ў абшарпана-
га пастушка будзілі кроў:
замацавацца і загартавацца
трэ', каб пайсьці на новы шлях сталё-
ваю хадой... Мой родны браце,—
з табой мы чулі рытм палёў
і водгульле нялюдкага уціску.
Адно тады, калі жывеш, паку-
туеш бяз хлеба Горш, як пырскі
зьдзеку зьліюцца у раку
і топяць у сабе жыцьця праявы
і права чалавекам быць. Як во-
сеньню алешнік кучаравы,
матаў лісьцём душу навой
пакуты. Смутак тэй вясковай песьні
імклівасьць гадаваў да лепшых дзён.
Яны з сабой цяпер прынесьлі
прыгнётам трошчаным праклён.

2

Імкненьні тчэш спрадвеку, памяць,
даеш жыцьцё, даеш імпэт.
Тады, як лятуценьні паляць
грудзі, як вобразы снуе поэт—
даеш ты Слова. Гімн магутны
народу нашага даеш.
Яго сьпяваюць поле, гуты,
і вёскі, з радасьцю на дне.
Вось, памяць, ты і раскажы мне,
мінулае узварухні:
вазёрныя легенды ў гімне,
надземныя ў вадзе агні...
Вазёры... ці забыцца можна
на вашы сьпевы, прыгажосьць?
Цяпер успамінаю кожны
дзень вас... На Віленшчыне скрозь
вазёры... Толькі сонца на-нач,
за Мядзела, за Гатавіцкі лес,—
шумліва-звонны волат Нарач
калышацца ў сівой імгле...
Ня возера, а быццам мора..
А ў той, у навальнічны час,
калі вада да хмар гаворыць
і вагаркі пачне качаць,—
на жвір, на мяккі, залацісты,
да каранёў сасновых дрэў...
Прастор змаўкаў і калаціўся,
а волат пеніўся, дурэў...
А цёмна-сіняе прадоньне
вучыла разумець жыцьцё:
ўладарнікі яшчэ сягоньня,
а заўтра—ніцае сьмяцьцё.
Вучыла глыбінёй таемнай
жыцьцё пазнаць аж да глыбінь...
Чаго скавыча вецер нема?
Вазёр ня кіну я любіць...

3

Над самым Нарачам, на ўзвышшы
стаяў палац: працоўных рук
мазоль пабудаваў. І вышай
узьнёс—на стромкую гару.
Вялікі, цёмны і маўклівы

ў даліны пазіраў палац.
У змроку выглядаў ён дівам,
калі заход на ноч пылаў...
Пярэстыя блішчэлі вокны,
адценьні слаліся на мур.
Пасьля—туману вэлюм вохкі
ўсё спавіваў. І аднаму
было-б не самавіта пану:
маркотна, цяжка... Дываном
пэрсыдкім, кволым, саматканым
глушыўся крок. Мёд і віно
прыпоньцістае ў срэбны келіх
ён наліваў. Да сына піў.
Сівыя вусы раскуделіць,
рагоча сыта... Ночы, дні
праходілі разоў ня мала.
Шукаў вясёлага ўсё пан.
Ужо ня цешылі цымбалы,
ня цешыў і дявочы стан.
Паехалі на паляваньне.
Гасьцінцам надарыў хлапцоў.
Яны на дрэвах кукавалі
затое. А пасьля далоў
валіліся: страляе цэлка
пан з дубальтоўкі... Палац
рагоча, аж трасецца цэгла,
сьлязьмі каб вёска аплыла...
Паніч таксама паляваньне
спраўляе: хціваю рукой
зьдірае ён дяўчат убраньне,
з тых, што прыводіць лёкай-войт.
Таксама маці загалосіць
і адгукнецца ёй туман.
...Шумела сьпелае калосьсе,
цяпер здратованы дірван.
І гэта паншчынаю звалі,
прыгонны чалавечы дух
шукаў ня раз збавеньня ў хвалях,
замест жыцьця—жыцьцё ў ваду...
А ноч, як ненасытны скнара,
хаўтурна распачне шалець.
Шумліва-звонны волат Нарач
калышацца ў сівой імгле...

4

Паны зьяжджаюцца у госьці,
агнямі мітусіцца парк.
І банкетуюць ягамосьці,
красуе іхная пара.
Празрыста звоняць вадамёты,
між ёлак высяць вохкі пыл.
З віном і старасьвецкім мёдам
у пырсках панскі побыт плыў.
А вёска... Вёска сном замоўкла,
работа сёньня, заўтра зноў.
Туману распаўзьліся столкі
ад хат у поле, на загон.
Праходзіць час у хвалях плыні,
адзін радзіўся, той сканаў.
І, як заўсёды, бязупынна
праз возера каціўся вал.
Даўно схавалі ў гліну пана,
паніч стаў за гаспадара.
Калейка ўся уплянавана—
жаніўся, як прышла пара.
Пасага, гонар і кабета
шчэ больш гасьцей прынесьлі ў дар.
І ад банкету да банкету
складаўся панскі каляндар.
Да сьмерці так прышлі-б памалу,
але зьявіўся непакой—
дзяцёнка пані зажадала,
бацян ня йшоў з ім у пакой.
Пайшлі нарады, саймаваньні,
кіпела, быццам у віры.
Пакуль шукала лекаў пані—
гешэфт рабілі дактары.
А ўсё няма й няма ратунку.
Ў палац зьявіліся ксяндзы.
Багата ў словах іхных трунку,
па новых бегалі ганцы...
Пачуўшы добрую здабычу,
прыехаў біскуп сам у двор.

Біскуп

Мой сын! Дабра табе я зычу,
благаслаўленьня ясных зор.
Будзь верным заўжды пану-богу
і ўсім сьвятым ягоным ты,—

пакажа ён табе дарогу
да хараства, да яснаты.
Мой сын! Вялікі грэх якісьці
ўвайшоў у гэтыя муры.
Ня можа ён з палацу выйсьці,
пакуль ня рыме бог дары.
Маліцца трэба ў кожнай хвілі,
надзею ў сэрцы мець сваім.
Анёлы прынясуць на крыльлі
тады збавеньне вам усім.

Пан

На гэтым сьвеце грэшан кожны,
і я ня менш, айцец каханы.
Але сказаць ніяк ня можна,
каб не гаіў душы я раны.
Маліўся вострабрамскай матцы,
даваў ахвяры да маленьня.
Дакуль жа будзе грэх трымацца?
калі знайду сабе збавеньне?

Біскуп

Каму вялікае цярпеньне—
вялікі будзе і спакой.
Табе наканаваны церні
сьвятарнай, боскаю рукой.
Ідзі, мой сын, у Вечны горад,
там выканай сьвяты абрад.
Тады тваё мінецца гора
і дачакаеш ты дабра.

Пан

Каханы мой айцец духоўны,
благаславі на дальні шлях.
Жаданьня палкага я поўны,
ў збавеньне просіцца душа...

5

У Рыме любяць грошы такжа,
як і усюды любяць іх.
Грахі ўсялякія разьвяжуць
пад звон дукатаў залатых.
Спаткалі вельмі ветла пана,
праслухаў кардынал яго.
Наладжана ў Ватыкане
і консультацыя грахоў.

Кардынал

Напэўна, грэх вялікі нейкі
правіс над панскай галавой.
Яго адпусьцім мы на векі
добразычлівасьцю сваёй.
Але завезьці толькі трэба
сьвятога пану ў свой касьцёл.
Зьлітуецца найсьвеншы з неба,
як на імшу яму дасьцё...
У нас адін сьвяты ў запасе
здаецца, ёсьць...

Капуцын

Сьвяты Юстын!

Кардынал

Сьвяты Юстын у добрым часе
з няплодзьдзем справіцца адін.
Сьвяты Юстын паехаць можа
у ваш далёкі гэны край.
Няхай ён пані дапаможа,
паможа й пану ён няхай.
Ідзі, мой сын, і згіне nihil,
збавеньня пану я прашу...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дукаты соладка званілі
у кардынальскую машну.
У Рыме добрая майстэрня—
зрабіць сьвятога—плюнуць раз.
Дасталі косьці з сутарэньня,
хапае гэтага дабра!
Злажылі ў скрынку акуратна,
намалявалі і абраз.
Дабавілі, дзе трэба, ваты.
Плыві, Юстынка, у добры час!
Узяў пан косьці тыя з скрынкай,
падзякаваў усіх на яць.
Юстынка то, ці ня Юстынка—
паехаў паню аплаваць.

6

У двор цяжэй заўсёды ехаць—
марудным выдаецца час.
Але з надзеяй і уцехай
апошні блізіцца папас.
Як дзень міне—дык бліжай, бліжай

здаецца Мядела, палац.
Фурман дрыжыць, як чорт пад крыжам,
язда каб роўнаю была.
Тымчасам праляцела дзейка
на ўсю акругу: едзе пан,
вязе сьвятога дабрадзейку,
які майструе дзеці сам.
Ксяндзоў наехала, як ліха,
прыехаў біскуп не адзін.
Народу хоць ніхто ня клікаў—
зышлося богу дагадзіць.
Прайшлі з пратэсамі на стрэчу,
у вочы дым кадзільны лез.
А сьпеў дзявочы і кабечы
аж разьлягаўся ў шчыры лес.
Якраз і пан з Юстынам едзе,
народ абняў увесь прастор.
Стаеньнікі ступаюць ледзьве,
зьдзіўлёна гледзячы з-за шор.
У гэткім тлуме і сьпякоце
цяжарных некалькі было.
Ім пры спатканьні, дзесь пры плоце
радзіць бяз часу надышло.
— Жывое цуда! Бачце людзі!
Юстын работу ўжо пачаў!
Касьцёл ад гэтага набудзе,
напэўна, добры капітал...
З такімі цудамі прывезьлі
Юстына ў Мядельскі касьцёл.
Праз цэлы дзень сьвятыя песьні
там шумавалі пры касьцёх.
Пасьля—абед, пасьля—вячэра,
пасьля—віно і моцны мёд.
Сьвяты дык толькі зубы шчэрыць,—
за ўсё пакутуе народ.
На адмысловым саймаваньні
быў распрацованы ўвесь плян.
Павінна у касьцёле пані
ўсю ноч маліцца, да відна.

Біскуп

Як толькі сёньня скончым нешпар,
і пойдуць верныя да спраў,—
адзін няхай для ўдачы лепшай
там застанецца...

Станіслаў!
Ты застанешся, сын каханы:
маліцца нам не навіна...
Для славы боскае абраны,
маліся также да відна...

7

Арганы гралі ўрачыста,
віліся сьпевы ў вышыні.
Нарыхтавана справа чыста,—
заслону, біскуп, захіні!
Пашлі усе. Замок на дьверы
павесіў сёньня біскуп сам.
Каб узмацніць у косьці веру,
узята панская краса.
У белым, як да шлюбу, стала
красуня пані на дыван.
Яна ня бачыць Станіслава,
над ёю з водараў туман.
Агні ледзь дыхаюць у высі,
кадзільны дым ласкочыць нос.
Кагал сьвяты згары дзівіўся:
ў ахвяру паню хто прынёс?..
Сьціскаўся пошчак у скляпеньні,
муры маўклівасьць абышла.
І толькі сьцені, лятуценьні
дзесь мітусіліся ля шкла.
Памалу млявасьць агарнула,
зьвіваўся з грэшных дум вянок
Малітваў сэрца больш ня чула,
гарэла іншасьцю яно.
Жанчыну захлынулі чары:
ня ў храме, ў садзе адпачын.
І вось чакае: прыдзе зараз
каханы радасна Юстын.
Ён малады, такі прыгожы...
Такая палкасьць разам з ім...
Спатканьне гэтае трывожыць
ніхто ня сьмее на зямлі.
Прыгорне ласкава ў абоймы,
каб вусны ў вусны заляглі.
— Шчасьлівыя цяпер з табой мы,
хай шчасьце будзе на зямлі...
І вось—наземяцца уборы,

як бы пялёсткі з кволых руж...
Яна ў экстазе гімны творыць,
я у радкі іх палажу.—

Пані

Пакінь свае сьвятыя рамы,
прыдзі ў зіхценьні пекнаты,
ў страі нябескія убраны,—
ці ты сьвяты, ці не сьвяты.
Гарыць душа мая, пылае,
спавіта млявасьцю ушчэнт.
Пылінка сьвету я малая,
а сёньня ува мне—сусьвет.
Табе вянкі пачуцьцяў зьвіты,
табе і вуснаў кармазын.
Прыдзі, як сьпеў Te deum vitae,
каханы мой, прыдзі, Юстын.
Цябе чакаю я, Юстыне:
чакае любая цябе.
Калі тваё пачуцьце стыне—
маланкай атулю цябе.
Ты хочаш танцаў?—Я танцую!
Глядзі, каханы мой, глядзі!

. . . . . . . . . . . . . . . .

І пошчак у хвіліну тую
пранёс праз гмах:
— Іду...
— Ня йдзі!..

8

Калі вусны шапталі—ня трэба,
дык у вочах сьвіцілася—любы, імкніся...
І у вочах было вечна-палкае мора і неба:
у нязьмерных глыбінях нязьмерныя высі.

А калі пасьпляталіся сьцені,
Зоры ў небе і моры вянком завіліся.
Над зямлёю тады лятуценьні жылі ў лятуценьнях:
у нязьмерных глыбінях нязьмерныя высі.

І ў той час, што ня знае падобных,
ў захапленьні і месяц на хмарах спыніўся.
Векавечныя тайны ў адзін зьнітваліся подых:
у нязьмерных глыбінях нязьмерныя высі.

А калі рассыпаліся зоры,
што зьвіваліся ў небе і моры калісьці,—
даляведныя вочы праменілі шчасьце і гордасьць:
у нязьмерных глыбінях нязьмерныя высі.

9

Адна на пухкіх дыванох
ляжала раніцай нагая.
Уборы скручаны ля ног,
яна кранае іх нагамі.
Ї шэпчуць вусны: „О... Юстын...
Ці давядецца нам спаткацца?
Табе ўсьміхнецца пэўна сын...
Цябе чакацьму у палацы".
Ї апранаецца яна...
На вуснах смага ўтамавана...
Казалі быць ёй да відна:
ужо ключы грымяць на ганак.

10

Над сьветам сонца узышло,
праменьне разьліло наўкол.
Затрапятала цераз шкло,
як на працягу ўсіх вякоў.
На ганку пані. Сьветлы німб
з праменьня зьвіты над чалом.
Спаткаў сам біскуп. А за ім
паны, ксяндзы і ўсё сяло.
Павіншавалі, як адзін,
і пажадалі аднаго.
Маўчаў высокі капуцын,
у вочах тоячы агонь...
А возера кунегай б'е
на жвірыстыя берагі...
Няспынна й час ідзе сабе:
мінае дзень адзін, другі...

11

Магчыма ў сьне, а мо' і ў яве
„Юстын" прыходзіў у палац.
Ушанавана ў гэткай славе,
цяжарнай пані ўжо была.
У тэрмін нарадзіла сына,
на тыдзень сьвята ў гэты раз.
Ї, пахваляючы Юстына,
ксяндзы хвалілі добры час.
У гонар новага патрона
Юстынам стаў хлапчук малы.
З банкетным гоманам і звонам
аж угіналіся сталы...

Банкет цяпер той памінаюць,—
прыкметны, даўся ў знакі ім.
Падпіўшы, быў у добрым раю
і біскуп: кланяўся усім.
Злавіўшы брата Станіслава,
сказаў на вуха: „маладзец!“

Станіслаў

Усё, усё для боскай славы
на плечы падыму, айцец.
Я, сьціплы боскі чалядзінец,
граў на арганах попур'і.
Калі я заслужыў гасьцінец—
хай будзе богу на дары...

Біскуп

Ну, ну! Ня скрыўданым застаўся
і ты, мой сын, здаецца мне.
За гэтыя-б арганы ўзяўся
і я, каб скронь ня ў сівізьне.

12

Паны гуляюць—вёска стогне,
банкеты п'яўкай смокчуць кроў.
Глядзіш—ужо вядуць сягоньня
на бойню панскую кароў.
Падвойны ціск сьціскае горла,
хоць у зямельку ты палазь.
І крыўда цяжкая, і гора
на ногі чэпяцца, як гразь.
А тут яшчэ харчуй Юстына
і ўсіх ягоных слугачоў.
З жыцьцём такім—і сьмерць маліна,
з ярма ня вылезе плячо.
Гамоніць вёска глуха, грозна,
зьбірае помсту ў адзін раз.
Падаткаў вызначана розных—
ксяндзу і пану на папас.
Сялянскі гнеў калыша Нарач,
няхай выростае да хмар.
Ня могуць хвалі перайначыць
ці зьнішчыць страшны той пажар,
які надыдзе на абшары,
на зьдзірцаў і на цівуноў.
На марах панясуць, на марах

усіх праклятых тых паноў...
Праз вёскі вецер жальбу носіць:
тых зьбіў, тых скрыўдзіў сёньня пан.
...Шумела сьпелае калосьсе,
цяпер здратованы дзірван.
Ідуць дзяўчаты адвячоркам,
дажалі жыта ўсё бадай.
Ды нахапіліся і зоркі
на шлях шырокі паглядаць...
Ідзе да хаты й Браніслава,
сьпявае разам працы сьпеў.
У хвалях песьня нарастала
і разьлівалася між дрэў.
Забыта поле, серп гарбаты,
бо праца ёй не навіна.
Яна працуе да цямна,
затое, мабыць, носіць латы.
Зірні у вочы: цьвёрда, сьмела
адкажа зірк, крыштальны зірк.
Што ёй паны, што ёй князі:
таемна жыта шалясьцела
ёй казку вечную жыцьця.—
— Жывуць паны з сялянскай працы,
жывуць паны з рабочай працы,—
вось каласы як шалясьцяць.
Дык вышай галаву, дзяўчына.
Дык сьмела троп у троп друкуй.
Як сымболь працы—на руку
прыціснула і серп свой шчыльна...
Вітаюць ноч лясы, амшары,
багун з ядлоўцам точаць пах
цудоўны. А у цемрашале
балот—на пні пачне чапаць
ноч гукі дрвівыя, глухія...
Знайшлі Бранісю ў беднай хаце:
паклікаў лёкай у палац.
Узьнепакоілася маці,
вучыць дачушку пачала.

Маці

Малога добра калышы ты,
набожнае яму сьпявай.
Бо панскасьць ім у скуру ўшыта—
не угняві, а дагаджай.

Карыся, дочухна, карыся,
прызначана бо нам з вякоў:
сабе ня дбаючы карысьці,
яе зьбіраці для паноў...

Браніслава

Чаго ўстрывожана ты, маці?
Навуку чула я даўно!
Але дакуль мы будзем слацца,
качацца каля панскіх ног?
Няўжо на іх ня будзе зводу?
Няўжо іх не паберыць сьмерць?
Тапіць іх, як сабак, у воду!
Даволі зьдзекі нам цярпець!

Маці

У імя ойца, сына, духа!..
Браніська, любая, маўчы!
Яшчэ дзе сок прыліпне вухам,
не пабаяўшыся начы...
Баюся: ты занадта сьмелай
выгадавалася ў мяне.
Пільнуйся там, дачушка, дзела,
ніхто не пашкадуе, не...
А што тапіць (...у сына, духа...)—
усіх ня зьберыш, ды й народ...
Ня ўмее ён сумленьня слухаць,
гніе ў балоце, як чарот.
Паслухай, скажуць: „пса павесяць—
хадзі і кланяйся яму
ня менш, чымся якіх дзён дзесяць,
бо адарвецца на бяду"...
Адзін памрэ—другі на карак
садзіцца пан—дуга адна...
Паны з салодкіх локчуць чарак,
нам трэба гора піць да дна...
Карыся, дочухна, карыся,
адна ты, любая, ў мяне..

Браніслава

Ня прыдзе з ганьбаю Браніся,
твая трывога хай міне...

14

Расьце малы, растуць выдаткі:
на кляштар фундуш, на ксяндзоў.
Сялянскія усе манаткі

на грошы спрытна пан правёў.
Галосіць вёска ў немы голас,
ратунку ня відаць ніде.
Маліцца ходяць да касьцёла,
мо' бог паможа у бяде...
Адны на плечы ўзялі торбы,
другія строяцца у сьлед,
ды малавата нешта добрых
даваць галодным мае сьвет.
І маці перайшла ці мала,
але ня шэнціла старой:
так у дарозе і сканала,
не разьвітаўшыся з дачкой.
З бярозы лісьцінка зьляцела
на ублаганьне, на ўспамін.
Ніхто ня плакаў каля цела,—
і так сьлязьмі прасяклі дні...
Суседі ладілі хаўтуры,
са столі златалі труну...
Ці чуе дочухна за мурам,
што мацер небыт апрануў?
Браніся слухае гамонку,
Браніся чуе пра бяду—
пустошаць бедную старонку,
усіх да торбы давядуць...

## Браніслава

Матуля, родная матуля,
адна цяпер я, сіратой.
Мяне да сэрца ня прытуліш
сваёй ласкаваю рукой.
Ня выйдеш спатыкаць ля весьніц,—
мінула радасьці пара.
Жалобай поўняцца ўсе песьні,
і вочы цьмяна ўсе гарацъ...
Чым дапаможаш, хто ў тым вінны—
шукае деўчына адказ.
Адказ зьяўляецца адіны—
Юстын прынёс бяду да нас.
Калі-б пазбыцца як малога—
банкетаў буде значна менш...
Народны стогн і панскі рогат,
куды Бранісю ты імкнеш?
Куды, Браніся, мкнеш Юстына?

няхай ён, можа, лепей сьпіць!..
Спыніся, любая дзяўчына,—
ня зьнішчыш ліха у жыцьці...

15

... А хвалі берагі крышылі
і узьляталі аж да хмар,
зьбіраючы з усякіх шчылін
ахвяры возеру у дар...
... А хвалі музыку зьбівалі
і заглушалі панскі сьмех.
Замоўкні, музыка, у залях:
жалоба скрозь на мейсцы ўцех...
... Над хвалямі стаіць дзяўчына,
і думкі з хвалямі плывуць.
Хай соўкаюць яны Юстына...
... Як вецер б'е у галаву...

16

Чэлядзь

Паночку!..
(Імя бога ойца...)
Паночку! Гэта ўсё яна...

Пан

Як? сына?..
Подлая забойца!
Юстынка мой!
Няма...
няма...

17

Лёкай

Паночку! Вось вяроўка й камень,
дазволь—мы мейсца ёй дадзём...

Пан

Прэч, псы! Ня кратайце рукамі
пачатак маіх чорных дзён...
Дык ён паплыў у хвалі, сын мой,
вучыла плаваць ты яго?

Браніслава

Паплыў на хвалі вірнай, зімнай,
навучыла плаваць я яго...

Пан

І бацьку ён свайго ня ўспомніў?
Яго павёў сьвяты Юстын?

Браніслава

І бацьку ён свайго ня ўспомніў!
Туды пайшоў ён, дзе Юстын..

Пан

Дык ты вяла яго ў анёлы?
Якая-ж добранькая ты!
І хто-ж сьпяваў літань вясёлы
для хараства, для яснаты?
Дык ты збавіцелька для сына!
З маленства ўжо на небе ён!
Дык, значыцца, аж два Юстыны
сьвятыя? Надзвычайны плён!

Лёкай

Паночку! Вось вяроўка й камень,
дазволь—мы мейсца ёй дадзем...

Пан

Прэч псы! Ня кратайце рукамі
пачатак маіх чорных дзён...
Дык, значыцца, аж два Юстыны
сьвятыя? Надзвычайны плён!

Браніслава

Абодва гэтыя Юстыны
увесь народны бралі плён...

Пан

Дык ты, наводля маткі боскай,
мая каханая, была?

Браніслава

Дачка зруйнаванае вёскі
вітала панскі так палац...

Пан

Дык ты вяла яго ў анёлы,
каб ён, як Езус, па вадзе
хадзіў на славу для касьцёлу,
бацькоў і славу ўсіх людзей?
Якая гжэчная дзяўчына!
Як толькі ўславіць мне цябе!

Лёкай

Паночку! Вось вяроўка й камень,
дазволь—мы мейсца ёй дадём...

Пан

Прэч, псы! Ня кратайце рукамі
пачатак маіх чорных дзён...
Нясеце ружы і лілеі,
пад ногі пасьцілайце ёй.
Ах, божухна! А дзе надзея,
дзе ўцеха старасьці маёй?..
Паклічце, ўсіх ксяндзоў паклічце,
няхай званы праз ноч гудзяць.
Ня пісана у іх кантычцы,
як трэба дзеўчыну ўслаўляць...
Нясеце ружы і лілеі,
пад ногі пасьцілайце ёй.
Дзе, божухна, мае надзеі
і ўцеха старасьці маёй?..
Паклічце муляраў з начыньнем,
паходні запалеце ўсе.
Для гэтай проклятай дзяўчыны
падзяку ня прыдумаў сьвет...
Цябе пастаўлю я на ўзгорку,
над самым берагам крутым.
Ты будзеш піць свой келіх горкі
ў праменьні сонца залатым.
Ты будзеш помнікам на векі,
як бацька сына мілаваў...
З хаўтурным посьвістам і дзьвенькам
твая сьпятрэе галава.
Вятры табе хай песьні зложаць,
па сьвеце разьнясуць няхай.
Няхай... Ды як-жа гэта можна?
Забойца... Помнік... Ха-ха-ха!..
Нясеце ружы і лілеі,
пад ногі пасьцілайце ёй.
Ах, божухна! Няма надзеі,
уцехі старасьці маёй...

18

Званы, як на пажар, званілі,
трывога агарнула ўсіх.
На многія ў акрузе мілі
каціўся водгук дзеяў злых.

Паходні жудасна ўзьляталі,
Гадзілі, лынулі ў прастор.
На возеры стагналі хвалі,
калышучы адценьні зор.
На ўзгорку муляры складалі
Для Бранiславы слуп-пасад.
Ксяндзы маўчалі ў аддалі.
І Станіслаў стаў з імі ў рад.
Страшэнны час... згадаў ён паню,
згадаў і ночы ўсе, і дні...
І вось дайшло да адпяваньняў...
О, памяць, дзеі захіні...
Забойца вось. Стаіць у муры,
па грудзі мур ужо узрос.
Ці не пара пачаць хаўтуры?
Ах, ксёнжа, не паказвай сьлёз!..
Загад выконваючы панаў,
кідалі кветкі ўсё у слуп.
Стаяла, кветкамі убрана,
там Браніслава, як на шлюб.

Станіслаў

Быў дадзены табе ў апеку
нявінны хлопец, панскі сын.
Ты-ж прыстарала сабе пекла,
туды цяпер твой шлях адзін.
Цябе й асудзяць вельмі строга,
твой нячуваны грэх цяжкі.
Скарыся, грэшніца, прад богам,
прызнай злачын сваёй рукі.
Стаіш ты на парозе ў небыт,
узваж учынкі ўсе свае.
Пакайся тут людзям і небу,
апошні час твой настае...

Браніслава

Дык што-ж сказаць... Гуляеш, панства?
Шалёна адсьвяткуеш дні,
і, разам з чорна-шэрым пасам
палацу, прападуць агні...
Муруйце, маляры, найлепей—
гасьцінцам вас надорыць пан.
Мой заклік вапнай не залепяць,
ён скалыхне яшчэ курган...
Вы нашу радасьць адабралі,
замуравалі ў камяні,

вы шчасьце наша ў гразь стаптали,
ператварылі ў ночы дні...
Замест вясёлае бяседы
ў хатах бедных—сьлёзы, стогн.
Сусед хаваецца суседа,—
за ўсё за гэта вам праклён...
Муруйце вышай слуп каменны,—
ня гэта буӡе вам самім.
Яшчэ на сьвеце будуць зьмены,
сусьвет зьіначыцца зусім...
На вашы могілкі ня гляне
ніхто з спагадаю, ніхто.
Адпомсьцяць вам за ўсё сяляне,
аж здрыганецца сам прастор...
За ўсе крывавыя банкеты,
за зьӡірствы з бедных і сірот—
цераз абшары ўсяго сьвету
вас праклінае мой народ.

Лёкай

Паночку! Сьціснуць яе ў камень,
дазволь—абшары ёй даӡём...

Пан

Прэч, псы! Ня кратайце рукамі
пачатак маіх чорных ӡён...
Нясеце ружы і лілеі,
у помнік пасыпайце ёй...
Ах, божухна! Аддай наӡею
і ўцеху старасьці маёй...
Сьпявайце ёй, ксянӡы, сьпявайце,
хай загалосіць там яна...
Ня люба мне ўсё багацьце—
уцеху прынясе труна...

Станіслаў

Заслона ў нябыцьцё разьӡёрта,
пакайся, грэшніца, прад богам...

Хор

На веч-ны ад-па-чын...

Пан

Да чорта!
Навошта сьпеў такі убогі?
Да шлюбу мы вяӡём ӡяўчыну,—
Вясельнае, што на пасад!..

На славу любага Юстына...
Вясельнае, што на пасад!...

Хор (зьбянтэжаны)

„Ляцелі гусачкі цераз сад...
цераз сад...
Крыкнулі, гукнулі на ўвесь сад..
на ўвесь сад...
Час табе, Бронечка, на пасад...
на пасад...
А што-ж вам, гусачкі, да таго...
да таго...
Ёсьць у меня мамачка для таго...
для таго“...

Пан (у гэты час)

Нясеце ружы і лілеі,
у помнік пасыпайце ёй..
Ах, божухна! Няма надзеі,
уцехі старасьці маёй...
Сьпявайце ёй: і цераз камень
мы песьню у пасаг дадём...
Прэч псы! Ня кратайце рукамі
пачатак маіх чорных дзён..

**Васіль Шашалевіч**

# Воўчыя ночы[1])

## Драматычныя абразы

### Хто вы?

Сялянская хата. Чысты, але бедны пакой. Вечар. Клава Стрэльская сядіць і нешта піша. Іншы раз кідае пісаць і задумваецца над паперай. Нехта пастукаўся у дзьверы.

Стрэльская. Можна...

(*У хату ўвайшоў нейкі невядомы чалавек высокага росту. Як бы камісар. У руках портфэль*).

Увайшоўшы. Тут жыве Клаўдыя Стрэльская?

Стрэльская. Гэта я. А што такое?

Увайшоўшы. Добры вечар. Вы адны?

Стрэльская. Я адна.

Увайшоўшы. Нас ніхто ня чуе?

Стрэльская. Ніхто. А што?

Увайшоўшы. Я хацеў бы пагаварыць з вамі аб аднэй вельмі сэкрэтнай і пільнай справе...

Стрэльская. Калі ласка. Я слухаю. Хто вы такі?

Увайшоўшы. Я—намесьнік камісара соцыяльнае забясьпекі Мікола Драгун (*здароўкаецца са Стрэльскай*).

Стрэльская. Сядайцеся, калі ласка.

Драгун. Спачатку мне скажэце, дзе ваша маці і брат, а потым мы пяройдзем да справы.

Стрэльская. Брат і маці паехалі ў мястэчка. Мы дачуліся, што сягоньня выслалі дапамогу пацярпеўшым ад пагрому, грошы, вопратку і розныя прадукты ад АРА.

Драгун. Так. І наконт гэтага я меўся з вамі пагутарыць. Вы падавалі заяву ў аддзел соцыяльнае забясьпекі?

Стрэльская. Але. Я прасіла хоць чым-небудзь дапамагчы нашай сям'і...

Драгун. Так. Мы разглядалі вашую заяву і пастанавілі выдаць вам дапамогу. Але здарылася няшчасьце. Вы яшчэ ня чулі?..

Стрэльская (*занепакоеная*). Ня чула. А што?

Драгун. На пошту, што вязла грошы і на абоз з прадуктамі АРА сягоньня напала банда Чырвонца і ўсё адабрала!..

---

[1]) Гл. „Узвышша“ № 5 за 1928 г., № 1—1929 г.

Стрэльская (*з жахам*). Што вы кажаце!.. *(У яе апусьціліся рукі)* Як жа так?.. Бедныя людзі! Што будзе з імі?..

Драгун. Так, гэта вялікае няшчасьце. Галоўным чынам тое, што другая дапамога яшчэ ня хутка прыдзе.

Стрэльская. Таварыш Драгун!.. Гэта для нас вялікі ўдар! Я ня ведаю, як мы далей будзем жыць!..

Драгун. Так, цяжка вам прыдзецца.

Стрэльская. Таварыш Драгун! Скажэце, як жа нам быць?

Драгун. Палажэньне цяжкое, што і казаць!

Стрэльская. Што нам рабіць? Дзе для нас выйсьце?

Драгун. Выйсьце?.. У мяне ў портфэлі.

Стрэльская. Як у портфэлі?

Драгун. Тут ляжаць вашыя грошы. Дзесяць тысяч. Я прывёз іх вам.

Стрэльская. Дзесяць тысяч!

Драгун. Многа ці мала?

Стрэльская. Так многа!

Драгун. Няшчасьці вашы больш вялікія.

Стрэльская. Таварыш Драгун! Мы не чакалі.. Вы вызвалілі нас з вялікай бяды! Але як-жа нашу дапамогу мінулі рукі Чырвонца?

Драгун. (*Выймае пук крэдытак*). Вось тут дзесяць тысяч. Атрымайце...

Стрэльская. Расьпісацца?

Драгун. А так, так... (*Шукае ў портфэлі. Выймае кавалак паперы*) Усё роўна. Ну хоць бы вось тут... (*Стрэльская піша расьпіску*). Мінулі рукі Чырвонца, кажаце? Гм... ня зусім мінулі.

Стрэльская. Як! Гэтыя грошы былі ў Чырвонца?

Драгун. Былі.

Стрэльская. Я не разумею.

Драгун. Так, гэта нейкая цёмная, незразумелая для ўсіх нас гісторыя. Чырвонец аграбіў пошту, потым зьвярнуў гэтыя дзесяць тысяч і прасіў перадаць вам.

Стрэльская. Ня можа быць! (*паднялася*). Што-ж гэта, выходзіць, што вы зьявіліся ад Чырвонца?

Драгун (*таксама падняўшыся*). Як вы можаце гэтак думаць. Не ад Чырвонца, а ад самога сябе! Мне перадалі гэтыя грошы ў Чырвонапольску, калі там даведаліся, што я буду ехаць праз вашую вёску.

Стрэльская. Значыць гэтыя грошы—як-бы падарунак Чырвонца?..

Драгун. А як вы паставіліся-б да такога факту?

Стрэльская. Я ня ведаю, што падумаць... Чаму ён вылучыў мяне з усіх, хто праклінае яго імя?..

Драгун. Мы самі зьдзівіліся. Наконт гэтага зьявіліся ўжо розныя гісторыі, дагадкі. У мястэчку аб гэтым гавораць на розныя лады.

Стрэльская. Што? Скажэце, што гавораць?..

Драгун. Першая варыяцыя, што Чырвонец аб усім вашым горы, як вы жывіцё, як вам цяжка... Можа і не такі дрэнны чалавек Чырвонец, як гэта аб ім думаюць... Нарэшце яго ўзяло сумленьне...

Стрэльская (*з абурэньнем*). Сумленьне! А ѕе яно было ў яго сумленьне ў той час, калі ён рабаваў сірот!

Драгун. Ну, калі гэтая дагадка не гаѕіцца, ёсьць другая.

Стрэльская. Якая?

Драгун. Тая, што вы спадабаліся Чырвонцу...

Стрэльская. Вы жартуеце!

Драгун. Аб гэтым кажуць.

Стрэльская. Ѕе ён мяне мог бачыць!

Драгун. Ѕе хочаце... Ён мог вас бачыць штоѕень, а вы і ня ведаць аб гэтым. І вось нарэшце закахаўся ў вас!

Стрэльская. Што вы такое гаворыце? Я не магу вас зразумець?

Драгун. Я расказваю тое, што чуў. Нічога тут ѕіўнага няма, што Чырвонец у вас закахаўся.

Стрэльская. Маўчэце аб гэтым! Я не магу слухаць! Забойца майго бацькі! Той, хто зрабіў нас жабракамі,—закахаўся!

Драгун. Усё бывае... Чакайце. Гэтую гісторыю з каханьнем Чырвонца можна прасачыць з самага таго моманту, калі ён першы раз вас ўбачыў.

Стрэльская. Калі ён мяне першы раз убачыў?

Драгун. Аднэю цёмнаю ноччу вы стаялі на вуліцы, схаваўшыся за вуглом. За другім вуглом стаяў Чырвонец...

Стрэльская. Што такое? Калі гэта было?

Драгун. Успомніце: у тую ноч па вашаму даносу Расамаха арыштоўваў бандыта Кандрата Кажана ў яго хаце.

Стрэльская (*з непакоем*). Адкуль вы гэта ведаеце?

Драгун. Хто-ж гэтай гісторыі ня ведае! Мне сам Расамаха расказваў...

Стрэльская. Не, ня гэта, а тое, што тады Чырвонец мяне бачыў.

Драгун. Я не кажу, што гэта было напэўна. Гэта толькі меркаваньні.

Стрэльская. А! Ну і што?

Драгун. Потым Расамаха клікнуў вас у хату, каб вы апазналі бандыта. Вы ўвайшлі і вось тут праз вакно першы раз вас убачыў Чырвонец. Ён зьѕівіўся вашаму хараству, вашай сьмеласьці і цьвёрдасьці. І з таго часу запалаў каханьнем!..

Стрэльская. Але-ж вы ўмееце жартаваць!

Драгун. Я не жартую. Сапраўды, чым растлумачыць той факт, што Чырвонец вам вярнуў гэтыя ѕесяць тысяч, а ў другіх адабраў? Толькі чалавек, чыё сэрца кранула вялікае каханьне, можа зрабіць гэта! Што можа ахвяраваць чалавек ѕеля каханьня? Жыцьцё! Сумленьне! Усе багацьце сваё можна аддаць за момант каханьня, а потым

жабраком пайсьці па сьвету, валацугам бяздомным... Аднак жа засядзеўся ў вас. Трэба ехаць... Бывайце здаровы. Мы яшчэ ўбачымся...

Стрэльская. Слухайце... Мы ня возьмем гэтыя грошы.

Драгун. Чаму?

Стрэльская. Вы сказалі, што іх перадаў Чырвонец... значыць гэта падарунак Чырвонца!.. Вазьмеце іх. Гэта крывавыя грошы.

Драгун. Вы ня хочаце дапамогі?

Стрэльская. Ад Чырвонца я ня прыму! Вазьмеце.

Драгун. Я не вазьму. Вы мне далі расьпіску.

Стрэльская. Зьвярнеце мне маю запіску.

Драгун. Як сабе хочаце, а я не вазьму. Мне загадалі прывезьці грошы вам і я гэта зрабіў. А вы можаце з імі рабіць, што захочаце. Можаце, нарэшце, пераслаць у Чэрыкаў.

Стрэльская. Не, прашу вас, вазьмеце. Я не хачу прыняць грошы ад забойцы! Вазьмеце!

Драгун. Не вазьму.

Стрэльская. Потым скажыце мне... Вы напалохалі мяне... Вы нейкі дзіўны... Хто вы?

Драгун. Хіба я вам не сказаў?.. Дакумэнты вам паказаць?.. Мне пара. Бывайце здаровы... А з грашамі як сабе хочаце.

(*Хутка вышаў. Недаўменьне і спалох застылі на твары Стрэльскай*)

## Зьлітуйцеся!

Хата заможнага хутараніна Гардзея Карчагі. Чыста, прыбрана. Сьвята. Ноч. У лучніку гараць смаляныя карчы, вясёла трашчаць. Гардзей сядзіць за сталом, чакае вячэру, што рыхтуюць яму жонка Палага і прыгожая д.чка Ліксаша.

Адчыніліся дзьверы і ў хату ўвайшоў нейкі чалавек у падраным брудным шынялі, расхрыстаны, бяз шапкі. Увайшоў і, ні слова ня кажучы, хлюпнуўся на лаўку ля парогу. Відаць, ён быў моцна змораны і ня мог гаварыць. Гаспадар першым схамянуўся.

Гардзей. Што ты за чалавек? і што табе тут трэба?

Невядомы (*ледзь чуваць, змораным голасам).* Людзі добрыя... Памажэце... Выратуйце... Сьмерць за мною гоніцца... Уцёк ад расстрэлу .. Зьлітуйцеся... Прытуліце няшчаснага .. Два дні ня еў...

(*Ліксаша кінулася рэзаць хлеб*).

Палага. Бедны! .

Гардзей. (*У яго літасьць шавальнулася ў сэрцы, але пастараўся заглушыць яе жорсткімі словамі*). Ідзі адсюль, чалавеча!.. Няма ў нас прытулку такім людзям! Ідзі! Шмат вас такіх бадзяецца... Вазьмі хлеба на дарогу ды йдзі...

Ліксаша. Тата... Ці ў цябе сэрца няма?

Невядомы (*бухнуў на калені*). Зьлітуйся, дзядзька, не гані! Дай мне ноч пераспаць на сене ці ў хляве .. Зьлітуйся .. Аддыхі просіць душа!..

Гардзей. Хто ты такі? За вошта цябе расстраляць хацелі?

Невядомы. Дэзэртыр я... Сымон Шабека... Забіў вартаўніка... Уцёк ад сьмерці... За мною гоняцца. Усюды абвесткі, каб мяне затрымалі...

Гардзей. Ідзі з мае хаты куды хочаш!.. Зараз-жа... Не магу дазволіць... Ты хочаш, каб з-за цябе мяне жыўцом зьелі?..

Ліксаша. Мама, скажы хоць слова ты за яго! Няўжо-ж бацька яго выштурхне ў гэтакае надвор'е?..

Палага. Гардзей, ніхто ня будзе ведаць... Мы-ж адны жывем, хай пераначуе...

Гардзей. Маўчы. Ты мусіць ня ведаеш, што за гэта мне будзе, калі даведаюцца? Усё адбяруць, жабраком пусьцяць па сьвеце! У турме згнояць!.. Ідзі па сваёй дарозе, чалавеча... ідзі...

Шабека. Не пайду, дзядзька. Выганіш мяне—пад тваім плотам лягу... З месца не крануся. Ля парогу крыжам распластаюся... Данясі на мяне ўладзе—што Шабеку злавіў... Там табе грошы за мяне дадуць... Вось абвестку садраў — тысячу рублёў за мяне даюць! Купіш каня і карову за маё жыцьцё!..

Гардзей (*зірнуўшы на абвестку*). Памыліўся ты, чалавеча. Мы людзкім жыцьцём не гандлюем! На людзкім жыцьці не разжываемся!

Шабека. Не, лепей данясеце на мяне, толькі не ганеце! Я змарыўся, я змучыўся... Куды вы мяне гоніце? (*Заплакаў сапраўднымі сьлязамі. Матка і дачка расчуліліся).*

Ліксаша. Тата, ці табе сена шкода?

Палага. Гардзей, трэба пашкадаваць чалавека. Няхай у сяньніцы высьпіцца...

Гардзей. Ну што зробіш з табою... Распранайся, калі так... Ліксаша, зачыні дзьверы на крук. Барані божа, хто ўвойдзе...

(*Шабека стаў распранацца. Скінуў мокры шынель. Ён здаўся дужым і стройным. Кучаравыя валасы, хоць і ў гразі, усё-ж рабілі яго прыгожым.*)

Ліксаша (*да маткі*). Гэткага ладнага хлопца растраляць! (*Шабеку*). Я дам табе памыцца.

Шабека. Дзякую, што пашкадавалі... Брудны я, увесь у гразі... Як шухнуў у нейкую каўдобіну...

(*З яго раптам нібы спалі зморанасьць і жаласьлівы тон нягічаснага чалавека. Зьявіліся рухавасьць і энэргія. Стаў нават вясёлым і радасным*).

Гардзей. Ну йдзі сюды да стала, павячэраем, што ёсьць. Перасьпіш на сяньніцы, а заўтра чуць золак, калі яшчэ і птушкі не прачнуцца, каб ты пакінуў мой двор... Каб і сьледу і духу твайго ня было.

Шабека. Добра, дзядзька. Ты і не пачуеш, як я выйду. І сабака не забрэша.

Гардзей. Ну, глядзі...

(*Палага стаўляе на стол параную бульбу, смажанае сала, гуркі. Ліксаша нясе пасуду).*

Гардей. Ну, еж, чалавеча, ды расказвай, як ты ад сьмерці бараніўся. Скуль ты родам?

Шабека *(прагна есьць, як ня давіцца)*. З-пад самых Клінцоў. Там у мяне маці і бацька засталіся.

Палага. Во гора было-б бацьком, каб забілі цябе.

Гардей. Далёка-ж табе яшчэ... Ці-ж ты думаеш дадому падацца, ці як?

Шабека. Сам ня ведаю, дзе мне прытуліцца... Страшнаісьці да хаты: зловяць...

Гардей. Гэта праўда. Ну і тут табе заставацца таксама...

Шабека. Пайду, куды вочы глядзяць.

Гардей. Глядзі, добра сьцеражыся... Адзін раз выратаваўся ад сьмерці, другі раз ня ўдасца...

Палага. Раскажы-ж ты нам, як табе ўдалося выкарабкацца?

Гардей. Дай ты чалавеку пад'есьці.

Палага. Ну, еж, еж. Тагды ўжо раскажаш...

Шабека. Дзякую вам за хлеб-соль... Толькі вы зьлітаваліся, пашкадавалі... Усюды гналі мяне, як сабаку якога, кавалка хлеба ня далі.

Гардей. Што-ж, баяцца людзі... Калі-ж гэта ты уцёк?

Шабека. Пазаўчора ўночы ў турме сядзеў я. Са мною яшчэ два хлопцы. Разам судзілі нас. Прызналі мяне, як дэзэртыра, за ворага пралетар'яту. Вядома—расстрэл... Сядзім, ня сьпім, чакаем сьмерці...

Гардей. Цяжка з жыцьцём разьвітацца?

Шабека. Вядома. А страшней за ўсё—гвалтоўная сьмерць. Ну што-ж. Раніцою ў каморку вартаўнік заявіўся. „Сымон Шабека. Па цябе прышлі. Рыхтуйся. Пераводзяць цябе ў іншае памяшканьне"... Тут я адразу зьмікіціў, што гэта за „памяшканьне". Разьвітаўся я з хлопцамі. Павёў мяне канвойны. А яшчэ толькі-толькі занялося на дзень. Усе сьпяць. Туман. На вуліцы нікога. „Таварыш, што-ж ты мяне на сьмерць вядзеш?"—Ня ведаю. „Таварыш! дай закурыць хоць перад сьмерцю".—„Каб не пабачыў хто?... Ну, куры"... Стаў ён мне сыпаць махры, а тут я... я-як сьвісну *(размахнуўся з бульбінай у руцэ)* яму ў вуха!.. Тут ён—шмяк! Зірнуў я—а ён і скачарэжыўся!..

Гардей. Няўжо-ж на сьмерць?

Шабека. Акурат... Я, канешне, бегчы. Вышаў за горад. У лес, па балотах туляўся. Вечарам садраў вось гэтую абвестку з тэлеграфнага слупу. За галаву маю абвешчана ўзнагарода—1.000 руб.

Гардей. Шчасьце тваё, што так удалося. Ну і таго чалавека шкода, што даў табе закурыць. Выходзіць, што за цыгарку загінуў, за панюх табакі...

Шабека. Трэ' было ратавацца...

Гардей *(задумёна)*. Ня тою дарогаю сьвет пайшоў... Нядобра робяць бальшавікі... Паважных людзей у німашто зрабілі, гразёю вочы заляпілі, абплявалі... Хто раней сказаў-бы, што я дрэнны чалавек? Тры

гады за старшыню быў. Спытаўся-б, хто разумнейшы чалавек у ваколіцы? — Гардзей Карчага — так бы табе і адказалі ўсе!.. А цяпер мяне, можна сказаць, з грамады выгналі — адабралі ў мяне права голасу!.. Усім гаварыць можна, толькі Гардзею рот затыкаюць! За вошта гэта? Што я зрабіў такое? Ці на дарозе забіў, ці аграбіў каго? Ці хабара браў? Не! Людзі казалі: „Гардзей—сумленны чалавек“. Ці мо' я пан, нажыў белакаменныя палацы? Усякі бачыць, што я за чалавек. Дык за вошта-ж адабралі ў мяне голас, нямым зрабілі мяне перад грамадою!.. Пальцамі тыкаюць: Гардзей—кулак!.. Цяжка мне гэта. Крыўдна...

Шабека. Не бядуй, дзядзька, нядоўга табе цярпець. Хутка міжнародная буржуазія раскалашмаціць нашу пралетарыю, тагды ты зноў пойдзеш угару...

Гардзей. Ня тою дарогаю сьвет пайшоў...

Шабека (*патаемна*). Памажы мне, дзядзька, скажы, як мне прабрацца к Чырвонцу...

Гардзей (*з непакоем*). К Чырвонцу? Нашто табе Чырвонец?

Шабека. Хачу да яго далучыцца... Хочацца мне памсьціцца тым, што мяне расстраляць хацелі!..

(*Пауза. Гардзей зіркліва глядзіць у вочы Шабеку*).

Гардзей (*рэзка*). Не кажы мне пра Чырвонца, і не гадай мне пра яго!.. Ты што-ж, думаеш, што мы сябруем з бандытамі? ці памагаем ім?! Тады ідзі з хаты, і дармо я цябе прытуліў!

Шабека. Дзядзька, ня гневайся... Няма мне іншага ратунку, як пайсьці да Чырвонца... Усюды мяне зловяць і пакараюць!..

Гардзей. Пытай іншых людзей, а мы табе нічога ня скажам... Нічога мы ня ведаем, нічога ня чулі.

Шабека. Што-ж тут рабіць?.. На вас толькі я і спадзяваўся. Хто-ж невядомаму чалавеку пакажа?

Гардзей. Як ведаеш, так і рабі. Нічым я тут не дарады.

Палага (*вышаўшы ў сенцы, гукнула*). Гардзей, ідзі адно ты сюды.

Гардзей. Што табе? Зараз (*ідзе ў сенцы*).

Палага (*ціха*). Гардзей, чаму табе не паказаць яму, дзе Чырвонец?

Гардзей. Цсс... Я ўжо каюся, што прытуліў яго... Баюся, што гэта шпіён... падасланы...

Палага. Што ты з глузду зьбіўся?

Гардзей. Ня ведаю, нешта як ён згадаў пра Чырвонца, мяне так і калянула... што ён нешта ўтойвае... Глядзі, каб гэта... Тады мы прапалі.

Палага. Ой, што ты гэта на няшчаснага падумаў?

Гардзей. Хто ён ні ёсьць, дык ня нашая справа гаварыць яму пра Чырвонца. Глядзі, нічога не кажы яму... Пайсьці даглядзець скаціну... (*Выходзіць*).

Шабека (*да Ліксашы*). Як цябе завуць?

Ліксаша. Нашто табе гэта ведаць?

Шабека. Ты-ж заступілася за мяне перад бацькам. Дык я хачу ведаць, як цябе завуць.

Ліксаша. Ліксаша.

Шабека. Гэта што? Аляксандра?

Ліксаша. Але, Ліксаша.

Шабека. Прыгожая ты дзяўчына, Ліксаша.

Ліксаша (*падумаўшы*). Ты прыгажэйшы за мяне.

Шабека. Жартуеш. Дзе ты бачыла, каб няшчасны ды быў прыгожым?

Ліксаша. Не. Ты шчасьлівы. Ты-ж выдраўся ад сьмерці. Ня кожнаму так пашанцуе.

Шабека. Не вядома яшчэ. Можа я толькі на пару дзён сьмерць сваю адцягнуў. Можа заўтра зловяць і да сьцяны прыставяць.

Ліксаша. Жонка ў цябе ёсьць?

Шабека. Не.

Ліксаша. І любае дзяўчыны няма?

Шабека. Няма. А што?

Ліксаша. Шкода ёй было-б, каб цябе расстралялі.

Шабека. Ліксаша, памажы ты мне. Як дабрацца да Чырвонца? Усё жыцьцё ад гэтага...

Ліксаша. Ціха. Бацька пачуе. Ён баіцца сказаць... Заўтра ранечка абуду цябе. Вывяду за ваколіцу, усе раскажу табе, куды і як..

Шабека. Ліксаша!

Ліксаша. Толькі глядзі, маўчы. Нікому не кажы, што гэта я табе паказала.

Шабека. Што ты!

Ліксаша. Калі бацька даведаецца...

Шабека. Скуль-жа ты ведаеш пра Чырвонца?.. Ты была ў яго?

Ліксаша. Во сказаў! Чаго я туды пайду? Дзяўчаты нашы казалі... Насілі туды курэй і яйкі прадаваць. (*У сенцах грукнулі дзьверы*). Ціха. Бацька ідзе.

(*Шабека апусьціў галаву на рукі. Сон хіліў яго. Увайшоў Гардзей*).

Гардзей. Ну, хлопча, хочаш спаць, дык ідзі на сяньніцу. Я пакажу табе.

Шабека (*Нібы раптам прачнуўшыся:*) А-а... Дзякую табе, дзядзька, што прытуліў мяне, накарміў... Век цябе не забуду... Дзякую.

Гардзей. Ну, ідзі. А заўтра каб і блізка ня было цябе ля майго дому.

Шабека. Добра, дзядзька. Чуць свет выйду... Чырвонца буду шукаць.

Гардзей. Гэта ўжо ня нашая справа.

(*Шабека ідзе да дзьвярэй зморанаю хадою. Ліксаша глядзіць яму ўсьлед*).

Ліксаша. Змарыўся, бедны...

## У комсамольцаў

Клюб ячэйкі КСМ. Чакаецца зачынены сход. Прыходзіць комсамолец і комсамолка. Ён—беларус Раман, яна—яўрэйка Эстэр. Ён у хваляваньні, крыўда чуецца ў яго голасе. Яна ня можа схаваць свае пагарды, і мімаволі нянавісьць і злосьць адчуваюцца ў рэзкасьці яе тону.

Раман. Чакай, я хачу пагаварыць з табою.

Эстэр. Ну што ў цябе? Гавары.

Раман. Я даўно хацеў... Але ты знарок хаваешся ад мяне.

Эстэр. Ня выдумляй. Ёсьць чаго мне хавацца ад цябе!

Раман. Ты стараешся не пападацца мне на вочы! Я гэта бачу!

Эстэр. Ты толькі гэта хацеў сказаць?

Раман. Скажы мне, чаму ты так перамянілася? Зусім зрабілася ня тая.

Эстэр. Я ў сабе прынамсі ніякай перамены ня бачу. Такая, як і была.

Раман. У дачыненьні да мяне... Ты пачала мяне ненавідзець.

Эстэр. Брэд хворага выабражэньня!

Раман. Не, ты скажы мне ў вочы, я-ж бачу.

Эстэр. Чаго ты прычапіўся?

Раман. Скажы, што я зрабіў такое, што ты ўзьненавідзела...

Эстэр. Нічога ты не зрабіў, супакойся і адчапіся!

Раман. Не, ты-ж заўсёды была праўдзівая. Скажы мне, што за прычына?

Эстэр. Ніякай прычыны няма.

Раман. У чым я вінават?

Эстэр. Ні ў чым не вінават.

Раман. Дык чаму-ж ты такая халодная? Ты пагарджаеш мяне.

Эстэр. Слухай, Раман, ну гэта-ж можна так надакучыць. Чаго ты, як смала...

Раман. Эстэр... Ня будзь гэтакаю жорсткай... Ты ня ведаеш, як мне цяжка сказаць пра тое, як я...

Эстэр (*нэрвова*). Ну што, ну што? Гавары. Толькі я наперад ведаю, пра што ты зараз валынку завядзеш...

Раман. Эстэр...

Эстэр. Пра свае пачуцьці... Знашоў час!..

Раман. Але. Пра свае пачуцьці. Пра тое, што мне цяжка бачыць, як ты зрабілася нібы маім ворагам. У тваіх вачох я бачу нянавісьць... За што!

Эстэр. Выдумляеш!..

Раман. Не выдумляю... Няма чаго хаваць праўду. Ты-ж раней кахала мяне, так?

Эстэр. Ну вось, я так і знала, што ты пра каханьне пачнеш!.. Нашоў час! Рэжуць яўрэяў, а ты з каханьнем!..

Раман. Хіба я ў гэтым вінен?

Эстэр. Усе вы цацы добрыя! „Хіба я ў гэтым вінен!“ Вам гэта нічога, што там нейдзе яўрэяў б'юць! Каб усіх яўрэяў перарэзалі, вы ў душы можа-б толькі „Слава богу“ сказалі-б!

Раман (*збляднеўшы*). Эстэр!..

Эстэр. Ну што, Эстэр! Ну што?! Ня праўду сказала? Табе няма чаго баяцца! Табе наплюваць! Ты—беларус! Ты будзеш спакойна глядзець, як нас...

Раман. Ты звар'яцела! Ты забылася, што я комсамолец!

Эстэр. Ха, ха! На тваім ілбе не напісана, што ты комсамолец! Якое няшчасьце нарадзіцца яўрэйкаю! Усякі, хто зірне на мяне, адразу прызнае за яўрэйку! Можа сягоньня ночу... які-небудзь бандыт... (*закрыла вочы рукамі*).

Раман. Эстэр! Ты толькі што абражала мяне! Назвала мяне чуць не антысэмітам.

Эстэр. Калі я гэта гаварыла?

Раман. Ты-ж сказала, што я рад буду, калі ўсіх яўрэяў...

Эстэр. Я гэта сказала не пра цябе, я сказала, што ёсьць такія людзі...

Раман. Усё роўна, я ня злуюся... я бачу, што ты інстынктыўна ўзьненавідзела мяне, толькі за тое, што я—беларус...

Эстэр. Няпраўда!..

Раман. Няхай сабе так. Я ня вінен у тым, што беларусам нарадзіўся. Скажу толькі, што зараз... я хацеў-бы быць яўрэем!

Эстэр. Сказаў! Няма ніякай выгады!

Раман. Не. Ты болей любіла-б мяне, ты верыла-б мне...

Эстэр. Я табе веру.

Раман. У тваіх вачох я ня чытаў-бы нянавісьці!

Эстэр. Раман! Не зважай на тое, што я сказала. Мала што скажа чалавек, калі ў яго гора!

Раман. Ты думаеш, я не адчуваю тваё гора? Можа яно мне больш балюча, як табе! Эстэр! Ты баішся сьмерці?

Эстэр. Хто сьмерці не баіцца! Але я ня так за сябе, як за бацькоў... І маленькі брацік. Ой, што гэта будзе!.. (*адвярнулася, каб схаваць сьлёзы на вачох*).

Раман. Эстэр! Каб ты ведала... калі будзе якое няшчасьце, я не пакіну цябе, клянуся! і тваіх бацькоў... Рад буду жыцьцё пакласьці за цябе! Ты мне ня верыш?

Эстэр (*ціха*). Веру.

Раман. Вось глядзі, я дастаў браўнінг і дванаццаць набояў. Можна дванаццаць чалавек напавал... Я добра ўмею страляць. Хочаш, я сягоньня ўночы буду пільнаваць твой дом?

Эстэр. Дзякую. Выбачай, калі я што дрэннае сказала. (*Зьбіраюцца комсамольцы. Ува ўсіх невясёлыя твары. Адчуваецца нэрвовы настрой і вялікая занепакоенасьць. Сэкратар ячэйкі адчыняе сход*)!

Сэкратар. Таварышы, усе сабраліся?... Сягоньня ў нас зачынены сход. Тое, пра што мы будем тут гаварыць, я думаю, разносіць па мястэчку ня варта, нават бацьком сваім ня раду гаварыць, каб не падымаць дарэмна страх.

Голас. Ты толькі сам страху не падымай!..

Сэкратар. Я страху не падымаю. Справа такая, таварышы, што толькі што прышлі вельмі трывожныя весткі: Чырвонец рыхтуе ўдар на Крычаў!.. Ужо можна не сумнявацца, што не сягоньня, дык заўтра ўночы прыде Чырвонец руйнаваць Крычаў! (*Пауза*).

Голас. Хто сказаў? Адкуль гэта вестка?

Сэкратар. Учора ўночы у вёсцы Чырвоны Бор за дванаццаць вёрст адсюль Чырвонец на сходе падбіваў сялян, каб яны далучыліся да яго на пагром Крычава. Тым часам прагаварыўся, што ўжо шмат сялян згадзіліся і пойдуць з ім разьбіваць Крычаў!

Голас. Ці ведаюць пра гэта у Чэрыкаве?

Сэкратар. Нас папярэдзілі пра гэта з Чэрыкава. Сяляне прыслалі пасланца ў Чэрыкаў, які расказаў усё. Яны ледзь не злавілі Чырвонца, але ён выдраўся.

Галасы. Што-ж у Чэрыкаве? Ці дадуць нам якую дапамогу? Чаму сюды ня йдзе атрад Расамахі? Там сьпяць у Чэрыкаве! Гэта злачынства—кінуць нас на гібель без дапамогі! Што робіць атрад Расамахі!!

Сэкратар. Таварышы! Дарэмна так меркаваць, што ў Чэрыкаве ніхто ня думае, што нам пагражае небясьпека! Але-ж трэба ім падумаць і пра сябе... Атрад Расамахі ня можа прысьці сюды на абарону Крычава.

Галасы. Што гэта за атрад, калі ня можа справіцца з кучкай бандытаў!

Сэкратар. З аднымі бандытамі можа і ня цяжка было-б справіцца. Але ёсьць пэўныя весткі, што яны не адны: за імі ідуць сяляне —кулакі, а можа і сераднякі, якіх бандыты загітавалі. Вось і злаві іх усіх! Адно можна сказаць напэўна, што мы маем справу з нязвычайна хітрым ворагам. Чаму мы ня можам спадзявацца на дапамогу атраду Расамахі? Таму, што атрад ні на хвіліну ня можа пакінуць Чэрыкаў без таго, каб яму не пагражала небясьпека быць зруйнаваным шайкай Чырвонца! Параўнайце Крычаў і Чэрыкаў. Там усе павятовыя ўстановы, фінаддзел, грашовыя знакі. Мільёны народнага дабра! Ясна што бандыты на Чэрыкаў зубы гострацуь. А ў нас, таварышы, што ёсьць? якія багацьці? Калі самыя багатыя людзі мястэчка, гандляры, паўцякалі ў Маскву. Выехалі Элькіны, Фрыдбэргі, Зусьманы... Засталася толькі бедната, адна галота. Ёсьць чым пажывіцца ў нас бандытам?

Голас. Нашай крывёю!

Сэкратар. Хіба што. Думаю, што з гэтага ім выгады няма. Дык вось што, таварышы, мы ня можам асудзіць сэкрэтную пастанову укому аб тым, што атрад змаганьня з бандытызмам павінен не адлучацца

з Чэрыкава, покуль ня прыдуць новыя часьці! Да справы, таварышы! Нам трэба ўзмацніць самаабарону. На комсамол нам прыслалі яшчэ пятнаццаць вінтовак. Значыць, усяго ў нас будзе трыццаць пяць узброеных комсамольцаў...

1-я камсамолка. Пра комсамолак забыліся!

2-я комсамолка. Чаму ніводнай з комсамолак ня далі вінтоўкі? Я думаю, што некаторыя з нас ня горай за іншых хлопцаў.

Сэкратар. Вы страляць ня ўмееце. Каб каго з нашых не пазабівалі.

1-я комсамолка. А вы ўмееце? Навучымся!

Сэкратар. Можам прагаласаваць...

Галасы. Даць вінтоўкі дзяўчатам!..

... Хай нароўне будуць з намі!

... Ня ўсім! Толькі самым дужым!

Сэкратар. Хто за тое, каб... (*усе падымаюць рукі*). Ну, добра. Новыя стральцы прыбылі. Цяпер у нас толькі адзін лёзунг: ні воднага комсамольца, які ня ўмеў-бы страляць! (*Галасы: Правільна! Усе павінны навучыцца страляць!*) А то-ж мы, таварышы, вельмі-ж дрэнныя ваякі! Хоць бы ўзяць гэтакі факт. Учора ўночы наш „Комсамольскі пікет самаабароны“ а дванаццатай гадзіне рабіў абход вуліц, дый напароўся на профсаюзны пікет. У страха вочы па яблыку: упоцемку падумалі, што бандыты! Некаторыя нашыя з перапуду кінуліся бегчы. (*Крыкі: „Хто? Хто! Ганьба!“*). Ня буду называць іх, сапраўды сорам! Але ня меншы сорам і тым, хто падняў страляніну! Добра яшчэ, што ня ўмелі страляць! Відаць: у неба папалі! (*сьмех*). Не, гэта вам ня сьмех! Горай было-б, каб мы сваіх братоў пазабівалі-б. Гэта нам, таварышы, горкая практыка! Адно павінен помніць кожны комсамолец: не баяцца за сябе! Толькі за другіх! І, таварышы, нам няма чаго баяцца за сябе! Мы навучымся страляць! Самаабарона Крычава—пяцьдзесят узброеных людзей з комсамолу і профсаюзу! І ніякі Чырвонец нам ня страшны! Калі трэба, ляжам касьцьмі, а не дапусьцім.

Іоська. Мне слова!

Сэкратар. Гавары.

Іоська. Кожны з нас, таварышы, павінен падумаць аб тым, як бараніць сваю сям'ю, як ратаваць сваіх бацькоў ад сьмерці!..

Раман. Няправільна гаворыш! Калі кожны з нас будзе думаць толькі пра сваю сям'ю...

Іоська (*зьнішчажаючы паглядзеў на Рамана*). Добра табе гаварыць так, калі ты не яўрэй! Табе за жыцьцё бацькоў дрыжаць ня прыходзіцца. Твая матка штоноч паліць лямпадку перад бажніцай, абразы нарыхтавала, каб бандыты, божа барані, за яўрэяў не палічылі!

Голас. А можа і ў самога яго дзе небудзь крыжык ляжыць пра ўсякі выпадак!

Раман. Таварышы! Дайце мне слова!

Іоська. Пачакай, я йшчэ ня скончыў. Таварышы, мы ўжо ведаем, што перад тым, як напасьці на Чырвонапольск, бандыты перарэзалі тэлеграфныя правады, а потым ужо напалі на пошту. Я думаю, што і ў нас так сама будзе, і калі пошта дасьць нам сыгнал, што тэлеграфная сувязь з Чэрыкавым перарвана, гэта ўжо будзе значыць, што бандыты блізка ад нас, і мы павінны адразу-ж выступіць, ні хвіліны ня траціўшы, на ўсіх крайніх вуліцах зрабіць заставы і даць дружны адпор ворагу!..

(*Сэкратар дае слова Раману*).

Раман. Таварышы! Я ведаю, што словы мае вы спаткаеце з абурэньнем, але я павінен сказаць, бо гэта мяне мучыць і не дае спакою! Набліжаецца страшная хвіліна для ўсіх нас! Для ўсіх нас, кажу я: ня толькі для яўрэяў, а і для нас беларусаў—комсамольцаў і рускіх! Мы ведаем, што ў Краснапольскім пагроме загінулі рускія і беларусы—комсамольцы! Бандыты іх усіх наперачот ведалі, знаді нават, дзе ў кожнага з іх хата! Набліжаецца страшная хвіліна і, здавалася, у нас у комсамоле павінна-б была быць еднасьць. Ці ёсьць яна у нас? Няма! Успомніце! Да Чырвонапольскага пагрому ці была ў нас ў комсамоле хоць якая-небудзь розніца між яўрэем, рускім ці беларусам? Сьмешна было аб гэтым думаць! Усе былі роўныя! Але вось прамчалася страшная навала, і мы пахавалі нашых Чырвонапольскіх таварышаў! Ці было гэта гора толькі для яўрэяў? Не! Для ўсіх нас! Успомніце: хто з нас ня плакаў над трагічнай сьмерцю Додзіка? Для ўсяго комсамолу гэта было вялікае гора! Але пасьля пагрому мы беларусы і рускія (нас меншасьць у комсамоле) адчулі нейкі холад з боку яўрэйскіх таварышаў (*голас*: *Няпраўда*, *выдумляеш!*). Не, таварышы, будзем праўдзівы. На нас сталі глядзець, як на чужых, падазрона. Што за прычына? На нас стараюцца не глядзець або глядзець коса, недаверліва... Мой лепшы друг, за якога я ў агонь і ваду палезу, як бы ўзьненавідзеў мяне, і сягоньня я пачуў у запале кінутыя словы: „Можа ўсе вы, беларусы, у душы радуецеся, што нехта яўрэяў рэжуць!“ (*галасы*: *„хто гэта сказаў? хто?“*). Як вытрываць такую страшэнную абразу?! Якая другая абраза зраўнаецца з гэтай! Цяпер мне ясна. Чырвонец рэжа яўрэяў. Чырвонец—беларус. А! Значыць і ўсе беларусы гады і ненавідзяць яўрэяў! Не, таварышы, так гаварыць ня можна, бо ў кожнай нацыі ёсьць свае зладзеі і душагубы, прадаўцы і шпіёны! Дакажэце мне, што ўсе беларусы ненавідзяць яўрэяў, і я зракуся свае нацыі! Хай я буду яўрэй і разам з яўрэямі падзялю іх няшчасьце! *(Бурныя воплескі)* Трэба, таварышы, памятаць, што Чырвонец для нас не беларус і ня рускі, а толькі міжнародная сволач! Вось якой ён нацыі! (*Бурныя воплескі*). Таварышы! Набліжаецца страшная хвіліна! Будзем усе, як адзін! Ня трэба розьні! Той, хто сее розьнь сярод нас, памагае Чырвонцу. Ад імя рускіх і беларусаў-комсамольцаў заяўляю, што мы будзем змагацца супроць Чырвонца ў першых радох і гатовы пакласьці

сваё жыцьцё на абарону вас і вашых бацькоў!.. *(Воплескі пераходзяць у авацыі. Раману цісnуць рукі. Усе стараюцца нешта сказаць, з нечым спрачаюцца. Гул. Эстэр прыхільна глядзіць у вочы Раману).*

Сэкратар (*звоніць*). Таварышы! Мы павінны падзякаваць Раману за яго шчырую прамову. Але-ж трэба сказаць і тое, што ён вельмі згусьціў фарбы... (*стук у дзьверы*). Іоська! пагляні, хто там, і скажы, што у нас зачынены сход. (*Іоська ідзе за дзьверы і вяртаецца*).

Іоська. Тут прыехаў верхавы з атраду Расамахі. Просіць дазволу ўвайсьці. Хоча нешта сказаць нам вельмі важнае.

Галасы. Няхай войдзе. Пусьці яго.

Іоська (*за дзьверы*). Уваходзьце, таварыш.

(*Уваходзіць Кот. У доўгім кавалерыйскім шынэлі. Афіцэрская скураная торбачка праз плячо, барашкавая, дажджом змочаная, папаха. Аддаўшы чэсьць, загаварыў, нібы рапартуючы.*)

Кот. Здаровы, хлопцы! Я з атраду змаганьня з бандытызмам, камандзір узводу Кот. Зьявіўся сюды экстрана па даручэньню самога таварыша Расамахі атрымаць некаторыя сэкрэтныя весткі наконт таго, як у вас пастаўлена самаабарона ў Крычаве. Я павінен высьветліць, чаго ў вас не хапае для самаабароны, і даць тую ці іншую параду. Вось мае дакумэнты. Калі ласка. (*Працягнуў некалькі паперак старшыні сходу*).

Сэкратар. Мы вам верым, таварыш... (*Няўважліва зірнуўшы на дакумэнты, вярнуў іх Коту*).

Кот. Цяпер такі трывожны час, што заўсёды не пашкодзіць разглядзець дакумэнты.

Сэкратар. Мы вельмі рады вашаму прыезду, таварыш! І ахвотна дадём вам весткі, якія вас цікавяць. Толькі што некаторыя з нас гаварылі, што ў Чэрыкаве мала думаюць пра нас і мала клапоцяцца аб нашай самаабароне...

Кот. Не, таварышы, гэта зусім ня так. Мы думаем пра вас, і мой прыезд пра гэта сьведчыць! Мы ўсё зробім для таго, каб выратаваць Крычаў. Мы, праўда, ня можам прысласць сюды атрад, але вельмі можа быць, што нават заўтра мы прышлём з дзесятак добрых стралкоў для ўзмацненьня вашай самаабароны! (*Радасныя воплескі*).

Сэкратар. Якія весткі, таварыш, вы хочаце дастаць у нас?

Кот. Я толькі што гаварыў з сэкратаром профбюро таварышам... як яго?.. Забыўся яго прозьвішча.

Сэкратар. Захарчуком?

Кот. Во, во... Пра самаабарону. Ён накіраваў мяне ў комсамол, паколькі вы таксама прыймаеце ўдзел у самаабароне. Першае пытаньне, што мяне цікавіць: з чаго складаецца самаабарона?

Сэкратар. З членаў профсаюзу і комсамольцаў, узброеных вінтоўкамі. Таксама і міліцыя.

Кот. Так. Колькі такіх у вас людзей?

Сэкратар. Блізка пяцьдесят чалавек.

Кот. Гэта многа. Гэта добра.

Сэкратар. Але-ж мы слаба арганізаваны. Мы-ж не вайсковыя... Баюся, што у нас якбы толькі дэкарацыя самаабароны.

Кот. Страляць умееце?

Сэкратар. Вельмі слаба. Бадай што зусім ня ўмеем.

Голас. У неба пападаць можам! (*Сьмех*).

Кот. Усё-ж такі, колькі сярод вас комсамольцаў, якія могуць стварыць сапраўдную пагрозу бандытам?

Сэкратар (*зьдзіўлена*). Таварыш! Мы ніякай пагрозы бандытам не ствараем. Яны—нам!

Кот. Таварыш! Дрэнны той абаронца, хто не зьяўляецца пагрозай бандытам! (*Галасы—правільна!*)

Сэкратар. Мы можам выставіць пад вінтоўку 20—25 комсамольцаў. Нават сярод нас ёсьць і дзяўчаты, якія пажадалі ўзброіцца. Але ўсё гэта, таварыш, ня можа стварыць сур'ёзнай пагрозы. Мы бадай што ня ўмеем з вінтоўкай...

Кот (*азірнуўшы усіх*). Ну вось уявім сабе... Зараз будзе напад бандытаў! Што вы зробіце? Куды вы? (*Сярод комсамольцаў рух трывогі. На некаторых тварах адлюстраваўся сполах. Замітусіліся. Двое з комсамольцаў-хлапчукоў з пераляку зрабілі спробу пабегчы, але іх спынілі старэйшыя таварышы*).

Сэкратар. У нас намечаны некалькі пунктаў, куды мы павінны зьявіцца па першаму сыгналу.

Кот. (*Рэзка, па вайсковаму, нібы загадваючы*). Якія пункты? Дзе яны? Плян Крычава ў вас ёсьць?

Сэкратар. Ёсьць.

Кот. Давайце яго сюды!

Сэкратар. Зараз. (*Выймае плян і паказвае*).

Кот. (*Разглядаючы плян*). Адзначце мне гэтыя пункты алоўкам.

Сэкратар. Вот... і вот.

Кот. Таксама пакажэце мне месцы, якія вы лічыце асабліва небясьпечнымі пры нападзе.

Сэкратар. Вот пошта... Па прыкладу Чырвонапольска мы думаем, што бандыты ў першую чаргу нападуць на пошту. Потым: вось будынак волвыканкому і міліцыі.

Кот. А дзе тут каапэрацыя?

Сэкратар. Вось гэта каапэрацыя, тут-жа поруч і крамы прыватнікаў.

Кот. Ага. Я думаю, вы таксама лічыце небясьпечным месцам і яўрэйскія кварталы?

Сэкратар. Вядома, гэта, можна сказаць, самае небясьпечнае месца.

Кот. Пакажэце мне гэта месца на пляне. Адзначце, калі ласка, алоўкам.

Сэкратар. Вось тут па гэтых вуліцах жывуць яўрэі.

Кот. Так. Цяпер мне ўсё ясна. Вось што... Я папрасіў-бы вас... У вас ёсьць яшчэ такі плян мястэчка? Можаце дастаць?

Сэкратар. Дастаць можна. А што?

Кот. Гэты плян з вашымі адзнакамі я хацеў бы ўзяць з сабою. Я думаю зрабіць т. Расамасе падрабязны даклад аб усім, што вы мне сказалі. Гэта вельмі важна...

Сэкратар. Калі ласка, вазьмеце... Калі ласка.

Кот. Вельмі ўдзячны. (*Хавае плян*). Вось і ўсё, аб чым я хацеў дазнацца. Цяпер, таварышы, на разьвітаньне я вам вось што параджу. Як мага болей захоўвайце поўны спакой! Ніякой панікі і поўная дысцыпліна! З свайго боку мы, канешне, падтрымаем вас і заўтра-ж мы прышлем сюды інструктароў, якія навучаць вас стральбе (*воплескі*) і г. д. Усяго найлепшага! Бывайце здаровы! (*Выходзіць. Некаторыя комсамольцы праводзяць яго за дзьверы*).

Галасы. Як-бы троху на сэрцы палегчала!

...Вось гэта чалавек! Адразу відаць—вайсковы!

...Такі чалавек не пабаіцца і на ражон палезьці!

Раман. Хлопцы... Я ня ведаю, як каму, а мне нешта ён здаецца падазроным...

Сэкратар. Як падазроным? Што ты ў ім убачыў падазронага?

Раман. Ты добра прагледзеў яго докумэнты?

Сэкратар. Ён-жа мне іх сам паказаў... Калі-б яны ў яго былі не ў парадку...

Галасы (*да Рамана*). Што ты падазронага ў ім знашоў?

...Мы нічога не заўважылі!

Раман. Нешта ён дужа падрабязна аб усім выпытваў... І потым плян узяў... На што ён яму? Як сабе хочаце, а гэта падазрона... (*Пауза. Усе непакойліва пераглянуліся*).

Сэкратар (*Раману*). Ты думаеш, што ён не з атраду Расамахі.

Раман. Я ня ведаю. Можа мне так здалося...

Сэкратар. А! Мы зараз дазнаемся... Ён сказаў нам, нібыта толькі што быў у Захарчука. Мы з ім пагаворым. (*Звоніць у тэлефон і бярэ трубку*). Профбюро!.. Таварыш Захарчук? Гэта з комсамолу... Так, гэта я Таварыш Захарчук, да вас толькі што заходзіў Кот?.. Не, чалавек Кот. Прозьвішча такое. З атраду Расамахі. Ён толькі што быў у нас і сказаў, што гаварыў з вамі аб самаабароне. Што?.. Як ня быў?.. Вайсковы ў папасе? Ня быў?... Хлопцы! Мы, здаецца, папаліся... Можа гэта быў бандыт?...

Галасы. З Чэрыкавым пагаварыць! Па прамому проваду! З атрадам Расамахі...

...Ці ёсьць там такі Кот?

Сэкратар (*звоніць у тэлефон*). Пошта? Як найхутчэй злучыце з Чэрыкавым. З атрадам Расамахі... Што? З комсамолу. Экстраны выпадак! Тэрмінова! (*Пауза. Вешае трубку. Усе напружана маўчаць. Тэлефон звоніць*). Атрад змаганьня з бандытызмам. Гаворыць Крычаўскі

комсамол. Хто пры тэлефоне? Дзяжурны?.. Толькі што да нас зьявіўся нейкі вайсковы і сказаў нам, што ён з атраду тав. Расамахі. Паказаў нам дакумэнты на імя Кота. Ён сабраў у нас весткі наконт самаабароны Крычава і паехаў. Але нам ён здаўся падазроным, і мы хочам ведаць, ці сапраўды ёсьць у адрадзе такі камандзір узводу з прозьвішчам Кот і ці пасылалі яго сюды да нас? Што?.. Кот зараз у Чэрыкаве?.. І не адлучаўся?.. (*Гаворыць да комсамольцаў*). Хлопцы! Мы памыліліся! Гэта быў ня Кот!.. (*У трубку*). Тав. дзяжурны! Паведамце пра гэты выпадак атрад... Вы мяне слухаеце? А?.. Што такое? Няма адказу! Атрад змаганьня!.. Вы слухаеце?.. Што за чорт! *(Вешае трубку і звоніць).* Пошта! Пошта!.. Ніхто не адказвае!. (*Павесіў трубку. Зьбляднеўшы да ўсіх.*) Хлопцы! Тэлефон не працуе! Бандыты перарэзалі дрот! зараз будзе напад на мястэчка!..

(*Разам падняўся шум, мітусяніна. Некаторыя кінуліся да вінтовак. Недарослыя комсамольцы паднялі енк: „Ой што гэта будзе! Што гэта будзе!“*).

Раман. Бяз гвалту! У поўным парадку!.

Таварышы! Нападу можа і ня быць. Перад Чырвонапольскім пагромам бандыты кожную ноч рэзалі тэлефонны дрот! Але мы будзем гатовы! Бярэце вінтоўкі!.. Потым дзяўчат адвесьці ў маю хату! Там іх ніхто не пакрыўдзіць!.. А мы пойдзем! Хутчэй.

Эстэр. Раман! Я з табою пайду!..

Раман. Цябе могуць забіць!

Эстэр. Я не баюся! Я вазьму вінтоўку!

Раман. Ты ня ўмееш страляць!

Эстэр. Раман! Я хачу з табою!..

Раман. Ня можна. Як навучышся страляць...

Усе гатовы? Тушы лямпу! Хадзем!

(*Разабраўшы вінтоўкі, комсамольцы выходзяць. Лямпа тухне*)

**Максім Лужанін**

# Мініатуры

## Маёвае

Плошча палошча сьцягі
радыё радасьць іргіць.
Звонкія словы прысягі:
— Жыць! Будаваць! Бараніць!

Сонца у новай квадры,
зьдейсьніла сны Беларусь!
Оркэстры усіх тэатраў
слова сабе бяруць.

Доўга мы радасьць хавалі
і закрывалі чало!
Хваляцца гоманам хвалі
мора юнацкіх галоў.

Шэрагі стройна, шчыльна
для перамог і страт.
Выходзьце вітаць, жанчыны,
першы вясновы старт.

Волі ніхто не зламае!
кажа узрушаны марш.
Песьня рабочага маю
ў грудзі сусьвету удар!

Хай наша сонца сьвеціць
там, дзе сягоньня рабы,
хай прабягуць па плянэце
заклікі да барацьбы!

Каб пераможным сьцягам
плошчу сусьвету акрыць—
падаюць словы прысягі:
— Жыць! Будаваць! Бараніць!

## Мой пакой

I

Пацалаваў сваю красу
і выбіраюся спагадна
туды, дзе часта ходзіць сум,
і вельмі рэдка госьціць радасьць.

Прыхову стомлены такі—
мотыў няскончанае песьні—
і сьлед жаноцкае рукі,
як успамін на пыльным крэсьле.

Кніжок паліца... Супакой...
На бедным століку сарвэтка.
Кладуся спаць... А за сьцяной
сьпявае слаўная суседка.

II

Прысьняцца вербы над ракой,
дзяўчына любая прысьніцца.
Вітаньне, ціхі мой пакой,—
прытулак ціхай навальніцы.

Ня трэба славы звон і дым,
хай імі ўцешацца паяцы,
а я здаволены адным,
што можна жыць і захапляцца.

Надранак разматаў навой,
і вочы сьлепнуць... Годзе, годзе!
Запахла леташняй травой
і недзе, мусіць, сонца ўсходзіць.

## Здрада

Стукаю... ..І няма...

Але нашто гаварыла?
Дождж. Акно... Роман...
Сум пад асеньнім грымам.

І абвяшчае шкло
ветру ў махнатыя вушы:
сэрца яе пашло,
дзьверы наглуха замкнуўшы.

* * *

Зноўку на хісткім чаўне
здрада праменьне шуфлюе..
Я зашпіляю каўнер
тонкай шаўковай кашулі.

Быў-жа заўжды на расхліст—
ў радасьці, так-жа ў суме.
Леташні жоўты ліст
топіць тугу у студні...

## Сьмерць

I

...Белымі палотнамі ўкрылася душа...
Скончана...
Скажа ці ня скажа?
— Ці трэба, каб кожны гэтак ляжаў?
— Як жа-ж!

На лёгкіх крылах вылецеў вястун,
спавясьціўшы што ноч, а ня вечар.
Ціха без папытаньня насунуўся сум.
...Сум...
...Сьвечка...

II

Кволымі нагамі—бедная дзяўчынка—
у белай хусьцінцы туга прышла.
Сэрца папрасілася ў адпачынак
і ніхто ня здолеў заставіць шлях.

Доўга і жаласна гаманілі суседкі,
прыпынілі гадзіньнік і люстра—ў тугу.
Дзень паклікаў ісьці неадступна гэтак:
а восьмай гадзіне гудок загуў.

Але ўсё-ж мігацелі, чакаючы прошчы,
непагашаных сьвечак даўгія языкі,
і ляжаў на стале неаплаканы нябожчык,
пужаючы вострым аблічам сваім.

III

Будавалі новы дом,
заклікалі ў госьці шчасьце...
Смутак змораным крылом
ваканіц кратаўся часта.

Ціха вынесьлі труну.
паплыла у кроках роспач...
Пальцы ветру цішыню,
цішыню будзілі востра...

А на могілках лісты
абляталі—адвітацца,
і чакалі цемнаты
сьлёзы жоўтыя акацый.

І застаўся новы дом,
адзінокі, адзінокі...
І туга сваім крылом
акрывала цёмны покут.

# Вясновы сыгнал

Es war die Zeit wo scheidend des Winters Macht verging und wo neu Vögel Wettgessang anfing.

**Гэта была пара, калі зьнішчалася ўлада зімы, і птушкі пачыналі сьпяваць адна перад аднэю.**

**Песьня аб Нібэлюнгах.**

Вераб'і.
Красавік.
Вясновы сыгнал:
— Мой даражэнькі!
У поэтаў станьнела туга—
пачак на тры капейкі.

Не спрачайся! Старэйшыя выраклі.
Што-ж ты зробіш! Жыцьцё!
І паедзе любоўная лірыка
ад Скарыны
да нашых дзён.

Можна будзе за месяц,
з агорклых пяшчотаў
і з паўторанай усімі касы —
на ўсю Беларусь наплесьці рашотаў
і выткаць тысячу сіт.

І пачнуць, як крыклівыя галкі
высьцілаць пацалункамі даль.
Цалаваць трэба раз,
але палка,
каб закіпела ў рацэ вада.

І каб было ў пацалунку гэтым
ўсё, што цьвіло і цьвісьціме пазьней,
ад Адама —
гэтак званага першага чалавека,
і да апошняга поэта,—
гэтак званага мяне.

А то — выяжджае абоз:
— песьняры!
А халодныя—нават, як б'юць з гарматаў.
Хто радзіўся гарэць—згарыць,
а другога і ў дол палажаць гарбатым.

І каб прыкрыць 'весь мяшчанскі гас,
каб вэлюм надзець на цьвілыя зёлкі—
павядуць каханьне ў калгас
і прысьвецяць верш комсамолцы.

А крытык, здурнеўшы ў спляценьнях слоў,
гэтай найясьнейшай халтуры,
скажа, нахмурыўшы важна лоб:
— про-ле-тарская лі-та-ратура!

Хай бы чытаў „поэту“ „поэт“
але нам грэшным завошта кара?
бо паплыве-ж уся дрэнь у сьвет,
у тысячах экзэмпляраў.

Часта думаеш:—дзіўната!
ўсё жывое заўжды захапляе,
а вершы толькі вазьму чытаць,
зараз-жа засынаю.

Буду упарта казаць:
сьмяцьцё!
і ў поэзію не паверу,
пакуль не адчую пад словам жыцьцё,
а ня голы лісток паперы.

Пакуль праз радок ня выступіць кроў,
пакуль ня прыдзе тая самая сіла,
што поэта ў гадзіны сноў
мучыла і крышыла.

Калі, як шалёны, ішоў дамоў,
сьцяўшы роспач зубоў—
— пастой-жа!
і казаў да сябе дзесяткі прамоў,
сокал і сьлізкі смоўж.

Я хочу, каб пульсам уздрыгваў век,
каб быў чалавек, а ня проста апара,
і каб тварыў жывы чалавек,
а не гальштук і піджачная пара.

Досыць ужо спачываць,
у снох конструкцый і інкрустацый.
Мы-ж таксама умеем кахаць,
як жыць,
будаваць,
змагацца.

Поэту да сонца даўно пара дайсьці,
бо на электро-вышках нашых вякоў—
вырастае вялізманны вобраз радасьці
з міліённага штабу будаўнікоў.

Няхай і сум часамі прасочыцца,
толькі жывы,—не з бялізны і ложка.

Пішэце добра пра ўсё, што хочаце
і пра каханьне—
— можна!

Ніводнага слова днямі залістанага
сплямленага позаю, а не тугой.
Ніводнага радка напісанага—
створаныя ўсе да аднаго!

Дык зьвінеце літаўры, што жыць мы патрапілі,
калі шчасьце бяруць,
а ня бачаць у снох.
У нагу з вясною радкамі нязграбнымі,
але шчырымі—перш за ўсё!

А каб з памяці гэта ня выкрасьлілася,
і каб думкі на базе дарма не ляжалі,
пад усім, што сказаў
падпісваюся—

*Максім Лужанін*

12-я вясна Кастрычніка.

А. Мрый

# Запіскі Самсона Самасуя

(*Канец*)

## VII. Увязаць, узгадніць трэба...

Праз два дні пасьля гэтых падзей я, каб забыцца на тую моральную поўху, якую нанесьлі мне на грунце каханьня, і зьнішчыць агульную апатыю майго організму, пачаў пільна займацца сваімі справамі.

Я—асноўны рычаг культуры ў раёне, мае абавязкі вельмі складаныя. Апрача непасрэдных функцый загадваньня культаддзелам і кіраваньня дзейнасьцю 80 настаўнікаў, у мяне ёсьць шэраг іншых, часам вельмі турботных, конфідэнцыйных і неакрэсьленых дырэктывамі, статутамі і дэкрэтамі абавязкаў.

Вось яны, мае абавязкі і функцыі.

Я—сябра РВК, старшыня дзіцячай камісіі, старшыня т-ва „Прэч несьвядомасьць“, т-ва „Няхай гадуюцца дзеткі“. Я—сябра праўленьня т-ва прыхільнікаў „здахаты на буржуазею“. Я—раённы інспэктар працы і павінен бараніць служачых ад эксплёататарскіх замахаў загадчыкаў устаноў.

Я— сябра жаночай камісіі РВК і ў гэты дзень па каляндарнаму пляну павінен быў абмеркаваць некаторыя пытаньні з старшынёй жанаддзелу т. Домнай. Я—райліт і райахова здароўя, райМОПР, райхім. А самае дзіўнае для мяне гэта тое, што я сябра раённай абортнай камісіі.

Гэтыя абавязкі і функцыі я атрымаў у спадчыну ад папярэднікаў сваіх. А цяпер мяне запісалі яшчэ ў саюз паляўнічых і прапанавалі заўтра раніцою, як толькі вылезе сонца, прыняць удзел у аблаве на бяспрытульных сабак мястэчка. Таксама не забыліся запісаць мяне ганаровым пажарнікам і прасілі прыняць удзел у пробнай пажарнай дэмонстрацыі, якая адбудзецца праз тыдзень, ноччу ў нядзелю.

Адным словам, чалавек, у якога ёсьць вочы, вушы і мазгавы апарат, ня можа ня прызнаць, што міжгулыньдзіцца мне некалі, ёсьць над чым працаваць.

А тут прышоў яшчэ Шкулік Зізь і настойна прасіў мяне ўзяць самую галоўную ролю ў п'есе „Мораль т. Закандырына“, якую яны пакажуць праз 3 тыдні публіцы. П'еса ў 7 дзеях і 48 малюнках і збор на карысьць т-ва „Прэч несьвядомасьць“.

Мне даюць ролю нейкага Вірлы, які павінен ня толькі гаварыць і бліскаць вачыма, але яшчэ добра сьпяваць, скакаць, займацца стралянінай і фізкультурай.—Для гэтага героя неабходна буйнае аблічча, паважная фігура, гучны, як Ярыхонская труба, голас і плястыка ў рухах!—сказаў Зізь.

Ну што ты скажаш? Прышлося мне згадзіцца: дзе-ж яны знойдуць гэроя? Я ва ўсякім выпадку на 100% задавальняю гэтым патрабаваньням.

У гэты дзень я вельмі ўпарта і самааддана працаваў, парадкуючы ўсе паперы паводле маіх рознастайных функцый, пішучы на кожнай паперы рэзолюцыю для майго дзелавода, заносячы ў блёк-нот ударныя заданьні.

Побач са мной была Крэйна, і думка мая між волі накіроўвалася на яе. Я, шчыра кажучы, сачыў за кожным яе крокам, за кожным рухам. Яна абмежавала дзейнасьць свайго організму і сядзела нібы застыглая. Ні разу ня зірнула ў мой бок. Толькі пальцы, як малалетнія вар'яты, скакалі па машынцы.

Лін некалькі разоў падплываў да яе, але я, даўшы кляцьбу ўсімі сродкамі перашкаджаць яму, вёў сваю лінію. Як толькі ў дзьвярах нашага пакою зьяўляўся яго глінабітны твар, я зараз-жа, ні хвіліны не марудзячы, перастаўляў свой зэдаль такім чынам, што мая асоба займала ўвесь праход да Крэйны.

Лін падходзіў, тыц-мыц, а няма чаго рабіць. Гэтая геніяльная політыка размычкі між імі рабіла Ліна, як зьвера, разьюшаным. Нібы галодны таракан, ён злосна рухаў вусамі і кідаў на мяне агнямётназлыя погляды. Па свойму ён быў у гэты момант нават прыгожым, і мне прышла ў галаву думка, што каб я быў мастаком, дык замацаваў-бы гэты інцыдэнт на малюнку „Галава мужчыны, разбэшчанага ад каханьня“.

На вялікі жаль, нядоўга я зьдзекваўся над ім. Мяне выклікалі на мястэчка для ўвязкі, узгадненьня і ўрэгуляваньня некаторых пытаньняў з рознымі ўстановамі.

Першая ўстанова, што наведаў я, было профбюро. Я пазнаёміўся з старшынёй бюро т. Мілёнкам і яго тэхнічнай сэкратаркай т. Беленькай. У яго ружовае аблічча, зграбна пашыты піджак, чырвоная шаўковая хустачка ў грудным кішэні, перапялёсы гальштушак, усе зубы ў роце і ціхая ласкавая, журчлівая гаворка. У яе здобная, батонная фігурка, заплыўшыя ружовым тлушчам вочкі, пульхлыя крухмальнабелыя ручкі і моцныя, крутыя ногі.

— Малачко з кроўю!—падумаў я, і на хвіліну маё фізычнае ўспрыманьне гэтай дзяўчыны выціснула з мае галавы чароўны вобраз Крэйны.

Сваёй гутаркай з профбюро я быў вельмі здаволены.

— У нашых савецкіх працаўнікоў,—сказаў я,—няма грамадзкай рошчыны! З гэтае прычыны наша культпраца кульгае на ўсе чатыры нагі! Нічым нельга зацікавіць, і нават мікробы рэлігіі пралезьлі ў наш грамадзкі організм.

— Але!—сказаў т. Мілёнак.—Я далучаюся да вашай думкі, што неабходна ўнесьці новы зьмест у працу, надаць ёй і другія формы.

Мы ўмовіліся ў бліжэйшы час склікаць нараду па пытаньнях культпрацы.

Я накіраваўся ў больніцу, але па дарозе зайшоў на тэлефонную станцыю. Яна зьмяшчалася ў папоўскім доме, на 2-м паверсе, у невялікім пакойчыку, дзе супроць вакна стаяў столік з апаратурай і каля дзьвярэй шафа.

Дзьверы былі зачынены знутры. Я пастукаў, нейкі шолах там і ні слова. Тады я павялічыў інтэнсыўнасьць грукату, пасьля чаго пачуўся голас Сьвердзялюка:

— Зараз! Хвіліначку.

— Чаму вы зачыняецеся?—запытаў я, увайшоўшы ў каморку.

— А, ведаеце, заходзіць хто папала сюды ды варлыжуць рознае глупства, перашкаджаюць працаваць!—сказаў тэлефоністы.

Я пазваніў у РВК і запрасіў да тэлефону Крэйну.

— Т. Шуфер! Гэта я - Самасуй—гавару з вамі.. Да мяне ніхто ня прыходзіў?.. Калі хто прыдзе, няхай пачакае, я зараз прыду.

— Добра!—адказала яна адрыўным голасам.

Мне хацелася яшчэ аб чым-небудзь пагутарыць з ёю, але ў гэты час дзьверы шафы нечакана расчыніліся, адтуль зірнула перапалоханая дзяўчына і, закрыўшы твар рукамі, як птушка начная, маланкаю паляцела за дзьверы. Усё гэта такім хуткім тэмпам зьдзейлася, што я і не разгледзеў, хто гэта быў.

Я моўчкі глядзеў на злачынцу. У глыбіні свайго організму я ўсімі фібрамі спачуваў яму, але, паколькі ў маіх руках спружыны новага быту, павінен-жа я з карэньнем зьнішчаць гангрэны!

Сьвердзялюк зацяжна курыў, потым засьмяяўся:

— Бывае, усё бывае!—сказаў ён.

— І даўно ў вас гэта распуста?—тонам судзьдзі запытаўся я.

— А вы спавядаць мяне хочаце?

— Брыдка гэта! Установу перавярнуць у нешта непатрэбнае... Я гэтага так ня кіну...

— Што вы мне маралы чытаеце? Я і сам хацеў бы адкасацца, але яны насядаюць на мяне. Зараз адразу з 5 кручуся! Хочаце—калі-небудзь магу паказаць некаторыя фокусы?

— Я аб гэтых фокусах буду мець гутарку з т. Сомам!—з гонарам адказаў я.

— Калі ласка!—насьмешліва сказаў ён.—Тав. Сом трохі ведае аб гэтым. Ён і сам мастак! Аднае жонкі яму мала!

— Як вы сьмееце?—крыкнуў я і ня ведаў, што яшчэ сказаць гэтаму франту з яўнымі адзнакамі полавага дыморфізму.

У дзьвярах я стыкнуўся з настаўніцай Крутарожкай. Яна засаромілася і адвяла вочы ў бок.

Я мыгыкнуў сабе нешта пад нос і прапусьціў яе ў тэлефонку, падумаўшы злосна:

— Градзі. градзі, галубіца.

Я зайшоў яшчэ на аграпункт, які быў побач з больніцай. Там я вельмі добрую прапанову даў аграномам: вялікімі чырвонымі літарамі ў канцэлярыі вывесіць лёзунг:

„Праз карняплоды да соцыялізму“.

Побач з бальніцай была яшчэ адна ўстанова, куды я павінен быў зайсьціся. Гэта жанадзел. Я правёў доўгую і цікавую гутарку аб культпрацы сярод жанчын. Загадчыца жанадзелу т. Домна Лузбан вельмі мужная асоба, гаворыць ультра-нізкім басам („як вецер гудзе патроху!“ падумаў я) і сьмела магла-б прыймаць удзел ня толькі ў жаночым, але і ў мужчынскім чэмпіонаце. Яе сьмела можна назваць мядзьвігай. Калі яна па-сяброўску цісканула маю руку, я аж падскочыў да столі і заойкаў, як малое дзіцянё. Рост яе быў, фігуральна кажучы, такі махінозны, што боязна было за чалавека. Кожны яе крок гулка аддаваўся, як рух самакату. Мяшчанкі Шапялёўскія, якія мелі сваю ўласную організацыю „бабком“, ня вельмі паважалі т. Домну за яе адчынены характар і рашучае, бязьлітаснае змаганьне з мяшчанскім укладам жыцьця і празвалі яе „танабілем“. У Домны ёсьць муж—мініятура, якую яна можа аднэю рукою падняць у паветра і махаць гэтым, як поп кадзілам. На іншых мужчын яна не зьвяртае ўвагі і робіць выключэньне толькі для т. Сома. Кажуць аднойчы на нейкай вечарыне (з досыць абмежаваным лікам прысутных) яна нават выступіла ў фізкультурным спаборніцтве з т. Сомам і перамагла яго ў мядзьвежжай барацьбе. Перадаюць—пасьля гэтага старшыня, як кнот, запылаў фізкультурным каханьнем да Домны і, як сустрэнецца з ёю, усё мацае яе мускулы. А яна хоць бы што! Што-ж, думаю я аб т. Соме, жывы чала ек аб жывым і думае.

Т. Домна ў кароткіх рысах пазнаёміла мяне з прадпасылкамі працы сярод жанчын і далучылася да думкі аб неабходнасьці склікаць культнараду.

Потым разам з Домнай мы завярнулі ў бальніцу. Там доктар запрасіў нас у свой габінэт, і мы вырашылі 5 абортных спраў.

Першая справа батрачкі ў братоў Галавасьцікаў. Домна зьвярнулася да мяне з інформацыяй:

— Галавасьцікі—тры браты, жывуць у бацькі.

Адзін у сельска-гаспадарчай коопэрацыі, другі каморнік, трэці загадвае паравым млыном. Кожнаму з іх гадоў пад 30, а ўсе разам ад сыці шалеюць! І вось цяпер чалядка цяжарна ад іх. Гэта ўжо 8-ы аборт яна робіць. Яны і грошы даюць!

Я выступіў за тое, каб батрачку адгаварыць ад гэтага гвалту над прыродай!

— Няхай яны і плацяць! А то паном толькі й гора, што жывот баліць!

Мая прапанова была прынята, як разумная і сваячасовая. Т. Домна шчыра пагаворыць з батрачкай, накіруе яе на правільны шлях!

Другая кандыдатура—16-гадовай інтэлігэнтачкі, дачушкі адной настаўніцы. Дзяўчынка нядаўна скончыла 7-годку, шчыра закахалася ў комсомольца Дусіка—і цяпер няшчасная сцэніроўка!

— Яе ратаваць трэба!—сказала Домна.—У гэткія гады мець дзіцё!? Гэта загубіць яе і дзіцё!

Я спрачаўся, але доктар і Домна перамаглі. Была ўжо 4 я гадіна, калі я ішоў да дому. Каля самай кватэры я заўважыў Ліна, які ажыўлёна гаварыў з Крэйнай.

Зноў ён! Зноў на маім шляху!

## VIII. Грамадкая рошчына

Цэлых тры тыдні я быў заняты пякельнай працай і ня мог пільна сачыць за злачыннай дейнасьцю майго конкурэнта Ліна. Некалькі разоў я выяжджаў на раён для правяденьня колёквіумаў. Да гэтай справы я падышоў вельмі ўважліва і сумленна. Толькі дьве школы я прызнаў здавальняючымі з боку вучобы. Вучні не навучыліся грызьці навуковае каменьне сваімі маладымі зубамі. Яны ня ведаюць, хто кіруе рознымі галінамі гаспадаркі і культуры ў Саюзе, на Беларусі, ня ведаюць, што такое фашызм, імпэрыялізм, нават ня ведаюць, хто кіруе асьветай у раёне! На гэтыя недахопы нельга глядець праз памяншальнае шкло (я ўсім так і гаварыў!), нельга адгаварвацца, што яны малеча і шмат чаго не разумеюць. Хто ў гэтым вінен? Зразумела—настаўнікі, гэтыя ліхтары ў раёне! За гэта ўпушчэнства я добра прашмараваў іх.

Толькі ў дзьвюх школах на маё запытаньне, хто кіруе асьветай у раёне, вучні, як сьвядомыя байцы, адказалі:

— Асьветай у нашым раёне кіруе т. Самасуй!

Шмат прышлося паклапаціцца мне і аб рамантаваньні школ. Я наведаў усе школы і хаты чытальні. Де толькі магчыма было, я склікаў сходы сялян і праводіў ударную кампанію за новы быт.

На сходах я гаварыў сялянам агульнымі фразамі, так, як і трэба было. Я конкрэтна даводіў, што ў сялян няма грамадкай рошчыны, сьвядомасьці, дякуючы чаму і бываюць пэрманэнтныя супярэчнасьці і паганы капіталізм яшчэ часткова мае стабілізацыю. Каб зьнішчыць гэтыя недарэчнасьці, я заклікаў сходы выказаць сваё конкрэтнае я і ўзьняць гармідар за новы быт!

Мяне ўсюды ўважліва слухалі і прыймалі маю рэзолюцыю, якую я напісаў яшчэ ў Шапялёўцы, узяўшы пад увагу ўсе дэталі пытаньня.

Толькі ў в. Брылёўцы знайшліся суб'екты, якія об'ектыўна зьявіліся рупарамі дробна-буржуйскай стыхіі.

Яны організавана выступілі супроць мяне. Адін з іх, па прозьвішчу Хвёдар Трайка, чалавечак вельмі невялікага росту, увесь зарослываласамі, як шчацінай, з лупатымі вочкамі і ў зрэб'і, нахабна глядячы ў вочы мне, закончыў сваю прамову:

— Таварыш гаварыў, гаварыў нам, а мы сяделі, як мамоны глухія! Нічога не зразумелі! Нейкая птушыная мова! Як грамахвон гаварыў!

За Трайкай яшчэ іншыя хвасьцісты пасыпалі на маю галаву розныя ганебныя інсінуацыі і запытаньні. Я паабяцаў арыштаваць Трайку, як склочніка, і тады раптам усе супакоіліся. Я з гонарам гаварыў сваю заключную прамову, і рэзолюцыя была ўхвалена пераважнай большасьцю.

У другой вёсцы Забягаеўцы нейкі несьвядомы гарлапан замест мае рэзолюцыі сказаў:

— А я даю рэзолюцыю: не таўчы ў ступе вады, а ўзяцца за масты, за школы, за шляхі, за іншыя дзіркі ў нашай гарманізьме! А то ў нас, у Забягаеўцы, школа ў зямлю ўрасла і на прызьбе нават вырасла некалькі падасінавікаў!

Гэта выступленьне я кваліфікаваў, як провокацыю, дэмагогію, разьлічаную на танны эфэкт.

У трэцяй вёсцы, Радулі, вылезла адна манада, чырвона-рудая, як агонь і, хітра ўсьміхаючыся, прыплюшчыўшы свае бегаючыя вочы, сказала:

— Мне ўжо больш за 50 год. І я доўга ўсё думаў і не надумаў, што ёсьць самая дрэнная рэч! А цяпер ведаю, як паслухаў таварыша. Самая дрэнная рэч, калі розуму мала, ды калі жыта засееш, а яно не зародзіць! Маё ўсё!

А наогул, мяне вельмі добра прыймалі і слухалі, што-б я ні сказаў. Часта віталі мой прыезд, як сваячасовы. Тыя хворыя зьявы, аб якіх гаварыў я, бязумоўна, ёсьць хваробы росту і ў агульны малюнак не павінны ўваходзіць.

Для ажыўленьня культпрацы на вёсцы са мной выяжджаў загадчык нардому, пясьняр Гарачы. Сялянам на сходах ён чытаў сваю поэму „За тваім гарбатым носам нічога ня бачу“. Ён сапраўды стаўся тварам да вёскі. Вечарамі кандыбоберам хадзіў з дзяўчатамі па вуліцы, на ўсе грудзі цягнуў вясковыя прыпеўкі і, каб высока ўзьняць сьцяг поэзіі, сам новыя прыпеўкі прыдумаў. Яны вельмі спадабаліся на вёсцы. Некаторыя і мне ўлезьлі ў галаву:

Галіфэ маё худое
Разарваў я да кален.
Думаў з восені жаніцца—
Маўчыць дзевачка, як пень.

* * *

Каля нашага ваконца
Пракандыбала цяля.
Я за хвосьцік ухапіла—
Думала маё міля!

Гарачы дзяўчат навучыў сьпяваць романсы, чаго яны раней ня ўмелі. Асабліва спадабаўся романс.

Труну зялезную пастаўлю,
Абальлю яе сьлязамі.
Абсаджу яе кветамі.

О! дзяўчаты на вёсцы добрыя, крамяныя! У аднэй вёсцы нават я захапіўся складаньнем прыпевак. Я пазнаёміўся з дзяучынай Хадоркай Белабокай і на ўспамін аб дзьвёх ночках, якія прагуляў з ёю, склаў прыпевачку:

Баліць сэрца і пячонка—
Мэтазгодная дзяўчонка,
Баліць тулава, нага—
Не забуду цябе я!

А калі зьвярнуліся мы з Гарачым у Шапялёўку, мне сказалі, што за гэты час Лін некалькі разоў прыходзіў да Крэйны і наладваў пасяджэньні з ёю, зрабіў з ёю 5 экскурсій на Лютнянскае поле і лес, з невядомымі мэтамі (нібы на кірмаш?!) правёў экспэдыцыю на канёх у в. Пільну. Мала гэтага, вечарам у сваім пакоі ў РВК зачыніўся з ёю і правёў вечар самадзейнасьці, пры чым на брудэршафцік была высмактана адна бутэлька чырвонага і зьедена два кілё лахардзікаў.

Гэтыя сумныя весткі, як варам, абварылі мяне. Вечарам маё пякельнае пачуцьцё зайздрасьці павялічылася ў пяць разоў, бо ў пакоі Крэйны пачуўся непераносны для мяне голас Ліна, самаўпэўнены, задаволены. Адчуваў сябе гэгэмонам.

Мне цяжка было стрымаць свой шалёны тэмпэрамэнт! Хацелася ўварвацца ў іх мяшчанскае адзіноцтва агнёвым клубком і ўсё перавярнуць дагары нагамі. Я нагою моцна пагрукаў у іх сьцену і даў сыгнал маўчаць і не перашкаджаць мне займацца дзяржаўнымі справамі.

Лін на гэту прапанову справіў іго-го, а Крэйна пырснула. Праз хвіліну яны вышлі на вуліцу, а я, каб пазбыць дрэнны настрой, пачаў галіць вусы, бараду і нават усю галаву. Гэтая процэдура з прычыны майго тэмпэрамэнту не прашла бязбольна: я параніў сябе і вельмі моцна за вухамі, на самай макушцы і, як касой, зрэзаў барадаўку, якая мела рэзыдэнцыю на патыліцы.

Шмат крыві страціў і на хвіліну выгнаў з галавы Крэйну, сьціпаючы кроў, што цурком бегла з мае поўнакроўнай асобы.

Працы і ў мястэчку шмат было. За тыдзень я пабываў на пасяджэньні крамнай камісіі, мэтодычнай камісіі, склікаў сход інтэлігэнцыі мястэчка і местачковага актыву, схадзіў на гурток па вывучэньні пастаноў XV зьезду, зрабіў пасяджэньне ў лесе па агляду нявывезеных дроў, схадзіў і ажывіў працу сельска-гаспадарчага гуртку, правёў урачысты сход ячэйкі Мопру і наладзіў вечар спайкі з вайскоўцамі ў фізкультуры. Гэта праца троху затрымлівала бунт у крыві.

Прыехаўшы, мне прышлося вельмі няпэўную справу вясьці і нават выклікаць абурэньне цёмных сялянскіх мас.

Прыходзіць да мяне настаўнік Мамон і, як старшыня нейкага т-ва, просіць даць загад аб конфіскацыі наступных рэчаў: у гр. Сандрыгайліхі старасьвецкага пісталета вагою да 3 пудоў, у гр. Андрэя Выбейдуха старалатынскай кнігі, па якой ён займаецца чорнай магіяй і наводзіць цень на ўсіх добрых людзей, у гр. Багдана Злыбядухі рукапіснай кнігі, па якой ён лечыць жывёлу і людзей ад мэханічнай хваробы трасцы...

Мамон з сабою прывёў яшчэ нейкага маскоўскага мастака, які дамагаўся, каб я даў загад аб нацыяналізацыі некаторых абразоў у мясцовай царкве, бо яны павінны быць вывезены ў Маскву, як маючыя ўсесаюзнае значэньне.

Гэта: абраз Хрыста з трыма насамі, абраз сьвятога Лынды, вельмі падобнага на зялёную рапуху, абраз „Вочы мае выну ка Госпаду“, на

якім нейкі хударлявы, хворы, відаць на лейкэмію, сьвятоша трымае на руках вочы свае і кажа прывітальную прамову богу, урэшце, вельмі каштоўны абраз „Узыграся малойчык у чэраве маім“, на якім анатамічна разрэзана чэрава цяжарнай жанчыны, і ў гэтым орыёле сядзіць эмбрыён і на скрыпачцы рэжа!

Ой, колькі няпрыемнасьцяў прынесьлі мне ўсе гэтыя вымудры Мамона! Праўду кажучы, я і здружыўся з ім за гэты час і знайшоў свой двойнік, але колькі перашкод! У далейшым мяне чакае яшчэ больш перашкод, але я сьмела пазіраю ўперад. Перазез пярэднімі нагамі, пералезу і заднімі!—як кажа Торба.

Шмат энэргіі і дыплёматычнай лоўкасьці прышлося мне ўжыць, каб пераканаць т. Сома ў неабходнасьці даць загад аб конфіскацыі ўсіх гэтых рэчаў. Я паказваў дэкрэты, статуты, абежнікі. Урэшце даручылі міліцыі зрабіць конфіскацыю.

У гр. Сандрыгайліхі ніякага старасьвецкага пісталета не знайшлі, за тое адшукалі каля гумна нейкую дзіўную прыладу, прызначэньня якой ніхто ня ведае. Ня то бамбамёт, ня то агнямёт, ня то мінамёт. А нейкі вэтэран імпэрыялістычнай бойні сказаў нават, што гэта сьвечка генэрала Махныткі, ракета такая. Сама Сандрыгайліха гаварыла:

— Няхай мае і ногі адсохнуць, і рукі адломяцца, і валосьсе павылезе, калі я ведаю што-небудзь!

Андрэй Выбейдух у пратаколе падпісаў:

— Апрача саманавейшых кніг, ніякіх старалатынскіх ня маю і, як радзіўся, ня меў.

А Злыбядуха Багдан даў паказаньне:

— Я загаварваю людзей і жывёлу бяз ніякіх кніг і за ўсё сваё жыцьцё ў мяне ня знойдзена ніякіх кніг. Я і ня ведаю, што яны такое.

Мамон упарта давodзіў, што грамадзяне хаваюць гэтыя каштоўныя рэчы ў суседзяў.

Прышлося павальна перетрусіць усіх грамадзян. Гэта выклікала нябывалае і нячуванае ажыўленьне ва ўсім грамадзкім жыцьці вёскі. А калі да гэтага далучылі яшчэ конфіскацыю славутых абразоў, дык грамадзяне зусім ашалелі. Фанатычна настроеныя жанчыны ледзьве не пабілі мяне, калі я ішоў па вуліцы.

Т. Сом, як толькі дайшлі да яго чуткі аб гэтым, паклікаў мяне ў габінэт і насеў.

— Што ты робіш? На якога д‘ябла патрэбна табе барахло гэта?

— Гэта пытаньне вельмі важнае!—з гонарам адказаў я.—Гэтыя рэчы маюць усесаюзнае значэньне!

— Дурыла ты ва ўсесаюзным маштабе! Паглядзіш на цябе, здаецца, нічым прырода не пакрыўдзіла. А толькі розум нейкі дзівацкі!

І загадаў зараз жа спыніць кампанію.

## IX. Тонкая мэханіка

А далей падеі разгарнуліся шалёным тэмпам. Мы склікалі нараду па культпрацы ў раёне. Былі прадстаўнікі ад мясцкомаў, школ, жанаддзелу, райкому, комсомолу. На тэму аб спосабах ажыўленьня культпрацы даклад зрабіў я. Удзельнікам нарады я прапанаваў:

— Неабходна ў нардоме правесьці шэраг лекцый на жыватрапетныя тэмы!

— Заснаваць гурткі пры клюбах, асабліва рэкамандаваць два гурткі: упартай самаадукцыі і гурток па вывучэньні пэрспэктыў!

— Увесьці ў практыку культпрацы індывідуальныя даклады паасобных сяброў прафаб'яднаньняў. Сутнасьць іх: таму ці іншаму сябру ў абавязковым парадку прапануецца зрабіць даклад агульнаму сходу аб сваёй грамадзкай, савецкай і сямейнай чыннасьці за вядомы пэрыод!

— У плянавым парадку правесьці па вёсках абгаварэньне двох дакладаў: аб Сун-Ят-Сэне і аб юрыдычным ці фактычным шлюбе.

Прапановы былі прыняты. Спрачаліся толькі аб індывідуальных дакладах і даручылі, як першую спробу, на бліжэйшым агульным сходзе заслухаць такі індывідуальны даклад. Нарада вызначыла тэмы популярных лекцый і вылучыла лектароў. Мамону даручылі лекцыю „Аб стварэньні сьвету", мне—„Аб гангрэнах нашага часу", т. Домне—„Аб ролі жанчыны наогул і ў прыватнасьці", настаўніку Гылі—„Аб рэлігіі, як стадыі масавага шалёнства".

Калі абмяркоўвалі пытаньне, каму-ж даручыць гэты індывідуальны даклад, я высунуў кандыдатуру Ліна і Крэйны. Гэтыя кандыдатуры выклікалі агульнае здзіўленьне, хацелі адхіліць іх, але я лоўкім чынам замацаваў за імі. У мяне ў галаве ў гэту хвіліну варушыўся цікавы плян помсты і Ліну і ёй, Крэйне.

Не магу я забыцца на яе. Гэта вышэй мае прыроды. Як Гарачы сьпявае ў сваім романсе:

Лягу спаць я на белай ложы,
Каханьне спаць мне не дае!

У апошні момант дзяўчына вельмі наруглівай зрабілася. Робіць усё насупор мне. У сваім пакоі вельмі гучна, выклікаючы сьмяецца. Літаральна кажучы—іграе на струнах мае душы! Калі я загавару з ёю, чым-небудзь зачэпіць за жывое мяне, у вочы рагоча, як трохгадовая жаробка.

— Калі-ж ты такую лінію вядзеш, смазьлівая кон'юнктура розных частак цела, дык і я-ж давяду табе цьверж свае натуры!—зларадасна думаю я, ідучы з нарады.

Праз тыдзень прызначылі агульны сход. На абвестку яго занесьлі лекцыю Мамона і індывідуальны даклад Ліна. Сабралася шмат народу, што і клюб не зьмясьціў усіх. Прышлося адчыніць дзьверы і з вуліцы слухаць.

Мамон прышоў і нават ня ведаў, што яму далі даклад—лекцыю. Т. Мілёнак сказаў:

— Праз 10 хвілін твая лекцыя, т. Мамон!

— Мая лекцыя! Аб чым?

— Аб стварэньні сьвету.

— Дзіўна!... Нічога ня зробіш! Добра! Што-небудзь скажу!

І знайшоў, што сказаць. Нават разьвесяліў.

А вось калі чарод дайшоў гаварыць Ліну, той быў вельмі зьбянтэжаны. З пуду пачаў гаварыць у нос, часта ваду піў і нёс нейкую лухту, нявытрыманую на ўсе 100 проц.

К канцу свайго дакладу Лін увесь пад пенаю стаў. Я ўзброіўся блёкнотам і даў яму запытаньні: як ён праводзіць свой вольны час, дзе бывае, куды ў госьці ходзіць, у каго ён быў 15, 18, 23 і 25 чэрвеня, якія яго адносіны да жанчын наогул і да супрацоўніцы РВК т. Шуфер Крэйны ў прыватнасьці, што адчувае ён, калі сядзіць побач з Крэйнай Шуфер і, урэшце, як выконвае т. Лін свае абавязкі перад сям'ёй.

Другі, больш устойлівы індывід, магчыма, і даў бы мне належны і рашучы адбой, але Ліна я захапіў неўспадзеўкі і ён яшчэ больш замітусіўся. Толькі цяпер ён зразумеў, што гэта я наваліў на чалавека гэты недарэчны для Ліна даклад. Лін глядзеў на мяне, як выпса, як зьвярына затуканая.

Крэйна сядзела чырвоная, як каліна ўвосень, не падымаючы вачэй угору.

Я востра пераажываў перамогу. У спрэчках сказаў:

— Наш абавязак зьвярнуць увагу на жыцьцё і паводзіны сваіх таварышоў. У іх жыцьці ёсьць гангрэны, якія трэба выразаць, зьнішчыць, не даваць разьвівацца. Мы павінны сыстэматычна правяраць становішча працы на нашых вузлавых вучастках працы. Трэба ў кожнага праверыць якасьць працы, яе зьмест. Праца павінна быць творчая, сьвядомая, не такая, як у т. Ліна. Ён нават ня ведае, дзе быў, што рабіў, жыве бяз тэорыі, без пэрспэктыў. А мы павінны памятаць, што бяз тэорыі чалавек лезе ў балота. Т. Лін ня толькі сам гэта робіць, але цягне ў балота і другіх. Мы павінны дзергануць яго і сказаць: Т. Лін, прыдзі ў сябе, ты паўзеш па гнілому шляху распусты!

Лін не дачакаўся заключнага слова:

— Здахата на ўсіх, на вас! Чаго ад мяне хочуць! Яшчэ-ж нічога ня было! Сьвішчу я на ўсе гэтыя самасуеўскія запытаньні, прапановы, парады. Якая яму справа, дзе я быў? Дзе быў, там няма; куды прышоў— там ёсьць! Усюды нос свой утачыць хоча! Якая яму справа? Кожны чалавек сваім стылем жыве! Тут, таварышы, асабістая глеба, што ён прычапіўся да мяне! Ён закахаўшыся ў Крэйну Шуфер, дык з хворай галавы валіць на здаровую.

— Гэта ня факт!—пачырванеўшы, закрычаў я.

— Гэта ня факт, а фактар!—сказаў Лін.

На ҙіва знайшліся люҙі, якія пачалі абараняць позыцыю Ліна. Супроць мае лініі выступілі тэлефоністы Сьверҙялюк, тэлефоністка Горбік, Зоя Люсарэнка. А самае няпрыемнае на гэтым схоҙе было тое, што аҙін таварыш з Менску, які рэвізаваў РВК, выслухаўшы нашы спрэчкі і даклады, заявіў:

— Толькі злачынная фантазія можа прыдумаць такую нуду, глупства і ҙікунства. Я прапаную кароткую рэзолюцыю—аддаць т. Самасуя таварыскаму суду за такія даклады, за такую культпрацу!

Я не пабаяўся, што ён з Менску, і супакойна сказаў:

— Гэта—ініцыятыва профбюро, я толькі выконваю яго даручэньні!

Менскі таварыш абстрыкаўся. Але страшэнны тлум узьняўся на схоҙе. Замужнія сямейныя жанчыны прынялі мой бок і з пагардай гляҙелі на Крэйну, якая разьбівае сям'ю Ліна, а ўся моладзь рашуча выступіла за Крэйну і не саромячыся ў вочы гаварыла мне, нібы я сваімі ганебнымі ўчынкамі і прыҙірствам узмацняю шэрагі мяшчан. Нехта нават прыкруціў электрычнасьць, і тады другі провокатар пусьціў у мяне скруткам паперы. Гэтыя жарты мне не спадабаліся. Я плюнуў і хутчэй вышаў з клюбу і паляцеў дамоў.

На плошчы мяне дагнаў Лін, ішоўшы падпашку з Крэйнай. Нахабна загаварыў штучна-добрым голасам:

— Я раю вам, т. Самасуй, жаніцца! Гэта для вашай асобы неабходна, вы сталі-б больш супакойнымі, не рабілі-б такіх дураскокаў, як сёньня, а галоўнае—дурні не зьвяліся-б на сьвеце!

Я фурыёзна падскочыў да Ліна, схапіў яго за груҙі і нічога лепшага ня прыдумаў:

— Ты паскуднік, цэнтральны гад!

Лін моўчкі схапіў мяне за рукі, крыжом перакруціў іх і пры ліхтарным сьвеце насьмешліва гляҙеў у мае вочы.

— Я запішу табе гэта крывавымі літарамі!—вырываючыся з яго рук, сказаў я, адчуваючы, што ён мацней за мяне і ўжыць цяпер вулічную фізкультуру буҙе для мяне небясьпечна.

## X. Сьмерць Мілэҙі

Незадача ня прыхоҙіць адна, а заўсёды цягне за сабою шэраг іншых. Цяпер я хацеў бы, каб усяго гэтага ня было: супакойна жылося-б, і жывот лепш варыў бы! Цяпер жа літаральна паносная гісторыя! Усе гляҙяць на мяне, як на пошасьць якую, леҙьве пальцамі ня тыкаюць.

Я і сам ня ведаю, які чорт лысы падштурхнуў мяне прыняць уҙел у гэтай шалёнай аблаве на бяспрытульных сабак!

Праз два ці тры дні пасьля апісаных вышэй паҙей прыхоҙіць да мяне ў РВК старшыня саюзу паляўнічых т. Дулянок і кажа:

— Трэба як мага хутчэй зрабіць аблаву на сабак, аб якой, памятаеце, мы з вамі гаварылі. Тады прышлося адкласьці. А цяпер іх столькі набегла, што жудасьць бярэ. Тэрорызуюць насяленьне. Ёсьць выпадкі шалёных. Далей маруҙіць нельга.

— Рабеце—кажу я.—Нічога ня маю супроць, нават вітаю. Толькі гэта не з мае компэтэнцыі. У мяне культпраца.

— Добра вам гаварыць: рабеце! У нас няма кіраўніка, каб правесьці гэту складаную опэрацыю.

— А вы? Старшыня павінен ведаць, як організацыйна аформіць аблаву!

— Я нават і страляць ня ўмею—прызнаўся ён. Мяне высунулі, каб я праводзіў пэўную лінію. А вось вы, як усе кажуць, можаце звар- ганіць усё гэта ў 5 хвілін.

— Ня ў пяць. Але мне няма часу.

— Дык гэта-ж ня ўдзень будзе, а назолачку, як толькі разьвіднее, калі сабакі...

— На зарэ ты яе ня будзі—сказаў я мэлянхольна, успомніўшы чорныя вочы Крэйны. Не, не і не! Не хачу я гэтай сабаччай какофоніі! У мяне вушы будуць балець.

— Т. Самасуй! У нас няма іншага выхаду, толькі прасіць вас! Вы і страляеце добра і найлепшы організатар.

Так падмаўлялі яны мяне. Прызнаючы мяне найлепшым організатарам, яны лілі ваду на млын майго гонару і ўжывалі лоўкі падхалімаўскі мэтад. Я толькі цяпер пачынаю бачыць усе гэтыя спружыны. Магчыма, Дулянка падгаварыў Лін, каб чым-небудзь дыскрэдытаваць мяне, альбо замарыць грамадзкай чыннасьцю.

Пасьля доўгіх размоў я даў згоду. Я накідаў плян атакі на сабак, вызначыў на пляне мястэчка пункт для кожнага застрэльшчыка, вылучыў ударныя адзінкі, запрапанаваў мець двох санітараў на выпадак раненьня і г. д. Я прадбачыў усё.

Па дадзеных мясцовай статыстыкі, такіх сабак было ня менш 73 асоб—лічба ў нашых умовах жудасная.

У склад нашай застрэльнай дружыны ўваходзілі, апрача Дулянка і мяне, які атрымаў вярхоўную ўладу, яшчэ 7 міліцыянэраў, на чале з начмілам Какоцькам, начпошты Белабрыська, настаўнік Ігнат Міхайловіч, комсомолец Дусік, настаўнік Сашок і іншыя сябры саюзу паляўнічых, усяго лікам да 30 асоб.

Перад аблавай была нарада, на якой падрабязна разглядалася баявая задача, і кожнаму было дадзена пэўнае заданьне.

Опэрацыя праходзіла бліскуча, як па нотах усё ігралася. Галоўны ўдар мы нанесьлі каля местачковай бойні, дзе звычайна ў гэты час бадзяюцца, задраўшы хвасты, сабакі.

Палажыўшы там каля дзесятка забітымі, мы галоўную сабаччую масу пагналі па вуліцах мястэчка, дзе іх чакалі застрэльшчыкі. І вось узьнялася такая страшэнная страляніна, што абудзіліся грамадзяне. Іх спалоханыя твары высунуліся ў вокны і крычалі: Ай, ратуйце! Рэжуць!

Мы супакойвалі народ, як умелі, і некаторым санітары нават давалі валер‘янавыя кроплі—так добра ўсё было прадбачана.

Толькі аднаго я не прадбачыў. Калі ў стратэгічным захапленьні я бег па Больнічнай вуліцы, дык каля мундому № 5 на мяне накінулася нейкая жоўтая сучэнцыя і, ні слова ня кажучы, пачала шкумардзіць мае зусім яшчэ новыя штаны. Яна такія вострыя зубы мела, што праз мінімальна кароткі момант адной штаніны як ня было. Я трэснуў яе па сабаччай мордзе. Тады яна з нячуваным гавам укусіла мяне за абедзьве лыткі і нават адарвала ладны шматок мяса.

Я ледзьве не страціў прытомнасьць і нечалавечым голасам зароў:

— Ратуйце! Паміраю! Шалёны сабака! Я галасаваў, што было моцы, а яна яшчэ з большым імпэтам ірвала мяне.

Тады, кіруючыся нейкім інстынктам самазахаваньня, я бахнуў у галаву ёй. Сучэнцыя цяўкнула і скончыла жыцьцё.

Я перавёў дух, прысеў на лавачцы і хацеў клікнуць санітара, каб ён ёдам мяне памазаў ці што. Сабака наяўна быў шалёны.

Раптам дзьверы адчыніліся, выскачыў ускалмычаны Лін і, пабачыўшы здарэньне, несваім голасам закрычаў:

— Што ты зрабіў, гад? Нашто ты забіў яе? Я-ж цябе самога прыкончу! Лін кінуўся да сабакі і, падымаючы яго няжывое цела, сумна гаварыў:

— Мілэдзі, Мілэдзечка! за што ён цябе? Што ты яму, няшчасная, зрабіла? Кроў гаду на вочы наступіла! Вось яны крывавыя літары!

Лін схапіў нейкую даўбешку і кінуўся на мяне. А я накіраваў стрэльбу прама ў яго галаву. Гэта мела эфэкт. Лін перапалохаўся і, як агонь, пыхнуў праз прасла. Пералязаючы, зачапіўся за цьвік, штурмануўся аб зямлю і разарваў штаны.

Кроў цурком лілася з мае нагі і трэба было ратавацца. Хоць сабака і добраякасны быў, але ўсё бывае. Можа ён толькі-толькі ашалеў!

Я выбыў з шэрагаў застрэльшчыкаў. Дружына засталася без кіраўніка. Праўда, опэрацыя ня спынілася і мела здавальняючыя вынікі (было забіта 20 экзэмпляраў—процант значны), але разьвіталіся з жыцьцём некаторыя сабакі, якія нічога агульнага ня мелі з бяспрытульнасьцю і загінулі за сваю салідарнасьць.

На мяне некаторымі грамадзянамі былаададзена скарга т. Сому і ў нарсуд. Такім чынам, мяне ў два забоі пачалі біць. Бясспрэчна, усё гэта падвухрыў Лін. Сом паклікаў мяне і зноў наваліўся:

— Які ты вапрук! Дзе ні павернешся—шкоды наробіш. Зноў на цябе нездаволены. І адкуль у цябе юр гэты? Жаніўся-б ты, Самасуй, можа тады было-б куды энэргію пхаць!

— Я, т. Сом, не хацеў у гэту гісторыю ўлязаць. Мяне гвалтам уцягнулі. Апрача таго, я шмат пацярпеў! Вось бачыце!..

— Ведаю, ведаю. Трэба было-б цябе н̆ так яшчэ! Трэба было-б табе...

Я вышаў з габінэту і, ня глядзячы на боль, які адчуваўся ў назе, упарта працаваў увесь дзень. Думкі самыя невясёлыя раіліся ў маёй галаве. Я праклінаў сябе, што „чырвонымі літарамі“ адпомсьціў Ліну, забіўшы яго сабаку.

— Прарок! Скула мне ў бок!—касьціў я сам сябе.

## XI. Душ!

За сьмерць сваёй Мілэдзі Лін распачаў плянавую помсту. Кожны дзень у РВК ён соты раз апавядаў пра трагічнае забойства сваёй суч..і.

— Якая разумная была мая Мілэдзі! Разумней за некаторых людзей. Як добра яна бараніла свае жыцьцё! Усе штаны яму ў мэтлахі разьнясла, за нос, за вуха, за ногі ўкусіла. Няшчасная! Што ты зробіш! Гэта ж не чалавек са стрэльбай! Чым яна сябе абароніць! І такога ні ў чым непавіннага сабаку забіць!

Так гаварыў за сьценкай Лін.

А пасьля абеду ён прыходзіў да Крэйны. Прыходзілі і другія галдадрымы, мае ворагі. Усе яны садзіліся на лавачцы каля саду, супроць майго вакна, і Лін зноў пачынаў апавядаць пра гэройскую сьмерць сваёй сучкі. Тут ён яшчэ больш дадаваў:, нібы яна мяне скусала ўсяго і сьпераду і ззаду, нібы я тры разы страляў і ўсё не пападаў. Лін так рассусоліваў гэту гісторыю, што немагчыма было ўтрываць. Адзін раз я высунуўся ў вакно і закрычаў:

— Брэшаш ты, паганая рыба, ня так усё было.

Усе нахабна засьмяяліся. Гэта вывела мяне з роўнавагі. Я зноў пачаў шукаць моманту, каб адчапіцца ад Ліна.

Крэйна канчаткова адмяжавалася ад мяне. Не хацела і слова сказаць мне, хоць я асабіста ні словам, ні пальцам ніколі не пакрыўдзіў дзяўчыну. Яе роўнадушша распаляла мяне. Яе вобраз сьніў я кожную ноч, хоць, па праўдзе сказаўшы, сон ня браў мяне. Перад самым сьветам з пагулянкі прыходзіла Крэйна, яе праводзіў Лін. Яго крокі чуліся пад вакном, і мяне ахапляла зьвярыная лютасьць.

„Чаму я прычапіўся да Крэйны? Няўжо без яе мне сьвет зачыніўся?“ часта думаў я і, каб забыцца на Крэйну, маляваў яе ў сваёй думцы ў самым агідным стане, у самым неэстэтычным фізыолёгічным працэсе.

Нічога не дапамагала. Я і кахаў яе і люта ненавідзеў.

У гэты час пажарнікі наладзілі начныя вучэбныя манэўры. Мне хацелася расьсеяць свае думкі і паглядзець на гэта збоку. І вось ноччу, калі людзі паўспаліся, пажарнікі забілі сыгнал. Як маланка, усе яны падняліся на ногі. Адным махам запрэглі коняй у таратайкі, напоўнілі бочкі вадою, прыладзілі куды трэба драбіны, забралі кішкі, насосы і з грукатам накіраваліся па вуліцах. Але куды ехаць і што рабіць? На гэтае пытаньне ня было адказу ў пляне.

І вось тут мяне нейкая шалёная муха ўкусіла. Я прапанаваў паказальнае тушэньне пажару правесьці на мундоме № 5.

— А там ніхто ня жыве? запыталі.

— Здаецца, адзін чалавек жыве, але ў самым заднім кутку, дык ён і не пачуе нічога. Ды і дах там зялезны якраз.

Такім чынам уся кавалькада з форсам пад‘ехала да гэтага дому. Праз хвіліну зялезны дах мундому абліваўся вадою, прыладваліся дра-

біны, і па іх, як чэрці, лезьлі пажарнікі. Тлум быў грандыёзны. Я стаяў, заклаўшы рукі, і з моральнай уцехай глядеў на гэта пекнае зьявішча.

Раптам вакошка ў доме адчынілася, на хвіліну высунулася галава Ліна, зноў схавалася, а ў пакоі пачуўся жаночы голас і, як здалося мне, голас Крэйны. Як забілася сэрца маё! Я ня мог супакойна разважаць, схапіў кішку і пачаў абліваць ня толькі дах, але і вокны, і сьцены. Я нічога ня чуў, нічога ня бачыў.

Я прышоў у сябе толькі тады, калі ўбачыў у начной сарочцы азьвярэлы твар Ліна. Ён з кулакамі накіраваўся ў мой бок. Тады я нядоўга думаючы, з галавы да ног абдаў яго вадою і гэту опэрацыю спыніў толькі тады, калі Лін рэтыраваўся. На зьмену яму з чапялой у руцэ вылецела нейкая мясёная жанчына і прымусіла ўсіх нас у баявым парадку пакінуць позыцыі. Як пасьля даведаўся, гэта была жонка Ліна, якая перад гэтым нечакана прыехала дамоў і спыніла такім чынам залёты свайго бугайчыка.

Цяпер супроць мяне кампанія ўзьнялася. Кажуць—я падарваў свой аўторытэт. Т. Сом шукае прычыны, каб мяне прыстойна сьпіхнуць. Лін напісаў (думаю, што ён) корэспондэнцыю ў газэту, де падрабязна зьмясьціў маю біографію і маю чыннасьць за апошнія 3 месяцы. Факты ўсе ўзяты з жыцьця, але як яны пададены, як асьветлены, як ілюстраваны і комэнтараваны? Усё пададена пад злачынным сосам, каб зьнішчыць мяне. Я таксама не маўчу. Таксама пішу ва ўсе газэты і давоеу: Лін ёсьць растратчык, распусьнік і белагвардеец, а Крэйна ёсьць Офэлія, якую трэба накіраваць у Салавецкі манастыр.

Але ад усяе гэтай калатні ў мяне лядашна на сэрцы. Думаю спыніць сваю культпрацу і ўзяцца за зямлю. Гэта мяне супакойвае, і я ня вельмі турбуюся:

— Ат! пройде ўсё, а я застануся.

Менск, 9/XII—28.

**Уладімер Хадыка**

# Трывожны шум

Паўзуць на захад дробленыя хмары.
Я слухаю зямлі трывожны шум...
Дарэмна у жыцьці пра тое марыць,
Пра што і верша я не напішу.

Паўстане змрок на сьпеўным раздарожжы,
У цёмны колер выфарбуе дол—
І хочацца прыбраць вянком прыгожым
Галоўкі юныя бярозак навакол.

Сьпявае гай аб радасьці і шчасьці,
Па леташнім лісьці няма тугі...
І прагну я (палонены) прыпасьці
Агнём душы на талыя сьнягі.

Нясу я ў сьвет і шчырасьць і імкненьне,
Палаю ўвесь адным жаданьнем—жыць.
Хто сэрцам маладым вясну ня стрэне—
Ня ўмеў дагэтуль той вясною даражыць.

---

Дуга дарог. Над борам сіні дым.
І хатак боб рассыпаны ў нізіне.
Аб зорах думаць мне, ці мо' аб тым,
Хто мне і каму я ў жыцьці што вінен?

За сьнегам хай іде былая быль...
Ў сучаснасьці мінулае пагасла.
На сіні лоб насунуў жоўты брыль
І ля гумён вартуе вечар прасла.

Над борам ноч. Зьвініць дуга дарог.
Зара дрыжыць сьлязой замілаваньня.
І з дікім сполахам з-пад конскіх ног
Зіма зьбянтэжаная скача ў сані.

Бадёры, я цалую крыльлі гліц,
Кажу ў літань, што толькі ўспомніць можна...
Які настрой! Як б'ецца пульс зямлі!
Пяюць палі... Ў далінах шум трывожны.

А. Бабарэка

# „Зямля“ Кузьмы Чорнага

*Нарыс сынтэтычнага разуменьня твору*

Час, калі беларускае слова ў мастацтве ўважалі за элемэнт комічны, калі думалі, што гэтае слова ў краёвай літаратуры здольна выконваць толькі адну функцыю сьмешнага або забаўнага, гэты час даўно мінуўся. Яго месца сьпярша заступіў быў час, калі пачалі былі глядзець на беларускае слова як на сродак рэволюцыянізаваньня сялянскіх мас. І тады ўжо ўрадовыя сфэры сталі ўважаць гэта слова за крымінальнае, сталі баяцца яго, як агня, ды з гэтай прычыны пачалі забараняць яму выхад у сьвет і выганяць з апошняга яго прытулку—гэта з чорнага цела беларускага селяніна. За гэтым часам прышла пара, калі лепшыя прадстаўнікі народу з беларускім словам на вуснах пачалі адкрыта дамагацца лепшай для яго долі, лепшых умоў для яго разьвіцьця і ў першую голаў вызнаньня за ім права „людьмі звацца“, іначай кажучы, вызнаньня права нацыянальнага самавызначэньня. І лепшыя ўмовы ўрэшце насталі, праўда не праз гэта дамаганьне, а праз соцыяльную рэволюцыю.

Новы час патрэбаваў і новых песень. І першае, што было ўскладена новым часам на беларскае мастацкае слова, дык гэта роля агігататара і прапагандыстага ідэй комунізму. Яму было дадена заданьне несьці промені новага сьвятла ў беларускія пушчы, сьвятла тых ідэалаў, носьбітам якіх зьявіўся пролетарыят. І беларускае слова, як умела, гэту ролю чэсна выконвала. Гэтым тлумачыцца тое, што яно амаль дасюль мала клапацілася пра свае ўборы, пра свае страі, а больш пра тое, што яно несла з сабою, што праз сябе перадавала працоўным гушчам. Гэтым жа тлумачыцца і тое, што поэты—некаторыя—больш адчувалі сябе на службе пры выконваньні сваіх абавязкаў, ніж тым, што яны дзейнічаюць сваім словам, што яны твораць адну з пролетарыятам справу. Нярэдка поэты і не адчувалі, што слова—гэта зброя, якую яны твораць і якою ў патрэбныя хвіліны можна арудаваць ў змаганьні з сваім клясавым ворагам. Гэтак было на першых хвалях рэволюцыі, калі йшло змаганьне за палітычнае замацаваньне рэволюцыйных заваёваў.

Калі-ж настаў час будаўніцтва „всерьез и надолго“, тады і на мастацкае слова былі ўскладзены новыя абавязкі. Ад яго сталі патрабаваць, каб яно было такім, што дало-б магчымасьць адчуць вялікасьць таго процэсу работніцка-сялянскага адрадэньня, які йдзе ў Беларусі, а разам з гэтым дало-б адчуць работніцка-сялянскую Беларусь, яе дух, яе асаблівасьці. Чытача беларускага прыгожага пісьменства ўжо не здавальнялі наденныя вершыкі або поэмкі, якія кіпамі

зьяўляліся на сьвет у водгук на штодённыя зьявы. Тое, што яны казалі, чытач мог адчуць і пазнаць, ня чытаючы іх. Для гэтага з яго досыць было чытаць газэты ды вершы ў расійскай мове. Чытача не здавальняла таксама і тое, што, як і раней, беларускае слова дамагалася вызнаньня яго носьбітаў за такіх-жа людзей, як і тыя, што гаварылі іншымі мовамі. Не здавальняла ўжо і тое, што яно насіла з сабою скаргі і жальбы свайго гаспадара. І гэта зразумела—чаму.

Кастрычнікавая рэволюцыя прынесла вызнаньне людкасьці за тымі, хто быў уладаром беларускага слова—гэта работнікам і сялянам. Ды мала таго, яна прынесла вызнаньне за імі галоўнай ролі ў гістарычным процэсе, ролі гэроя нашай эпохі, ролі адзінага сапраўднага прадстаўніка нацыі. Рэволюцыя вызнала за пролетарыятам адзінага правадыра ўсяго чалавецтва на шляху да соцыялізму, што адкрые новыя формы для выяўленьня чалавечага гэнія ды забясьпечыць яго разьвіцьцё. І гэта ўсё было такім новым у беларускіх умовах, што яно застала некаторых прадстаўнікоў беларускага мастацкага слова зусім непадрыхтаванымі для выкананьня тае вялікае ролі, якая выпадала на долю літаратурнага мастацтва ў выніку вызнаньня годнасьці яго гаспадароў Кастрычнікавай рэволюцыяй. Гэта-ж вызнаньне азначала, што час патрабуе ад беларускага мастацкага слова не таго, каб яно даводзіла, што яго носьбіты людзі, што яны ўмеюць адчуваць і думаць, не зважаючы на цяжкія ўмовы, у якіх ім даводзілася жыць,—ад яго патрабавалася, каб яно паказала, што гэтыя людзі ўмеюць змагацца з сваімі ворагамі, што яны ўмеюць разбураць стары і, разбураючы, дайлідзіць новы будынак таго ладу, які называецца соцыялізмам. Ад беларускага мастацкага слова патрабавалася, каб яно паказала, што яго гаспадары ўмеюць дзейнічаць і тварыць новыя формы грамадкага жыцьця чалавека, а ня толькі плакаць ды стагнаць „над народу сконам“, як гэта было да рэволюцыйнага часу. Гэта-ж, у сваю чаргу, вымагала пэўных якасьцяй як ад мастакоў слова, так і ад тых сродкаў і спосабаў, якімі яны ствараюць новыя мастацкія формы. Яно вымагала таксама новага ідэолёгічнага сьвятла ад твораў і звароту да тых мас, якія выкліканы гісторыяй тварыць новыя формы жыцьця. Пры гэтым яно патрабавала, каб гэты зварот быў такім, што нож у сэрца ворагаў працоўных. Вось тая вялікая і пачэсная роля, якая выпала на долю літаратурнага мастацтва ў выніку кастрычнікавай рэволюцыі. Гэткім вось умовам павінна адпавядаць наша мастацтва, калі яно хоча быць мастацтвам рэволюцыйнага пролетарыяту.

Умовы, пра якія дагэтуль ішла гутарка,—гэта, т. ск., дамінанта сучасных патрабаваньняў. І гэта зусім ня значыць, што побач гэтай галоўнай лініі ва ўмовах дзейнасьці мастацкіх твораў няма адгалоскаў ад тых часоў, што даўно або нядаўна, але мінулі ўжо, і што гэтыя адгалоскі не выстаўляюць сваіх вымогаў ды ня ставяць перашкодаў у разьвіцьці галоўнай лініі нашага часу. Пабочныя лініі—усё роўна што быльнік ці якое зельле; яго шмат яшчэ расьце на рэволюцыйнай

ніве, і яно адбірае месца і сьвятло ад пажытных расьлін. Яно нярэдка ўзьнімаецца так высока, што засланяе сабою галоўную лінію. І гэта асабліва тады, калі твор дае для яго спажытак. Вось чаму наш час ад пролетарскага твору вымагае яшчэ такіх якасьцяй, якія-б яго ахоўвалі ад засьмечваньня гэтым зельлем старога часу ды адначасна былі-б пагубаю для яго. Наш час патрабуе ад твору мастацкага жыцьця для работнікаў і сялян і крэсу для ўсяго, што шкодзіць іхнаму росту, што ёсьць іх ворагам. Жывячы творчае, мастацкае слова павінна труіць „старое“. Яно павінна разбураючы тварыць і творачы разбураць. Іначай кажучы, мастацтва павінна адыгрываць дыялектычную ролю: падняляючы гуртаваць і ўзмацняць, а ўзмацняючы і гуртуючы падзеляць і аслабляць сваіх праціўнікаў. Вось якія шырокія магчымасьці для выяўленьня мастацкіх талентаў! Якое шырокае поле для творчасьці!

---

У гэты час зьяўляецца ды пачынае жыць і дзейнічаць роман Кузьмы Чорнага „Зямля“. І хто не парадаваўся гэтай новай кнізе! Хто, прачытаўшы яе, не пераказаў свайму таварышу таксама прачытаць яе! Не парадавацца-ж нельга, калі чытаеш яе і адчуваеш, што от быццам аўтар не апавядае, а сьпявае вялікую песьню жыцьця, створаную людзьмі на зямлі. І сапраўды: чытаеш гэты роман—усёроўна што слухаеш музыку натхнёнага композытара. Адчуваеш, з якой вялікай замілаванасьцю да жыцьця і людзей, з якой глыбокай вераю ў перамогу новага, што вырасла ў часе рэволюцыі, напісана гэта музыка. І як захоплівае гэта музыка, як узрушае і ўзьнімае на дзейнасьць! Яна запаляе на творчую працу. Яна—што тая зямля, якую старым звычаем маці давала сыну, выпраўляючы яго ў сьвет. Хто раз да яе прыпадаў, той не забудзе яе паху ніколі, той будзе памятаць, якія людзі жывуць на беларускай зямлі.

Яшчэ адчуваецца, што гэта твор новых магчымасьцяй. От чытаеш яго і быццам бачыш перад сабою сапраўднае жыцьцё, не падфарбаванае, а такое, якое яно ёсьць. І да чаго-ж яно звычайнае і простае, а якое любае і прыгожае якраз вось таму, што яно жыцьцё, што яно процэс, дынаміка, а ня статыка, а не мярцьвечына, не схэматычны пляккат. А прачытаўшы, уздумаеш: то-ж гэта прачытаны твор мастацтва, і як ён здолеў узрушыць! І падумаеш яшчэ пра аўтара, што талёнавіты ён пясьняр радасьці жыцьця,—новае слова прынёс ён ад зямлі.

І яшчэ адчуваеш рытм. А гэта мала якая прозаічная рэч дае магчымасьці пераадчуваць. І рытм не апавяданьня, а рытм жыцьцёвага процэсу, як ён адлюстроўваецца ў сваёй, т. ск., надбудове—людзкой гаворцы. Сам роман як-бы цячэ хвалямі, а ў гэтых хвалях люструецца тое, што складае жыцьцёвы процэс. Або от усёроўна, што бачыш перад сабою „карцінную галярэю людзкіх тыпаў, зьвязаных між сабою песьняю працы на зямлі“. Ці то яшчэ адно параўнаньне—от глядзіш

прадстаўленьне: адчыняецца заслона і праходзяць перад табою людзі з сваімі гаворкамі. Чуеш, як гавораць гэтыя людзі ў розных палажэньнях, а ў гаворках выяўляюцца і самі і выяўляюць другі бок свайго жыцьця той, каторы вызначае гэты, што перад вачмі. І здаецца, што гэтыя людзі жывуць, от усероўна што абрад які спраўляюць: так ставяцца яны да жыцьця.

Нарэшце, як вынік усіх гэтых адчуваньняў, што зьявіліся ў непасрэдным дачыненьні да твору, выплывае наверх пытаньне: у чым-жа сэкрат „Зямлі“ Кузьмы Чорнага, што яна такое, што яна кажа і для каго яна?

1

У творчасьці К. Чорнага „Зямля“ займае месца сынтэтычнага прадстаўленьня мастацкім словам перажытага жыцьця. Да „Зямлі“ К. Чорны яшчэ толькі шукае самога сябе ў творчасьці; ён яшчэ толькі пробуе яе віна з розных чарак; ён смакуе той матар'ял, які зьбірае на палёх людзкога быцьця; ён афармляе яго яшчэ так сабе з большага; ён толькі яго контуруе, каб праз нейкі час, калі сабранае перапоўніць яго істоту і настойліва патрэбуе выхаду ў сьвет у монумэнтальных формах, здайлідзіць з іх палац мастацкага твору. Нават і раман „Сястра“ у дачыненьні да „Зямлі“ становіць няшто іншае, як толькі матэр'ял сабраных уражаньняў аўтара ў гарадзкіх абставінах і дачасна зьлепленых у кускі—калыбы яшчэ будучых вобразаў і композыцый. Раман „Зямля“ гэта ужо спроба монумэнтальнага мастацкага будынку з апрацованых матар'ялаў, што былі сабраны аўтарам за час ранейшых нагляданьняў, перажываньняў і думаньня. Гэта, праўду кажучы, першае сталае выступленьне К. Чорнага з мастацкім творам на суд грамады, і менавіта з мастацкім творам, а не накідам, эскізам ці нарысам. Гэтым раманам К. Чорны дэбютуе як мастак-конструктар, а ня толькі як тонкі наглядальнік, зьбіральнік мастацкіх матар'ялау і мысьленьнік, як гэта было дасюль.

Дасюль К. Чорны як-бы сьпяшаўся і баяўся чаго. Ён нібы баяўся, што вось нешта з ім здарыцца, і ён ня здолее паказаць сьвету таго, што бачыць. І ён усёроўна, як кветкі і краскі на лузе, пасьпешна ірваў ды, ня зьвязваючы іх у букеты, проста рассыпаў іх па сваёй дарозе. Дасюль К. Чорны імкнуўся толькі выказацца і выказаць усё, што набягала і прасілася вонку з нутра. „Зямля“-ж ужо ёсьць вынік доўгай, глыбока прадуманае творчае працы. У постаці „Зямлі“ перад чытацтвам прадстаўлен першы мастацкі твор, збудаваны па загадзя прадуманым пляне, і менавіта як твор.

Такое палажэньне „Зямлі“ у творчасьці К. Чорнага (якая, між іншым, налічвае ўжо 6 гадоў працы) дае ёй права на пэўнае месца ў гісторыі беларускага прыгожага пісьменства. Гэта месца вызначаецца яе дачыненьнем да твораў, што зьявіліся перад ёю ў абсягу монумэнтальнай літаратурнай творчасьці, якая прэтэндуе на выяўленьне ня

толькі асабовага ўнутранага жыцьця свайго аўтара (хай сабе нават як прадстаўніка пэўнай соцыяльнай формацыі), а вакольнае рэчаіснасьці ў вобразах і тыпах (вядома, у асабовым яе разуменьні). „Зямля" ўжо тым, што названа праз аўтара романам, таксама прэтэндуе на прадстаўленьне ў мастацкай літаратуры эпічнага роду поэтыцкай творчасьці і праз гэта вымагае аднясеньня яе да гэтага роду. Дык вось якое-ж яе дачыненьне да іншых прэтэндэнтаў на гэты род творчасьці ў беларускім прыгожым пісьменстве?

Чытач беларускай кнігі меў ужо шчасьце ці няшчасьце (гэта як каму!) да „Зямлі" чытаць романы і іншыя вялікія рэчы, пісаныя беларускаю моваю. Ён чытаў „Сокі Цаліны", „Сьцежкі-Дарожкі" ды іншыя па велічыні падобныя рэчы і думаў, што знаёміцца з беларускім романам. Не бяда, калі ён часта густа, прачытаўшы, расчароўваўся наконт сваеасаблівасьцяй гэтага роману. У яго складвалася такое паняцьце аб беларускім романе, што гэта ёсьць ня што іншае, як біографічныя або аўтобіографічныя літаратурныя нарысы, зазвычай пісаныя ў 3-й асобе. І як біографіі іх аўтараў ня блішчаць асабліва выдатнымі падеямі, так і іх романы. У іх зазвычай адыгрываюць галоўныя ролі гэроі-адзінкі. У ахвяру гэтых адзінак нярэдка прыносяцца другія асобы. Словам гэта романы, якіх гібель у іншакраёвых літаратурах, і з характарам якіх чытач, выгадаваны на гэтых літаратурах, досыць добра знаёмы. Не знаходзячы ў сэнсе роману ў іх нічога новага, чытач нярэдка расчароўваўся і ў беларускай літаратуры. Ён уважаў яе за вольна-перакладніцкую ці перакладзена-перайманьніцкую і, вядома, меў некаторую рацыю. Романы беларускаю моваю ён уважаў за беларусізаваныя романы быўшай расійскай провінцыі—Мінскай губ.

Той-жа чытач, што выхоўваецца на гэтых романах, будзе некалькі зьдзіўлен романам „Зямля", паколькі яна разбурацьме тое паняцьце аб романе, якое ў яго зложылася на падставе раней ім прачытаных. І гэта зразумела: дасюль ён яшчэ ня чытаў беларускага роману (па будове і форме). Дасюль ён меў магчымасьць чытаць романы або хронікі апавядальна-апісальнага, натуральна-статычнага і плякатнага характару. „Зямля" К. Чорнага—роман соцыяльна-псыхолёгічнага роду. Гэроем яго ў адрознасьць ад романаў папярэдніх зьяўляецца не гэрой-адзінка, а сялянская маса. Асобы-ж, што высоўваюцца ею, выконваюць толькі пэўныя ролі, вызначаныя самім ходам разьвіцьця грамады.

Перад чытачом роман выступае ў двух плянах. У першым яго пляне, гэты т. ск. роман у асобах—мы чытаем, роман-жа ў другім сваім пляне, гэты роман дзейнасьці—мы адчуваем; і яго ходы, яго кірунак разьвіцьця мы бачым праз прызму першага пляну. Роман другога пляну расказваецца асобамі роману першага пляну. Гэта ўсёроўна, што вось на экране праходзілі-б фігуры з сьвятла і ценяў ад кінастужкі, а наша ўяўленьне па іх рухах аднаўляла-б карціну рэальнага быцьця з яго людзьмі і процэсамі. Словам, гэта роман не біографічнага характару і не хронікальнага.

Зрэшты, роман гэта вельмі ўмоўна. „Зямля“—хутчэй поэма прозаю, у якой прасьпяваны гімн жыцьцю на зямлі і яго аднаўленьню, што адбываецца ў выніку рэволюцыі. Гэта не роман-плякат, гэта—роман драматычных песень зямлі. Ён дае падставу на тое, каб быць вызнаным за нацыянальны формаю роман У дачыненьні да папярэдніх прэтэндэнтаў на такі роман „Зямлі“ па праву мусіць быць адведена першае месца. Яна ўносіць свой зьмест у паняцьце роману і творыць свой уласны адменьнік яго ў шэрагу тых паняцьцяў, што ўтварыліся былі на падставе раманічных узораў у іншакраёвых літаратурах і іх эпігонах у беларускай.

2

Калі мы ўвойдзем у „Зямлю“ і пачнём яе аглядаць, каб ахапіць уцалку, як твор, ды пазнаць яе концэнтрацыйны плян, дык мы ўгледзім, што яна складаецца з кругу малюнкаў. Вось перад намі малюнак „сход“, а вось малюнак „на поплаве за коньмі“, а вось—„напрызьбе“, „на вуліцы“ і г. д. Усе яны разьмешчаны ўсёроўна як на акружыне малюнкі кінофільму: усе яны да таго празрысты і люстраны, што ў кожным з іх адлюстроўваецца і цэнтр. Яны і разьмешчаны так, каб паказаць гэты цэнтр у рознага роду адлюстраваньнях.

Асяродак іх—замля. І паказана яна ня голая, а прыбраная ў жывых людзей, яе красу і гордасьць, а часам і бяду. Яна паказана ў страёх, што выснаваны з гэтых жывых людзей. Бачачы гэтых людзей, мы бачым твар зямлі, мы бачым саму гэну зямлю як грамаду, у якой ідзе змаганьне маладога, новага з старым і даўнім. Мы бачым гэту грамаду як адзінае цэлае, што вылучае з сябе пры пэўных умовах, усёроўна што сонца праменьні, парасткі ў нязнаны яшчэ дасюль у гэтай грамадзе сьвет. З гэтага боку роман пабудован па вобразу процэсу росту на зямлі або процэсу праменяваньня. Словам, концэнтрацыйным плянам „Зямлі“ ёсьць вобраз процэсаў натуральна-біолёгічнага парадку. І дынаміка роману—гэта дынаміка гэтых процэсаў.

На малюнках, з якіх складаецца „Зямля“, мы бачым постаці людзей, найбольш групамі, у розных становішчах і момантах. Гэтыя людзі вядуць між сабою гутаркі пра тое, што было, што ёсьць, што будзе і чаму яно так, а ня йнакш. І самі гэтыя гаворкі дарысоўваюць нам фігуры асоб, якія іх вядуць. Яны таксама адкрываюць перад чытачом заслоны на тое, што прадстаўляе сабою жыцьцёвы процэс за межамі наяўных малюнкаў. Праз гэтыя гаворкі мы чуем, як ідзе гэты процэс як-бы падыспадам відомага і чутага, як ідзе ён у нутры самога быцьця.

Так вось у першым разьдзеле першай часткі вы пападаеце на сялянскі сход, на якім абмяркоўваецца пытаньне перадзелу зямлі. Але вы ня чуеце абмяркоўваньня самога гэтага вось пытаньня. Вы чуеце, т. ск. інтэрмэдыі (дазвольце ўжыць тут умоўны тэрмін), якія справаджаюць сабою процэс абмеркаваньня таго пытаньня, дзеля якога і сход

сабраўся. Пра самы гэты процэс вы даведваецеся з аўтаравых рэмарак ды некалькіх рэплік старшыні сходу і іншых асоб. Але ўрэшце вы адчуваеце, што і досыць гэтага, што менавіта „інтэрмэдыі“ куды важней чуць, чым тое, як галасавалі за перамер. Гэтыя „інтэрмэдыі“ абрысоўваюць людзей і вядуць вас у глыб, да карэньняў таго, што вы бачыце перад сабою. Яны вядуць да крыніц зьместу паказаных перад вамі людзей. Дзякуючы гэтым „інтэрмэдыям“ вы адчуваеце нешта падысподнае, што напластавалася ў гэтых людзей за час іх жыцьця на зямлі. Вы чуеце, што бурліць яно там унутры і шукае выхаду на сьвет. І яшчэ вы адчуваеце, што яно павінна выйсьці наповерх, хоць вы і ня ведаеце, у што яно аформіцца і калі выбухне на сьвет. І гэтак вы праходзіце ад аднаго малюнку да другога, аж пакуль ня вырасьце ў вашым уяўленьні вялікая карціна ўсяго твору. У выніку паўстае перад вамі твор, як будынак, што мае дзьве стораны—знадворную і ўнутраную, ці правільней будзе сказаць: відомую, чутую, словам, непасрэдна адчувальную, і тую, што пазнаецца праз пасрэдства першай, іначай, пазнавальную. Яшчэ вы пазнаяце, што абедзьве гэтыя стораны паказаны перад вамі ў аднэй роўніцы, от усёроўна як паказвае маляр-мастак малюнак з пэрспэктываю ў глыб або даль выключна праз композыцыю адпаведных фарб. Будынак гэтага твору выглядае так, як выглядаў-бы, скажам, куст ялоўцу, калі на яго глядзець зьверху, праводзіць вачмі ад аднаго краю да другога, от як-бы гэта была адна роўніца. І мы ўбачылі-б, як, скажам, адна галінка, выходзячы з цёмнай плямы, раптам абрываецца і зноў патанае ў такой-жа пляме. Потым вы бачыце, як выходзіць новая галінка, а з ею перасякаецца трэцяя, што ідзе з процілежнага боку. Далей зноў цёмная пляма і зноў крыжаваньне галінак, з якіх вы некаторыя прызнаяце за тыя, што ўжо бачылі раней. І ў вас ва ўяўленьні вырысоўваецца ход ліній ад краю і да краю малюнку, які вы аглядаеце. Вы ўрэшце бачыце, як усе лініі сыходзяцца ў карэньні. Але каб разабрацца ў такім малюнку і добра ўявіць сабе, адкуль і куды ідзе якая лінія, дзе іх цэнтр, вам трэба было доўга ўглядацца ў малюнак, аглядаць яго, не сьпяшаючыся і нярэдка варочацца назад да прагледжанага, каб устанавіць сувязь папярэдняга з наступным. Такі ў грубых рысах той вобраз, па якім пабудована „Зямля“.

Тут можа стаць пытаньне: што-ж надаўміла аўтара „Зямлі“ ўзяць такога роду концэнтрацыйны плян у аснову будовы свайго твору? З якога дасьведчаньня ўзяў ён гэту форму. Канечне, такія формы мог даць удзел у вытворчасьці рэчаў грамадзкага спажываньня. Тварэньне рэчы і сама рэч, як вынік гэтага процэсу,—вось тая форма, што паслужыла ўзорам для будовы „Зямлі“. Сапраўды, той, хто бярэ ўдзел у процэсе вырабніцтва, хто ў гэтым процэсе адыгрывае пэўную ролю і гэта ўсьведамляе, той звык ужо глядзець на гатовую рэч, як на продукт організаванае працы. І таму ён бачыць ня толькі рэч, як такую, але праз яе бачыць і тое, што яе стварыла, за рэччу

бачыць чалавека, які яе зрабіў ці стварыў, а творачы, перажываў гэту работу, магчыма яшчэ ў справаᴅэньні іншых якіх перажываньняў, успамінаў, адчуваньняў, дум і да т. п. Гэта асаблівасьць —бачыць чалавека за рэччу—уласьціва таму, хто бярэ сьвядомы ўᴅел у працэсе грамаᴅка значнай і патрэбнай для жыцьця працы. Чалавеку, які стаіць з боку такога працэсу, такая псыхолёгія не ўласьціва. Вось гэтакае сьвядома-творчае быцьцё і дало вобраз для твору. Жыцьцём творчасьці рэчаў для грамаᴅкага паказу і спажываньня ня жылі папярэднія беларускія пісьменьнікі, а таму і гісторыя тых формаў, што даны гэткім быцьцём, пачынаецца ў сучаснасьці. Адным з узораў такіх форм ёсьць і „Зямля“. Ня дарма аᴅін з маіх таварышаў, прачытаўшы „Зямлю“, сказаў: „адчуваецца, што аўтар працуе ў газэце“. І ў гэтым выказалася адчуваньне таго, што „Зямля“ ёсьць аформованы накшталт творчага быцьця матар‘ял вясковай моўнай стыхіі для грамаᴅкага паказу.

3

Раман „Зямля“ прадстаўляе творча-конструкцыйную плынь сучаснай культуры беларускай поэзіі, авеяную жыцьцёвай романтыкай дойліᴅтва новых форм поэзіі. Гэта тая плынь, што мастацкім словам уцелаўляе хараство і трагізм процэсаў росту і аднаўленьня грамады. Гэта тая плынь, што мастацкім словам выяўляе жыцьцё ў яго дынаміцы.

Уласьне кажучы, пытаньне кірунку літаратурна-мастацкай або поэтыцкай культуры ёсьць пытаньне тэхнічнай апрацоўкі слоўнага матар‘ялу і спосабаў конструяваньня яго ў твор па загаᴅя задуманых плянах ці вобразах.

Слоўны матар‘ял „Зямлі“ ўзяты з бытавога абыходку вёскі, дакладней з тых прагалкаў, якія справаᴅаюць сабою вытворчы процэс. Слова Кузьма Чорны апрацоўвае так, каб яно, перадаючы непасрэднае ўражаньне, прадстаўляла-б і прадмет уражаньня. Слова ў „Зямлі“ прадстаўляе малюнак, адухоўлены дыханьнем люᴅкога жыцьця. За ім адчуваецца, што тут прахоᴅіў чалавек, які сабою ажыўляў усё навакольнае аж да неорганічнай прыроды. Яно робіць непасрэдна эмоцыянальны ўплыў, як гэта робіць на чалавека якая ᴅея ў сапраўднасьці. Яно то ўзрушае, то суцішае.

Характэрным яшчэ для поэтычнай культуры, што прадстаўлена „Зямлёю“, зьяўляецца тое, што можна было-б назваць „пераскакваньнем“ з прадмету на прадмет у гаворках і апавяданьні. Вось даецца эмоцыянальны малюнак прасторавай абстаноўкі, а за ёю падаюцца рэплікі некіх асоб або апісаньне асобы. У гаворцы робяцца таксама пераскакваньні з тэмы на тэму або з прадмету на прадмет і—на першы погляд—толькі таму, што той ці іншы з іх кінуўся ў вока таму, хто гаворыць. Асоба гаворыць аб ім, хоць самы прадмет, здаецца, ня мае

сувязі з папярэднім. Але гэта толькі на павярхоўны погляд так. Сувязь, уласьне, ёсьць, яна толькі ня вонкавая, а нутраная, падысподняя. Яна нярэдка ў адзінстве асобы або часу, або месца ці адчуваньня. Захаванасьць гэтай сувязі і стварае ўражаньне апавядальнай перарыўнасьці і скачкаватасьці працэсу.

Другою характэрнаю рысай ёсьць багатая маляўнічасьць Яна выяўляецца шырокім ужываньнем азначэньняў і характарыстычнай эпітэталёгіі (пераважна эмоцыянальнай ахварбоўкі) у абрысоўцы людзей і рэчаў. Эпітэт у „Зямлі“ характарызуе або эмоцыянальна прадстаўляе якасьці рэчаў. Такая зьява ўласьціва для таго асяродку, у якім пытаньні якасьці займаюць паважнае месца, зьяўляючыся т. ск. кардынальнымі ў працы.

Трэцяй рысай ёсьць конструкцыйнасьць. Выражаецца яна ў тым, што твор складаецца з апавядальных адзінак (гаворкі, лісты, аўтаравы рэмаркі і апісаньні, дзейныя асобы, месца, абстаноўка і час і перамяшчэньне асоб) так, каб у выніку была мэлёдыя ўражаньняў, рытмічна адпаведная адчувальнай дынаміцы жыцьцёвага працэсу.

Чацьвертай рысай ёсьць дынамізм, як тая ўнутраная напружанасьць, што выяўляецца перад намі зьяўленьнем (у часе) малюнкаў, якія прадстаўляюць уцелаўленьне працэсу дыалёгамі.

Пятае—жыцьцёвая сымболіка (т. ск. сымболізм навыварат) і густата. Апошняе дасягаецца тым, што аўтар у гаворках прадстаўляе шмат прадметаў іх. Гэтым дасягаецца ўражаньне густаты і багатай зьмястоўнасьці.

Як асаблівую рысу гэтай культуры, трэба адзначыць спосаб прадстаўленьня (ці маляваньня) людзей іх гаворкамі, як іх вобразамі. Падобна таму, як мы ня бачачы чалавека, адно чуючы яго голас, пазнаём, што гэта за чалавек і ў якім ён становішчы, так К. Чорны прадстаўляе і людзей—дзейных асоб свайго роману. Зямля апавіта ў гаворкі людзкія, яны акружаюць яе усёроўна, як паветра. Гэта галасы зямлі з яе людзкім жыцьцём. І мы па галасох пазнаём, што гэта за зямля і чаго яна вымагае ад людзей Вось чуем голас як-бы з падзямельля, які кажа, як падзел зямлі падзяліў і людзей, пасеяўшы між іх варожасьць. А вось другі—ён кажа, што зямля патрабуе цяпер ад людзей новых адносін, не драпежніцкіх, а разумных, організаваных і не індывідуалістычных, а калектывістычных.

Гэта плынь тае поэтыцкай культуры, якая вызнае за словам такое-ж дзейнае значэньне, як за учынкамі. Сказаць што ці расказаць для гэтай плыні зьяўляецца сынонімам зрабіць або ўчыніць прыемнае ці няпрыемнае, радаснае ці сумнае, уздымнае ці нізкае і да т. п. Сказаць слова—гэта даць магчымасьць адчуваньня па сіле роўнае непасрэднаму адчуваньню жыцьця, перажытаму аўтарам.

Вось, прыкладам, канчаецца першая частка роману: „Як-жа яна пахла—зямля“. І гэта ўзрушае ўсёроўна, як які ўчынак. Мы ўсьведамляемся, што такое зямля. Яна ня толькі тое месца, дзе мы жывем у

сусьвеце і дзе расьце хлеб. Гэта схоўня многіх пакаленьняў нашых продкаў. Яна родная і дарагая чалавеку таму, што захавала ў сабе яго бацькоў і дзядоў, а то й братоў ды сясьцёр. Зямля гэта частка чалавечай душы. Зямля гэта чалавечыя думы, жаданьні, надзеі. Зямля— гэта вечна непакойны і непакорны, вечна імклівы і трапяткі дух чалавека. Як многа захована ў гэтым слове „зямля“, такім простым і звычайным! І мы разумеем, як пахне зямля: яна мае свой голас, свой твар і свой пах. Гэта адчуць дас раман „Зямля“ тэю культураю простага слова, што вымагае, кажучы фігуральна, максымальнай загрузкі азначальнасьцю кожнай моўнай адзінкі. Аджа-ж „простыя словы, якія аформляюць сьвядомасьць мас, пераварочваюць сьвет“ (Бухарын). Такім мусіць яно быць і ў мастацве. Да такога імкнецца яно ў „Зямлі“.

4

Кажуць, стыль—гэта чалавек. Насьлядуючы форме гэтага выслоўя, я-б сказаў: твор—гэта чалавек (разумеючы гэта пакуль што толькі ў псыхолёгічным разрэзе). Бо й сапраўды, як часта мы, гледзячы на якуюнебудзь добра зробленую рэч, выклікаем: „Во мастак!“, гэтым самым паказваючы, што мы ў зробленым бачым яго аўтара, у об‘екце яго суб‘ект. І як па голасу, які чуем, мы можам судзіць пра яго носьбіта, так і па творы аб яго творцы. Калі гавораць пра які твор, што ён зроблен таленавіта, то гэтае таленавіта адносіцца да мастака. Твор жа можа быць моцным або слабым, добра ці кепска зробленым, цікавым ці ня цікавым і да т п. Для нас важна ўстанаўленьне па творы таго характэрнага і ўласьцівага для яго творцы, якое хоць і ў розных формах, але выяўляецца заўсёды, як яму ўласьцівае, як т. ск. закон гэтага таленту.

Раней адзначаныя асаблівасьці „Зямлі“ падказваюць, што яе ўтварэньне патрабавала адпаведнага сабе таленту. Тымі творамі, што ёсьць у беларускім прыгожым пісьменстве на сёньняшні дзень, выявілася некалькі катэгорый талентаў. І той, што праяўлены „Зямлёю“, мае ўжо сваіх папярэднікаў. Ён зьяўляецца на тэй лініі, на якой станавіў сябе Я. Колас, а яшчэ раней—Янка Лучына-Няслухоўскі, у сэнсе творчаснага тыпу. Талент, прадстаўлены „Зямлёю“, такі-ж талент станаўленьня, як і яго папярэднікі, толькі выхаваны і выяўлены ў іншых ад сваіх папярэднікаў умовах, а таму і набыўшы новыя, больш яскравыя, самабытныя формы свайго станаўленьня. Ён выразна пазытыўны ў характары сваіх дачыненьняў да сьвету і эмпірык у пазнаваньні яго. Ён ня рэдка бывае экспэрымэнтальным. Ён можа прымаць на сябе тую ці іншую ролю выключна дзеля таго, каб выведаць тое, да чаго ці каго ён дачыняецца, каб выклікаць на верх тое, што ў глыбі. Так і матар‘ялы зьбірае па крышцы, а потым з іх і сваіх дасьведчаньняў творыць вобразы. Па ўмовах часу і месца дзейнасьці ён ня мае магчымасьці наглядаць за тэю ці іншаю зьяваю ад пачатку яе і да канца сыстэматычна і непэрарыўна Ён бачыць толькі бліскі момантаў, разрозьненыя

і часта выпадковыя. Па іх яму даводзіцца ўвабражаць процэс, аднаўляць яго сваім уяўленьнем. Вось тут і патрэбна здольнасьць надзвычайнай прасячнасьці адчуваньня і конструкцыйнага ўяўленьня. Тут і выяўляецца характэрная для яго здольнасьць чытаньня па вонкавым выяўленьні ўнутранага зьместу, здольнасьць заключэньня ад характару знадворнага да характару ўнутранага, ад выражэньня да выражальніка, ад об'екта да суб'екта, ад твору да творцы—да самога процэсу тварэньня. Да рэчы, для гэтага роду талентаў самы процэс ёсьць сынонім прыгожага.

Словам, талент, які выяўляе сабою „Зямля", ёсьць талент глыбокага, інтуіцыйнага прасяканьня ў жыцьцё. Гэта талент шырокага прыяцьця яго глыбінь, як таго первястковага пачатку, што патрэбен для красаваньня чалавека на зямлі. Гэта талент, які ня столькі сuглядае, сколькі пранікае ў глыб бачанага калі ці чутага. Гэта багаты інтуіцыяй талент. Яна ў яго пераважвае поэтыцкае мастацтва (майстэрства). Сьцьвярдэньнем таму—часта празьмернае ўжываньне славечак і выразаў, які ўразілі былі калі аўтара. Сьцьвярдае гэта і тое, што некаторыя крытыкі называлі нястачаю чуцьця меры або крытычнага дачыненьня да свайго твору і што выразілася ў „Зямлі" ў форме дзе-якіх расьцянутасьцяй ды лішняй не ўвязанай з асноўным ходам разьвіцьця роману эпізодычнасьці некаторых малюнкаў. (Асабліва адчуваецца поэтыцкая няўпэўненасьць у пачатку трэцяй часткі). Зрэшты уменьне набываецца доўгаю і ўпартаю працаю.

Гэта-ж талент такога роду, які мог-бы пра сябе сказаць словамі, М. Багдановіча: „я пад яе зімовай маскай, пад сьнегам бачу твар вясны". Так і аўтар „Зямлі" сваім творам як-бы кажа: я бачу, як усёй сваёй істотай імкнецца зямля зьмяніць свой чалавечы ўбор і яго формы. І яна зьменіць яго, я гэта адчуваю ўсёй душою за гэтымі знадворнымі малюнкамі чалавечага адзеньня зямлі.

Характэрна для гэтага таленту яшчэ і тое, што ён ідзе ад пазнаньня рэальных фактаў, ад іх усьведамленьня да мастацкіх абагульненьняў, а не наадварот, ад ідэі да ўцелаўленьня яе ў вобразах, як гэта можна нагледзаць у некаторых творах беларускай літаратуры.

Талент К. Чорнага з сваіх дасьведчаньняў ставіць мастацкую будыніку. Гэта дойлід у гэтым сэнсе. Ёсьць таленты на пісаньне вобразаў (часта карыстаючыся і натуршчыкамі) на загадзя заданую тэму. Такіх можна параўнаць з работнікамі прыкладнога або перакладнога мастацтва, якому тэмы задаюцца звонку. Іх роля—роля выканаўцы. Канечне, гэта ня значыць, што такога роду ролі не патрабуюць талентаў. Яны толькі абмяжоўваюць абсяг выяўленьня. Талент, што прадстаўлен „Зямлёю", можна параўнаць з дойлідам, якому даюцца ня тэмы, а заказ на творы, на нацыянальныя формы пролетарскай культуры. Тварыць жа нацыянальныя формы і выконваць заданьні сродкамі кананізаванымі ў міжнароднай літаратуры—гэта два розныя роды літаратурна-мастацкай дзейнасьці, якія патрабуюць і розных сіл.

Тое, што ў другім з паказаных двух радоў дзейнасьці магчыма набыць шляхам трэніроўкі і практыкаваньняў, таго нельга набыць такім шляхам без адпаведных даных ад прыроды пры дзейнасьці ў абсягу творчасьці. Іх адносіны між сабою гэта што адносіны між сабою творчасьці і рамесьніцтва. Зрэшты, гэта другая тэма Тут важна зазначыць, што талент, выяўлены „Зямлёю“, -талент творчага характару на першай яшчэ—экспэрымэнтальнай, калі-б льга было так выразіцца, стадыі свайго літаратурнага разьвіцьця.

5

Кузьма Чорны сваім раманам прадставіў перад чытачом круг літаратурна-мастацкіх малюнкаў, што выяўляюць беларускую зямлю з яе людзьмі, дачыненьнямі між іх і працэсамі. Вось як ідзе жыцьцё, як-бы кажа аўтар. Вось што творыцца на зямлі. Перад вамі малюнкі ўсяго гэтага

Ідзе жыцьцё. Выяўляецца дасюль захованае. Выкрываецца дасюль ня выкрытае. Людзі змагаюцца і глыбока перажываюць тое новае, што хоць у болях, але родзіцца на сьвет. Людзі ўсьведамляюць, што падзел зямлі робіць падзел і людзей. Гэта ён паставіў на адным баку Паўла, Сабастыяна, Барановіча, Вашыновіча, а на другім Трахіма, Алеся, Мацьвея ды інш. Гэты падзел выявіў дачыненьні між людзьмі.

Перамер зямлі, каханьне і шлюб, організаваньне капэлі, сьмерць жанчыны, сход, радзіны, вясельле, сьмерць Трахіма і іншыя вонкавыя падзеі грамадзкага парадку ёсьць повады (ці прычыны) выяўленьня людзей, раскрыцьця іх псыхолёгіі, іх сьветаадчуваньня і сьветадачыненьня. Яны той грунт, на якім то падзяляюцца людзі, то яднаюцца.

У сваёй сувязі яны ўласьне складаюць і шкілет раману. Між іншым ідуць яны адна за аднэю, так сказаць, у каляндарным парадку, г. зн. кожная зьвязана з пэўным момантам (у вагульным невялікага ўрыўку часу). Людзі-ж—гэта што цела і кроў на гэтым шкілеце. Нарэшце, гаворкі іх—гэта што ўбор гэтага цэла, што яго кветкі, яго ахварбоўка, яны праходзяць перад чытачом працэсам раскрываньня ўнутранай існасьці і дасьведчаньня людзей.

Словам, на шкілеце соцыяльна-значных падзей у жыцьці мястэчка прадстаўлена выкліканае гэтымі падзеямі раскрываньне ўнутранага зьместу людзей носьбітаў і прычыньнікаў самых падзей, прадстаўлен працэс формаваньня сьвядомасьці масы. Падзеі—гэта што база, грунт, на якім узвышаецца паверх надбудоўкі—людзкія гаворкі, як выяўленьне грамадзкіх настрояў і інтарэсаў дзяляначнага гаспадараньня. Аўтар раману паказвае канкрэтным мастацкім матар'ялам, што дачыненьне людзей да падзей грамадзкага парадку вызначаецца іх грамадзкім быцьцём (становішчам, якое займае тая ці іншая асоба, дасьведчаньнем, якое яна набыла ў жыцьці і да т. п.), а пры такіх формах гаспадараньня, якія аснованы на падзеле зямлі між сем'ямі, інтарэсамі кожнай у асобку дзялянкі. Інтарэсы гэтых дзялянак дыктуюць волю іх гаспадару, хоць кожны думае, што ён гаспадар над дзялянкаю, а не дзялянка над ім.

Соцыяльнае гэтых людзей ёсьць як-бы працяг біолёгічнага, соцыяльнае ў іх толькі форма выяўленьня біолёгічнага пачатку. Людзі гэтыя растуць з зямлі, будучы з даўніх прымацованымі да дзялянак, да пэўнага месца (падобна таму, як гэта бывае і з расьлінаю ці дрэвам). Нехта некалі памерыў зямлю, рассадзіў на дзялянках людзей, і яны аж дасюль расьлі на іх, куставаліся і дзяліліся на часткі, часам адрываліся ад зямлі і рабіліся вандроўнікамі, бесхацімцамі і безьзямельнымі ды шукалі іншых ад зямлі спосабаў да жыцьця.

І вось жылі так людзі: адны ўвесь век пакутавалі (як Мацьвей), другім шчасьціла за добрым здароўем сяк-так трымацца і нават дайсьці да сьвядомасьці, што яны „самі сабе гаспадары". Яны да зямлі ставіліся як да ўласнасьці, якую ахоўвала і адпаведнае права. Цяпер новы час. Сабраліся гэтыя людзі, згаварыліся і перамерваюць зямлю ды зьбіраюцца зноў перамерваць, і права гэтаму не перашкаджае. Заўважце на словы аднае з асоб роману, калі яна гаворыць пра цяперашняе права, як „такое і права". Гэта-ж як моцна яе трымае за розум прывычка жыць на дзялянцы, як цягне яна яе назад. За доўгія гады („спрадведку" як кажа тая-ж асоба) яны звыкліся з сваёю доляй. Час зрабіў сваю справу: гэтыя людзі такія, якія яны ёсьць, выгадаваныя на дзялянках.

Цяпер гэтыя людзі самі перамерваюць зямлю. Гэта-ж новы час даў ім новыя правы, даў ім уладу над зямлёю. І людзі пачалі адчуваць, што гэта-ж яны павінны быць гаспадарамі над зямлёю, а не зямля сваімі дзялянкамі над імі, што гэта-ж ад іх саміх залежыць зрабіць сваё жыцьцё больш радасным і прыгожым на гэтай зямлі. І людзі гэтыя як-бы самі сабе яшчэ ня вераць, што гэта ад іх організаванае грамадзкае волі залежыць, як ім жыць. Яны як-бы яшчэ баяцца свае ўласнай моцы і цягнуцца да праежданых дарог больш, чым да тараваньня новых.

Гэта-ж яны жывуць у такі час, што вось могуць самі рашыць перамерваць зямлю і перамяраюць або згаворацца даць па рублю з хаты на алейню і дадуць і зробяць. Гэта-ж у іх цяпер саміх улада, нават больш таго—яны самі ўлада. Але гэта ўлада новага разуменьня. Яна ўва ўсіх разам і ні ў кога паасобку. Кожны паасобку ажыцьцяўляе якбы дзьве ролі разам: ён і ўдзельнік ажыцьцяўленьня, т. н. законадаўчае ўлады, ён-жа і выканаўчы орган гэтае ўлады. І людзі прабуюць браць уладу ў свае рукі. Вось тут і пачынаецца змаганьне на новым грунце. Адны ўжо ўсьвядоміліся, што яны гаспадары над зямлёю, разумеючы гэта ў сэнсе грамадзкім, другія-ж хоць і лічаць сябе гаспадарамі, яшчэ цалком знаходзяцца ва ўладзе зямлі дзялянкамі, яны яшчэ нявольнікі гэных дзялянак. Між імі ідзе захаванае знадворна змаганьне за формы гаспадараньня на зямлі.

Зямля патрабуе новага да сябе дачыненьня, як зямля, як месца ў сусьвеце, дзе жывуць людзі. Яна—адна, шырокая і прасторная. Яна вымагае, каб людзі жылі на ёй што аднэй вялікай сям'ёй. Камуна—

вось гэта адзіная вялікая сям'я, утварэньня якой вымагае адзіная зямля. Людзі гэта краса і гордасьць зямлі. Яны і гаспадары яе. І каб быць сапраўды кветкамі зямлі, яны вымушаны перамерваць і зямлю і сябе бяручы на сябе пэўныя ролі, вызначаныя воляю грамады і інтарэсамі ўсёй, зямлі, а не аялянкамі і іх грамадзкім эквівалентам—сям'ёю. І галоўная роля—гэта быць гаспадаром і не гаспадаром (работнікам для ўсіх) адначасна.

Роман паказвае, што кожны з выведзеных людзей ёсьць носьбіт пэўнай сілы, пэўных магчымасьцяй, далёка не цалком яшчэ раскрытых і выяўленых. Кожны з іх гэта асобны сьвет у мініатуры, кожны з іх удзельнік жыцьцёвага аркестру на зямлі. І кожнаму з іх выпадае на долю новая роля, дасюль невядомая і цяпер не заўсёды яшчэ цалком усьвядомленая. Мы бачым праз роман, як гэтыя людзі пробуюць выконваць новыя ролі, што вызначаны патрэбамі жыцьця і вымаганьнямі зямлі новага часу. Адлюстраваньнем выконваньня гэных роляй ёсьць гаворкі—гэта адна з форм выражэньня сьвядомасьці.

„Зямля“—носьбіт глыбока матар'ялістычнага сьветагляду. Але матар'ялізм, прадстаўлены „Зямлёю“, натуральны матар'ялізм, матар'ялізм т. ск. біолёгічны. Гэта—сьветагляд, у цэнтры якога стаіць матэрыя (канкрэтна зямля), як асноўны пачатак жыцьця. Гэты пачатак тоіць у сабе нявычэрпныя і нявыведаныя яшчэ вялікія магчымасьці, усёроўна як зерне якое. Выяўленьне гэных магчымасьцяй у сьвеце аформованымі ў пэўным матар'яле залежыць ад адпаведных умоў. Рэволюцыя—гэта адна з гэтых умоў, гэта адна паласа такая ў часе, калі зямля пускае парасткі новага, калі яна пускае на сьвет (хоць у вялікіх болях) новыя, няведаныя дасюль сілы для жыцьця і красаваньня „на радасьць сабе і другім“, кажучы словамі А. Гаруна. Рэволюцыя—гэта усёроўна што дождж на засмаглую ніву. Рэволюцыя—гэта што сонца ўвясну для замёрзлае зямлі. Нарэшце, рэволюцыя—гэта што восень і зіма, як час сьмерці таго, што сваё адцьвіло за лета, і як час выпрабаваньня ды загартоўваньня ў маразох і сьнягох таго, што пасеяна ўвосень „Бач, якая рунь зялёная з-пад сьнегу відаць каля дарогі... Бачыш, якая рунь?!“ кажа адна з асоб роману і гэтыя словы гучаць адчуваньнем руні і соцыяльнай, якая узышла ўжо і зелянее на зямлі.

## 6

І каб ня жылі гэтак людзі на зямлі, ці мог-бы быць і роман гэты.

Жыцьцё стварыла людзей гэтых. Яно дало ўзоры і для твору. Пісьменьнік толькі тое і зрабіў, што з матар'ялаў, якія дало жыцьцё, стварыў мастацкі эквівалент гэтага жыцьця. Ён толькі і зрабіў тое, што сродкамі мастацкага слова даў нам магчымасьць перажыць у некалькі гадзін (час чытаньня роману) тое, што творыцца вякамі і ў жыцьці перажываецца гадамі. Ён узяў у жыцьці форму, каб выказаць сваё адчуваньне і разуменьне сьвету і жыцьця. Гэта разуменьне моваю адцятых паняцьцяў можна выразіць так: жыцьцё сьвету перад усім ёсьць жыцьцё з яго магутнасьцю і слабасьцю, яно процэс, а не

статыка. І людзі перад тварам гэтага сьвету—толькі яго праявы, але праявы такія, што носяць у сваёй глыбі вялікія бунты супроць „недарэчнасьцяй сьвету“.

Так жыцьцё дало форму для выражэньня пераžытага аўтарам. І гэта дае падставу казаць, што не адзін К. Чорны творца роману „Зямля“. Яго стварыла грамадкае быцьцё ў пэўных сваіх формах і часе. К. Чорны толькі першы ўбачыў гэты твор, адчуў і пераžыў яго, ды стварыў літаратурна-мастацкі яго эквівалент напісаньнем роману, каб даць магчымасьць пераžыць і пераадчуць і другім. Падобна таму, як, скажам, ня мог-бы Мікалай (асоба роману) расказаць пра забойства якое калісьці ён учыніў, калі-б гэтага ня было з ім, так ня было-б і мастацкага эквіваленту ў постаці „Зямлі“, калі-б ня было гэтага твору ў рэальным быцьці. У гэтым сэнсе мы можам паставіць пытаньне наконт соцыяльнага аўгара гэтага роману. Іначай кажучы, мы можам папытаць, якія формы соцыяльнага быцьця вызначалі сабою тую форму сьвядомасьці, што рэалізавана „Зямлёю“. І канечне, кожны, хто чытаў роман, адкажа, што гэта рэволюцыйныя формы, што гэта тыя формы, якія зьявіліся ў выніку соцыяльнай рэволюцыі. Гэта тыя формы, ва ўмовах якіх усе старыя паняцьці пераходзяць у сваё адмаўленьне, а новыя паняцьці ствараюцца практыкаю самога жыцьця. Гэта тыя формы, у якіх, кажучы словамі Леніна, прыемней рабіць вопыт рэволюцыі, ніж пісаць пра яго. Гэта тыя формы соцыяльнагабыцьця, дзе чалавек працоўны ўпяршыню пачуў сябе менавіта чалавекам ня толькі ў сабе, але і для сябе. Гэта тыя формы, у якіх моцна зьвязаныя сваімі карэньнямі з зямлёю групы выходзяць у сьвет за часам рэволюцыі, дзякуючы ёй становяцца на верхніх ступенях соцыяльных усходаў (па тэй ролі, якую яны адыгрываюць у грамадкім жыцьці). Адна з іх—гэта апролетарызаваная сялянская моладзь—(ня ўзростам толькі) і ёсьць соцыяльны аўтар „Зямлі“. Гэта тая група, што вядзе перад у практыцы рэволюцыі на зямлі, у практыцы пабудовы новых форм чалавечага жыцьця на ёй. Яна зьяўляецца тут носьбітам і таго, што ідзе ад чалавека,—організацыйнага пачатку, які выкліканы ў гэтых формах да жыцьця і кіраваньня другім пачаткам гэтага быцьця—стыхійным, які ідзе ад зямлі і авеяны за вякі духам сваеадменнай культурнасьці ў сваіх праявах. Гэта тая група, якая калі яшчэ не ўсьвядоміла дык усёй душой сваёй адчувае няўхільны ход процэсу аднаўленьня зямлі і па меры сваіх сіл і магчымасьцяй дапамагае яму сваім актыўным удзелам у гэтым руху.

---

„Зямля“ зьвернута тварам да сялянскага чытача. І гэты чытач яе зразумее, прыме яе і паверыць ёй, як свайго роду эмоцыянальнаму эвангельлю рэволюцыі. Прымуць „Зямлю“ тыя, што ўжо вышлі з сялянства, але за рэволюцыяй і ў часе яе там здолелі пераžыць процэсы, якія распачаліся ў выніку палітычнага перавароту ў Кастрычніку.

Не зразумеюць „Зямлі“ ўцалку (хоць і будуць захапляцца і хваліць асобныя яе месцы і малюнкі) чытачы з мяшчанскага і інтэлігенцкага (не сялянскага пахоџэньнем) асяродку. Яны ня прымуць яго, як твору пролетарскай літаратуры.

Чытач іншакраёвы, ӡе высока стаіць мастацкая культура, на гэтым романе ўглеӡіць, як высока ўзьнялася беларуская літаратура за часы рэволюцыі (хоць ӡе якія моманты і асуӡіць з пункту глеџаньня літаратурна-мастацкае тэхнікі свайго краю). Ён адчуе ў ім тое своеадменнае,што характарызуе нацыянальную форму роману і што дае магчымасьць бачыць за романам сялянскую Беларусь у новым рэволюцыйным яе выяўленьні. Ён адчуе „нашу сінь“, якую вартуюць „лясы, дубровы, пушчы“; ён углеӡіць сузор'і зор у нашых прасторах, аб чым правяшчана эпіграфам да „Зямлі“, узятым з Я. Пушчы.

---

Роман „Зямля“ шырокае поле для ӡейнасьці беларускай крытыкі ўсіх кірункаў.

Філёзофічная знойӡе тут шмат матар'ялаў для суџэньня аб народнай філёзофіі, сялянскай жыцьцёвай мудрасьці, што склалася ў выніку жыцьцёвай практыкі за старым часам ды выяўляецца і складаецца нанова за новым.

Публіцыстычная знойӡе сабе тут грунт паставіць шмат якія актуальныя пытаньні, што патрабуюць завастрэньня грамаӡкай увагі на сабе і неадкладнага разьвязаньня. Прыкладам можа быць пытаньне наконт шляхоў сучаснае вёскі па роману „Зямля“.

Эстэтычная зноў-жа адшукае тут шмат матар'ялаў для суџэньня аб прыгожым і іншых катэгорыях эстэтычнага, для суџэньня аб народных эстэтычных густах, што выявіліся моваю, а таксама для суџэньняў аб разуменьні аўтарам роману літаратурнага мастацтва.

„Зямля“ буӡе чытацца і буӡе горача абгаворвацца. Буӡем спаӡявацца, што гэтае абгаварэньне выб'ецца праз друк і ў шырокі сьвет. А пакуль што дазвольце закончыць сваё слова. Ім мы толькі выказалі сваё разуменьне „Зямлі“. Цяпер ваша слова, дарагія чытачы і шаноўныя крытыкі!

**Ів. Цьвікевіч**

# Дзіцячая літаратура ў Японіі

*(Да прыезду ў Менск „Выстаўкі дзіцячае кнігі і дзіцячае творчасьці Японіі“)*

Беларуская дзіцячая літаратура пачала выдавацца ў 1927 г. Там, дзе раней было літаральна пустое месца, цяпер мы маем каля двухсот назваў і болей паўмільёна экзэмпляраў дзіцячых кніжак. Ёсьць кніжкі на рознастайныя тэмы і для рознага ўзросту, пачынаючы ад праддашкольнага і канчаючы школьнікамі старэйшых клясаў сямігодкі. Аднак, ня гледзячы на такі хуткі тэмп росту беларускай дзіцячай літаратуры, яна мае шэраг недахопаў. Блізка 90 проц. беларускай дзіцячай кніжкі—гэта пераклады з расійскай ды ўкраінскай дзіцячай літаратуры. У сэнсе тэматыкі—пераважаюць дзіцячыя кнігі прыродазнаўчага характару і казкі, у той час, як павінны пераважаць дзіцячыя кнігі соцыяльна-бытавога, гісторыка-рэволюцыйнага і вытворчага зьместу. З боку мовы, літаратурнай мастацкасьці і знадворнага – тэхнічнага і мастацкага—аформленьня беларуская дзіцячая кніга яшчэ надта далёка ад ідэалу. Праблема беларускае дзіцячае кнігі зрабілася гострай, актуальнай і патрабуе безадкладнага вывучэньня і вырашэньня. Дасьледуючы такую параўнаўча важную культурна-соцыяльную проблему, мы не павінны абмяжоўвацца вывучэньнем уласнай працы і вопыта іншых савецкіх рэспублік. Трэба азнаёміцца з усёй сусьветнай дзіцячай літаратурай, азнаёміцца з найноўшымі пэдагогічнымі ідэямі наконт гэтай літаратуры, са спосабамі і формамі выяўленьня пропаганды клясавае ідэолёгіі праз дзіцячую кніжку ў розных капіталістычных дзяржавах і, урэшце, скарыстоўваць тое, што мае каштоўнасьць для нас у сэнсе ініцыятывы, вопыту і дасягненьняў.

„Усесаюзнае таварыства культурнай сувязі з замежжам“, каб дапамагчы савецкім дасьледчыкам дзіцячае літаратуры і азнаёміць шырокія колы савецкага грамадзтва з замежнай дзіцячай кнігай, пачало ладзіць выстаўкі гэтай кнігі ў СССР. Першая такая выстаўка, прысьвечаная нямецкай дзіцячай кнізе, была ў траўні мінулага году ў Маскве. Увосень таго-ж году ў Маскве адбылася выстаўка японскай дзіцячай кнігі і творчасьці японскіх дзяцей. Абедзьве гэтыя выстаўкі мелі вялікі посьпех; пра іх многа пісалі ў прэсе, а для працаўнікоў дзіцячае кнігі яны далі шмат новага і карыснага. Па просьбе зацікаўленых установаў гэтыя выстаўкі перакідаліся пасьля ў іншыя гарады: нямецкая выстаўка была ў Ленінградзе, Кіеве і Пакроўску (рэспубліка немцаў Паваложжа), а японская на працягу ўсяе зімы пераяжджае з аднае рэспублікі ў другую. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва ўжо даўно вядзе перамаўленьні наконт паказу японскае выстаўкі ў Менску і мае

паведамленьне, што гэта выстаўка будзе перакінута ў БССР у канцы траўня або ў чэрвені бягучага году.

Летась у Маскве мне давялося бачыць экспонаты японскай выстаўкі і слухаць даклад японскага профэсара літаратуры Кіма пра дзіцячую літаратуру Японіі. На падставе бачанага і слышанага мы хочам азнаёміць нашу грамадзкасьць з сучасным станам японскае дзіцячае кнігі.

* * *

Зараз у Японіі нязвычайны росквіт дзіцячае літаратуры. Адначасна з гэтым наглядаецца нябывалы рост, колькасны і якасны, навукова-пэдагогічнай літаратуры, прысьвечанай проблемам японскай дзіцячай кнігі.

Асобная літаратура для дзяцей зьявілася ў Японіі досыць позна — і другай палове XIX стагодзьдзя пад уплывам чужаземнай, францускай, літаратуры. Нарадзілася японская дзіцячая кніга ў выглядзе казак. Але гэтыя нацыянальныя казкі ня былі ўзяты з народных японскіх казак. Іх стварыў першы дзіцячы пісьменьнік Івая Сасонамі—японскі Андэрсэн. Ён пераапрацоўваў і дапасоўваў да дзіцячага ўзросту японскую мітолёгію, японскія рыцарскія романы і такім чынам стварыў японскую нацыянальную казку. Чыста народнымі казкамі японцы зацікавіліся толькі ў апошнія гады і пачалі зьбіраць скарбы свае народнае творчасьці.

Як і ўсе народы, японцы не маглі абмінуць шырокага скарыстаньня чужаземнай дзіцячай літаратуры. У 90-х гадох мінулага стагодзьдзя яны пачалі выдаваць для дзяцей пераклады з эўропейскай, кітайскай і індускай літаратур. У сучаснай японскай дзіцячай літаратуры ёсьць амаль уся заходня-эўропейская клясычная літаратура, як казкі бр. Грым, Андэрсэна, байкі Эзопа, Ляфонтэна, вядомы Рабінзон Крузо і г. д., ёсьць і пераклады расійскіх народных казак, баек Крылова, дзіцячых апавяданьняў Л. Талстога і г. д.

Японская дзіцячая літаратура зьяўляецца дасканалай ілюстрацыяй таго, як пануючая кляса скарыстоўвае гэты від літаратуры для пропаганды сваіх клясавых мэт ды ідэй. Японскае міністэртва народнае асьветы пільна сочыць за ідэолёгіяй дзіцячых выданьняў, сурова караючы „вольнадумныя“ ўхілы і хвалячы, заахвочваючы кожны крок, які служыць на карысьць капіталістычнаму ладу дзяржавы. Так, міністэрства вельмі спагадае дзіцячым выданьням школьна-патрыотычнага характэру і асабліва падтрымлівае дзіцячую літаратуру, прасякнутую так званым „мікадызмам“ (ад слова „мікадо“—японскі імпэратар).

У гэтай літаратуры пануе культ японскага імпэратара і японскага ваяўнічага імпэрыялізму. Ад маленства японскім дзецям прышчапляюць думку, што мікадо—гэта сын неба, што ўвесь род японскіх імпэратараў нябеснага пахаджэньня. Нават ва ўнівэрсытэцкіх падручніках гэтая дзікая тэорыя мае сваё сталае месца. Калі адзін з профэсараў спрабаваў у сваіх лекцыях студэнтам парушыць гэту тэорыю, міністэрства асьветы звольніла „вольнадумнага“ профэсара. Ня менш

горача міністэрства асьветы падтрымлівае выданьне ꙃіцячае літаратуры вульгарнага жанру, у якой апяваецца гэроічны эпос старых часоў, выхваляюцца ўсялякія жорсткасьці, у якой пануе культ грубай фізычнай сілы.

Ꙃякуючы кантролю і націску міністэрства народнай асьветы, японская ꙃіцячая літаратура абмінае пытаньні эканомікі, гаспадаркі, зусім не асьвятляе пытаньняў соцыяльна-політычных і, такім чынам, штучна прыглушае ў ꙃяцей цікавасьць да гэтых пытаньняў. Затое сярод японскіх ꙃіцячых кніг ёсьць вялікае мноства такіх, якія дасканала і сыстэматычна правоꙃяць ідэі мілітарызму і шовінізму. Да адмоўных рысаў японскай ꙃіцячай літаратуры трэба залічыць і тое, што яна, па прыкладу ўсіх буржуазных ꙃіцячых літаратур правоꙃіць прынцып паꙃелу кніг „для хлопчыкаў" і „для ꙃяўчынак" (у нас гэты прынцып, як вядома, прызнаны выхаваўча-шкодным і адкінут, як збуцьвелы і антыпэдагогічны).

Наогул-жа японскія ꙃіцячыя выданьні--і пэрыодыка і непэрыодыка—па літаратурнай якасьці і па мастацкаму аформленьню стаяць ня ніжэй заходня-эўропейскіх і амэрыканскіх, а часам—і значна вышэй. Асабліва цікавы зборнікі ꙃіцячых апавяданьняў, запісаных са слоў профэсіяналістых апавядальнікаў або ўложаныя з твораў выдатнейшых японскіх ꙃіцячых пісьменьнікаў.

У Японіі ўтварылася „Асоцыяцыя ꙃіцячых пісьменьнікаў", якая штогод выдае зборнік ꙃіцячых апавяданьняў. Кожны сябар „Асоцыяцыі" павінен у працягу году напісаць і даць да друку хоць адно ꙃіцячае апавяданьне. Пісьменьнікі гэтага аб'яднаньня адкідаюць прынятую ва ўсім сьвеце ўстаноўку на сюжэтнасьць і цікаўнасьць у ꙃіцячых апавяданьнях. Яны ставяць на першае месца высокую мастацкасьць апавяданьня. У сваіх творах яны знарок аслабляюць „сюжэтнасьць", ня лічацца з тым, каб „вязаць канцы з канцамі", а проста даюць „кавалкі жыцьця". Напрыклад, у самым пачатку апавяданьня аўтар кароценька падае яго зьмест, а пасьля разьвівае паасобныя моманты.

Выдатнейшы ꙃіцячы пісьменьнік Японіі Шымазакі Тозо таксама лічыць самым галоўным элемэнтам твораў для ꙃяцей мастацкасьць і ў сваіх апавяданьнях адкідае сюжэт.

Японскія пісьменьнікі трымаюцца думкі, што не павінна быць мяжы паміж ꙃіцячай літаратурай і літаратурай для дарослых. Амаль усе выдатныя японскія пісьменьнікі пішуць для дзяцей і для дарослых. Свае творы яны выдаюць такім чынам, што ў аднэй кнізе ідуць побач роман і ꙃіцячае апавяданьне. Характэрна, што новая школа японскіх поэтаў пачала свае экспэрыменты тонічнага вершаваньня з вершаў, напісаных для ꙃяцей: „што добра для ꙃяцей, спадабаецца і дарослым"—кажуць гэтыя поэты.

Зборнікі ꙃіцячых апавяданьняў вызначаюцца высокай тэхнікай самых апавяданьняў. Гэта залежыць ад таго, што ў Японіі наогул майстэрства расказваньня і красамоўства штучна культывуецца. Яшчэ ў

школе дзяцей навучаюць мастацкі расказваць: сыстэматычна ладзяць вялікія сходы вучняў і прымушаюць кожнага вучня экспромтам нешта расказаць.

Культура расказа пашыраецца праз спэцыяльныя вулічныя тэатрыкі, дзе кожны вечар выступаюць профэсіяналы-расказчыкі, якіх можна паслухаць за вельмі танную плату. Ёсьць спэцыяльныя клюбы расказчыкаў, выдаюцца кнігі пра тое, як расказваць, ладзяцца вечары расказаў для настаўнікаў і пэдолёгаў Зьявілася шмат тэорэтыкаў самой тэхнікі расказу; выдаюцца спэцыяльныя кнігі пра гэту тэхніку і г. д. У дзіцячых кнігах ёсьць часам прадмовы да пэдолёгаў і настаўнікаў, пры чым гэтыя прадмовы падрабязна гавораць пра тое, як трэба чытаць тое ці іншае апавяданьне, колькі хвілін для якога ўзросту. Усе дзіцячыя зборнікі ўложаны амаль выключна з кароценькіх расказаў і толькі для дзяцей 15—16 год даюцца крыху большыя творы.

Што да ілюстрацый у дзіцячых японскіх кніжках, то кніжкі новых японскіх пісьменьнікаў ілюструюцца мастакамі левага напрамку, якія адашлі ад старых традыцыйных спосабаў аформленьня дзіцячых кніжак. Аднак трэба адзначыць, што амаль усе японскія мастакі працуюць на дзіцячую кнігу.

Як цікавы факт у галіне дзіцячых выданьняў, адзначым, што некаторыя дзіцячыя кнігі карыстаюцца вялікім посьпехам сярод дзяцей, і гэтыя кнігі вытрымліваюць 16 паўторных выданьняў на працягу двух год!

Шмат увагі японцы аддаюць мастацкаму аформленьню школьных падручнікаў, аздабляючы іх высока-мастацкімі графічнымі малюнкамі. Мы ў гэтым напрамку, на жаль, зрабілі надта мала. Неяк укаранілася ў нас шкодная, абсолютна нічым неапраўданая традыцыя выпускаць масавыя школьныя падручнікі шаблённа, шэра, нудна. І вокладка ідзе самая простая, шрыфтовая, і папера даецца горшага гатунку і ілюстрацыі нічога ня вартыя ў сэнсе мастацкасьці. А масавая школьная кніга якраз павінна быць тым рэчышчам, па якім можна лёгка наблізіць сапраўднае мастацтва да нашае моладзі і настаўніцтва. Мы часам упарта шукаем спосабаў, каб прасунуць мастацтва ў масы, у той час як гэтыя спосабы ёсьць і самі даюцца ў рукі.

Дзіцячая пэрыодыка—газэты і часопісі—пастаўлена добра як у сэнсе колькасьці, так і ў сэнсе якасьці Усяго ў Японіі выдаецца 54 дзіцячыя часопісы, апроч газэт. Большасьць іх сьцісла прыстасавана да пэўных узростаў і ва ўсіх ёсьць разьдзел „Творчасьць нашых чытачоў“. У кожным нумары рэдакцыя дае тэмы для апавяданьня, пры чым абмяжоўвае аўтараў памерам, напрымер, на 20 радкоў. Лепшыя дзіцячыя творы прэміруюцца. Даюцца заданьні на падбор рытмаў, напр. падшукаць на адзін склад як мага болей рытмаў. Задаюцца тэмы на дасьціпныя адказы, зьмяшчаюцца малюнкі дзяцей-чытачоў і г. д. Усё гэта, бязумоўна, прышчапляе японскім дзецям літаратурныя навыкі і ўтварае жывую сувязь маленькіх чытачоў з іх прэсай.

# КУЛЬТУРА МОВЫ

## Яфэтычная тэорыя[1])

Яфэтычная тэорыя—матэрыялістычная навука пра мову, створцам якой зьяўляецца акадэмік Н. Я. Марр, у леташнім 1928 г. урэшце ацэнена як належыць. У кастрычніку месяцы ў камуністычнай акадэміі пры ЦВК Саюзу ССР створана падсэкцыя матэрыялістычнага мовазнаўства, старшынёй якой абраны Н. Я. Марр.

Першы публічны даклад самога створцы прывабіў увагу марксыцкай аўдыторыі, якая з вялікаю цікавасьцю азнаёмілася з проблемамі і задачамі тэорыі 29-га сьнежня (летась) яфэтычная тэорыя была прадметам дакладу на Ўсесаюзнай конфэрэнцыі гісторыкаў-марксыстых. Н. Я Марр выступіў з дакладам на тэму „Гістарычны процэс у асьвятленьні яфэтычнае тэорыі“. Тая напружаная увага, з якою высокакваліфікаваная аўдыторыя марксыстых-ленінцаў выслухала найскладанейшы з боку зьместу даклад, паказала, што ў яфэтычнай тэорыі марксыстыя знайшлі крыніцу, з якой можна чэрпаць выключна каштоўныя дадзеныя для марксызму.

Выступаўшы па дакладзе, М. Н. Пакроўскі адзначыў, што, каб быў жывым Энгельс, дык, бясспрэчна, ён скарыстаў бы гэтую тэорыю для марксызму.

Пададзеныя факты зьяўляюцца выстарчальнаю падставаю для таго, каб прапанаваць на ўвагу беларускага чытача сьціслы нарыс яфэтычнае тэорыі. Няма ніякага сумненьня, што чытач адразу заўважыць усё тое, што родніць гэтую тэорыю з марксызмам, і чым яна розьніцца ад ускрытага брасьнеласьцю буржуазнага мовазнаўства.

I

Сорак гадоў расьце і мацнее яфэтычная тэорыя. У 1888 годзе малады вучоны Н. Я. Марр кладзе першы камень, заявіўшы ў невялікім артыкуле, напісаным грузінскаю моваю, пра тое, што грузінская мова, бясспрэчна, знаходзіцца ў сваяцтве з сэмітычнымі. З пункту погляду эўропейскае навукі такая заява была занадта рызыкоўнай, бо вучоныя ў сваіх клясыфікацыях вызначылі месца грузінскай мове між так званых „каўкаскіх“ моваў. З іх пункту погляду паміж каўкаскімі і сэмітычнымі (арабская, гэбрэйская і інш.) мовамі нічога агульнага быць не магло, хоць думка пра роднасьць грузінскае мовы з сэмітычнымі выказвалася, як меркаваньне.

---

[1]) Ад рэдакцыі. Таксама, як кожны актыўны ўдзельнік соцыялістычнага будаўніцтва павінен быць знаёмым з асновамі матэрыялістычнае тэорыі, з тэорыяй Дарвіна і пад., ён павінен быць знаёмым і з асновамі яфэтычнае тэорыі, якая ідзе на зьмену буржуазнаму мовазнаўству. Рэдакцыя, даючы гэты сьціслы і вельмі даступны для чытачоў не спэцыялістых нарыс яфэтычнае тэорыі, нагадвае, што Н. Я. Марр (член

Роўна дваццаць год створца тэорыі ўпарта працуе над грузінскімі літаратурнымі помнікамі, вывучаючы сьвецкую літаратуру, параўноўваючы з пэрскімі помнікамі, а духоўную параўноўваючы з армянскімі. Былі вывучаны армяна-сырыйскія, грузіна-арабскія, армяна-арабскія літаратурныя узаемадачыненьні. З выключнай упартасьцю „аналізуецца“ слоўнікавы уплыў іншакраёвых моваў, для чаго прыцягваюцца, апрача паказаных вышэй моваў, турэцкая, грэцкая, сярэдня-пэрская і многія іншыя мовы.

Пасьля выдрукаваньня значнае колькасьці філёлёгічных прац Н. Я. Марр друкуе ў 1908 г. вялікую працу пад назваю „Основные таблицы к грамматике древне-грузинского языка“, якая канчаткова пацьвердзіла думку, выказаную ў 1888 г. Новы этап у разьвіцьці яфэтычнае тэорыі пачынаецца ў 1910 г., калі Н. Я. Марр выпушчае граматыку чанскай (лазскай) мовы. За ім адзін з яго выдатных вучняў І. Кіпшыдзе выпушчае граматыку мегрэльскае (мінгрэльскае) мовы. Увагу яфэтычнае тэорыі прыцягваюць жывыя мовы Каўказу і між іх мовы Арменіі і Грузіі. Вывучаюцца жывыя, безальфабэтныя мовы—сванская, абхаская і многія іншыя. Прыцягваюцца таксама мовы клінавідных напісаў—халдзкая, эламская і іншыя, робіцца новая вынаходка

Армянская мова, якая ўважалася ў вучоных Эўропы інда-эўропейскаю, аказалася гібрыднаю, г. зн., з аднаго боку, блізкай да эўропейскіх, а з другога—да грузінскае. Для ўдасканаленьня клясыфікацыі быў створаны ўмоўны тэрмін—„яфэтычныя“ мовы. З прычыны таго, што ў існуючай навуковай клясыфікацыі ўжо былі мовы сэмітычныя і хамітычныя (ад біблейскіх імён „Сім“ і „Хам“) дык выпадала (ад імя трэцяга брата „Яфэта“) увесьці менавіта тэрмін „яфэтычны“.

Вывучаючы яфэтычныя мовы параўнальным мэтодам, Н. Я. Марр уважаў, што ўсе гэтыя мовы ўзыходзяць да аднае пра-мовы, якая ў сваю чаргу родная сэмітычным і хамітычным. Пазьней паняцьце „яфэтычны“ стала адзначаць ужо іншае, а менавіта—сыстэму моваў.

Аднак, ім было ўжо заўважана, што, апрача армянскага, яфэтычныя элемэнты зьмяшчаюць мовы клясычнага сьвету (Грэцыі і Рыму). Наступіў новы пераломны момант у разьвіцьці тэорыі. Пытаньні мовы сталі вывучацца ў сувязі з гісторыяй матэрыяльнай кутьтуры і грамадзкасьці. Яфэтычныя мовы Каўказу прымусілі зьвярнуць увагу на „яфэтызмы“ ў грэцкай мове.

---

Усесаюзнай акадэміі навук і прэзыдэнт Акадэміі матар'яльнай культуры) выбраны правадзейным членам Беларускай Акадэміі Навук. Гэтая акалічнасьць дазваляе спадзяваецца, што ў бліжэйшых выпусках клясы філёлёгіі БАН, напрыклад, замест прадстаўнікоў буржуазнага мовазнаўства, накшталт заядлага ворага яфэтычнае тэорыі проф. Ільлінскага і пад.,—пачнуць зьяўляцца творы акад. Н. Я. Марра, або ягоных вучняў. Адначасна ўважаем патрэбным нагадаць, што да гэтага часу ня зьдзейсьнена пажаданьне, выказанае ў Дубоўк вым артыкуле (Узвышша, № 4 (10). 1928 г.) у такіх словах,—„Ці паклапаціўся хто, каб, скажам, для культурных працаўнікоў у Менску быў наладжаны шэраг лекцый акад. Н. Я. Марра, або каго з ягоных беспасрэдных асыстэнтаў? Гэтага пакуль што ня зроблена“... Спадзяёмся, што ўсё-ж будзе зроблена..

Гэты паварот увагі ў бок некаўкаскіх моваў з „палеонтолёгічным“ падыходам выявіўся ў адмысловай працы Н. Я. Марра „Яфетический Кавказ и третий этнический элемент в созидании средиземноморской культуры“, якая (праца) выйшла ў 1920 г. Ад таго часу яфэтыдазнаўства распадаецца на дзьве навуковыя дысцыпліны: 1) на „яфэтычнае мовазнаўства, г. зн. навуку пра яфэтычныя мовы, пра асобную сыстэму моваў“, і 2) на „яфэтычную тэорыю наогул у дапасаваньні да мовы— агульная навука пра мову, пра яе паходжаньне, пра ўзаемадачыненьні розных моўных сыстэм у статычным іх стане, ад пластовак розных этапаў разьвіцьця гукавой гутаркі чалавецтва і пра яе эволюцыі як формальнай тытолёгіі, так і ідэолёгічнай“.

Але гэта не азначае, што разьвіцьцё яфэтычнае тэорыі на гэтым спынілася. На працягу апошніх васьмі гадоў яфэтычная тэорыя, як навука пра мову, перайшла шэраг новых этапаў. Накш кажучы, тэорыя расьце, разьвіваецца, перажывае пераломныя моманты. З пункту погляду буржуазнай моралі гэта ня зусім „прылічна“, пра што Н. Я. Марру даводзіцца не аднойчы чуць і чытаць. Нас-жа, марксыстых, такое „непостоянство“ мілуе, бо яно, зважаючы на факты, усё больш набліжае да марксызму.

II

Цяпер яфэтычная тэорыя прышла да такіх вывадаў па пытаньнях, паходжаньня мовы, яе ўзросту, зьначаньняў, пра яе будучыну, якія цалкам розьняцца ад палажэньняў, устаноўленых сучаснай буржуазнай навукай. Сучасная буржуазная лінгвістыка, пабудаваная на формальна-параўнаўчым мэтодзе, лічыць, што існавалі прамовы, ад якіх пашлі сучасныя. Так, напрыклад, эўропейскія мовы паходзяць ад індаэўропейскае пра-мовы, сэмітычныя ад пра-сэмітычнае і г. д. Паводле яфэтычнай тэорыі процэс ідзе ў адваротным парадку: „чалавецтва не пачынала адзінаю моваю, а ішло і ідзе да адзінства мовы ўсяго чалавецтва“. Вось чаму Н. Я. Марр, не адмаўляючы значэньня эспэранто і іншых штучных моваў, разглядае гэтыя спробы як жаданьне выперадзіць натуральны процэс. За апошні час буржуазная лінгвістыка адчула сваю адарванасьць ад сапраўднасьці. Дзеля гэтага яна імкнецца падвесьці пад свае асноўныя палажэньні некаторую матэрыяльную базу або, любяць яны гаварыць—„соцыялёгічную падставу“. Але і гэты спосаб не ратуе яе. Яфэтычная тэорыя цалкам будуецца на матэрыялістычнай падставе. „Гукавая гутарка не зьяўляецца звычайным дарам прыроды. Гукавая мова ёсьць стварэньне чалавецтва. Чалавецтва стварыла сваю мову ў процэсе працы, у вядомых грамадзкіх умовах, і ператварае яе з прыходам сапраўды новых соцыяльных форм жыцьця і быту, згодна з новым у гэтых умовах мысьлейем“.

Такім чынам, трэба шукаць карэньне людзкой мовы „ня ў вонкавай прыродзе“ і ня „ўнутры нашай фізычнай прыроды, а ў грамадзкасьці, у яе матар'яльнай базе, гаспадарцы і тэхніцы“.

Вывучаючы мовы, лінгвісты ня можа абмежавацца толькі мовамі „культурных“ народаў і, асабліва, іх пісоўнымі мовамі. Яфэтычная тэорыя ўважае, што літаральна ўсе мовы сусьвету зьяўляюцца продуктамі адзінага „мovaтворчага“ процэсу, і таму ў яе полі зроку знаходзяцца і мёртвыя, і жывыя, і эўропейскія, і афрыканскія, і азіяцкія і іншыя мовы, між якімі не існуе тых муроў, якія паставіла старая буржуазная навука.

Зруйнаваньню гэтых муроў дапамагала вывучэньне яфэтычных моваў Каўказу. Калі яфэтыдызмы, г. зн. зьявы, знойдзеныя ў мовах Каўказу, былі знойдзены ў заходніх мовах, у фінскіх, кітайскай і іншых мовах, стала ясна, што нейкія зьявы зьвязваюць мовы сусьвету, г. зн., накш кажучы, ня існуе моваў, якія зьявіліся-б зусім ізолявана і жылі-б сваім жыцьцём. Адначасна яфэтычная тэорыя даканала многія палажэньні буржуазнага мовазнаўства, з якіх можна паказаць на наступныя: 1) пра расавыя мовы; 2) пра хронолёгізацыю моваў на падставе пісоўных і, асабліва, мёртвых моваў; 3) пра нацыянальную або першародную чыстасьць моваў і г. д.

Яфэтычная тэорыя у процівагу выставіла палажэньне пра „спачатковае скрыжаваньне ў гукавой мове“, пра сыстэмы моваў, замест расавых моваў, пра „ідэолёгічны аналіз, замест формальнага“ і іншае. Адмаўленьне ад многіх палажэньняў буржуазнага мовазнаўства і выстаўленьне сваіх новых палажэньняў зусім не адзначае, што яфэтычная тэорыя цалкам адкідае інда-эўропейскую лінгвістыку. Сама тэорыя радзілася ў „буржуазна складзеным і скроеным навуковым асяродзі“, як „антытэза“.

Але паколькі поступ наперад прыводзіць да вынаходкі новых моўных зьяваў, пастолькі яфэтычная тэорыя ня толькі адкідае паасобныя палажэньні інда-эўропейскага мовазнаўства, але цалкам адкідае некаторыя і свае палажэньні, якія нядаўна прызнаваліся слушнымі. Зусім зразумела, што адмаўленьне ад формальнага мэтоду прывяло і Н. Я. Марра да заключэньня, што „трэба вучыцца і прыцягваць досьледы, пашыраючы кола дасьледваных моваў з іх масавым матар'ялам“.

Такім чынам яфэтычная навука заменіць „зьмярцьвелую, якая зьнябыла сябе“, старую інда-эўропейскую навуку пра мову.

Вельмі каштоўная заўвага, што яфэтычнае мовазнаўства „з цяжкасьцю вызваляецца апошнія гады з пялюшак буржуазнага мысьленьня і адпаведна суладанай мэтодолёгічна навуковай працы“. Але „стыхійны марксызм“ Н. Я. Марра ўсё больш спрыяе гэтаму вызваленьню. Адзін той факт, што для яго ня існуе моваў „отприродных“ і „культурных“, да вывучэньня якіх трэба падыходзіць розна, дае яфэтычнай тэорыі найвялікшую перавагу ў параўнаньні з старой буржуазнай навукай пра мову. „Кастрычнікавая рэволюцыя грамадзка скасавала гэты падзел, як адкідае яго яфэтычная тэорыя, прыведзеная да гэтага моўнымі дадзенымі“.

III

Яфэтычная тэорыя выпрацавала на працягу дзесяцігодзяў сваю тэхніку вывучэньня моваў і тэрміны. З прычыны таго, што гэты артыкул мае задачу агульнага характару, мы на тэхніцы і тэрмінах адмыслова спыняцца ня будзем. Трэба толькі адзначыць, што „добрая частка тэрмінаў нават у частцы пра фонэтыку, не фізыолёгічнага, а грамадзкага сэнсу“. „Як мова, наогул, у цэлым—стварэньне грамадзкасьці“, піша Н. Я. Марр, „так ня толькі галосныя, але і зычныя розьняцца на слабыя і моцныя не таму, што пры вымаўленьні адных вымоўныя органы робяць менш высілку, пры другіх больш, а таму, што, гэта выясьнена і факт, слабыя зычныя лёгка зьіначваюцца: яны то пераходзяць у той ці іншы гук, то не, лёгка бяз сьледу зьнікаюць, а моцныя трымаюцца больш трывала“. Як і ў любой клясавай грамадзе, у мовах гэтых клясаў адбываецца змаганьне: некаторыя гукі выяўляюць „трываласьць і актыўнасьць“, некаторыя „заміраюць“ ці „паміраюць“.

Яфэтычная тэорыя мае і свой уласны альфабэт, адзін з прынцыпаў якога кажа, „што ніводзін просты гук ня можа быць выяўлены складаным ці зложаным з некалькіх напісаньнем і ніводзін складаны (ці зложаны з некалькіх) гук ня можа быць выяўлены простым напісаньнем без парушэньня сыстэмы“. Сыстэма-ж зьмяшчаецца ў тым, што літары ўспрыймаюцца як цыфры. Тэхніка, тэрмінолёгія і альфабэт зьяўляюцца аднэй з прычын таго, што досьледы яфэтыдаведаў не даступны для кожнага чытача.

Згодна яфэтычнай тэорыі старая клясыфікацыя моваў, паводле якой усе мовы сусьвету падзяляюцца на сем'і, страціла свой сэнс. Буржуазная навука, падзяляючы мовы на сем'і інда-эўропейскую, сэмітычную і іншую, асаблівую увагу вылучае, бязумоўна, інда-эўропейскай сям'і. У навуцы ўсе мовы гэтай „сям'і“ вывучаліся і вывучаюцца з выключнаю ўвагаю. Эўропейскі вучоны—буржуа цікавіцца больш за ўсё „сваім“, яфэтычная тэорыя вывучае ўсе мовы сусьвету аднолькава, і пры тым цікавячыся імі з пункту погляду іх вытворчых абставін і клясавага разьвіцьця.

З прычыны гэтага, клясыфікацыя моваў ўстанаўляецца ёю іншая, а менавіта мовы падзяляюцца па этапах іх разьвіцьця, па іх сыстэмнасьці. Мовы пакуль што прайшлі тры этапы: 1) сынтэтычны, або аморфны; 2) агглютынацыйны; 3) флекцыйны.

Ні географічная, ні расавая адзнака пры клясыфікацыі ня маюць значэньня. Пад сынтэтычнай або складванай мовай разумеецца „мова, у якой функцыі паасобных слоў, як частак сказу, у фразе вызначаюцца тым, як складваюцца словы, парадкам іх разьмеркаваньня, а ня формаю кожнага з іх, якой няма ў мовах гэтае сыстэмы, чаму яна завецца і аморфнай, г. зн. бяз форм“. Да такой сыстэмы моваў належыць, напрыклад, кітайская мова.

Наступнай за сынтэтычнай сыстэмай зьяўляецца сыстэма агглютынацыйных моваў. „Агглютынацыйны тып мовы“, кажа Н. Я. Марр, „гэта прылепны: няма органічна выяўленых частак—канчаткаў, напрыклад, у імён, назоўнікі яны ці прыметнікі, але замест уласых склонавых ці іншых канчаткаў іхных, імён, прызначэньне ў фразе вызначаецца далучэньнем да іх т. званых функцыянальных словаў ці частачак, прылеп і ў тым і ў іншым выпадку“. Сюды належаць, напрыклад, мовы турэцкая або грузінская. Урэшце, апошняй сыстэмай зьяўляецца сыстэма флекцыйных моваў, „у якіх вызначэньне узаемадачыненьняў слоў пераносіцца цалкам на іх афармаванасьць, так што кожнае слова нормальна ў сабе носіць значэньне двух парадкаў, адно значэньне—выражэньне прадмету без вызначэньня часу і прасьцягу, без паказаньня яго сувязі з іншымі прадметамі, другое значэньне—гэта выражэньне гэтых менавіта дачыненьняў ня толькі да прасьцягу, але адначасна і да прасьцягу і да часу“.

Так званыя „часьціны мовы“ зьяўляюцца паступова. У мовах даўняй формацыі дзеясловаў, як асобнай катэгорыі, зусім ня было. Прыйменьнік зьяўляецца пазьней, чым склон. Нават такая частка мовы як злуч „і“ зьяўляецца з утварэньнем сям'і, не раней.

Усе гэтыя вывады грунтуюцца на шматлікіх досьледах Н. Я. Марра, пабудаваных у сваю чаргу на дадзеных тэхнікі, гаспадаркі, гісторыі матэрыяльнай культуры і інш. навуковых дысцыплін.

Мовы флекцыйнай сыстэмы также розьняцца адна ад аднае. Так, напрыклад, розьняцца мовы сэмітычныя ад моваў прамэтэідзкіх (або індо-эўропейскіх). „Сэмітычная і прамэтэідзкая сыстэмы моваў прадстаўляюць розныя этапы разьвіцьця ўжо самой флекцыйнай мовы.“ Такім чынам, трэба мець на ўвазе, што падзел на сыстэмы зусім не азначае, што хронолёгічна адна сыстэма ідзе за другой; наадварот, у гісторыі моваў прыкмячаецца надзвычайная складанасьць.

Падобна на тое, як у разьвіцьці людзкіх грамад прыкмячаецца толькі перавага аднае структуры над другімі, і ў сыстэмах моваў прыкмячаецца тое самае. „Тры адзначаныя пакуль тыполёгічныя станы ў разьвіцьці адзінай мовы чалавецтва адлюстроўваюць кожны асобны соцыяльны лад, кожны тыполёгічны стан генэтычна зьвязаны з адпаведным стопнем разьвіцьця грамадзкіх форм і ім народжаны“, піша Н. Я. Марр.

Тыполёгію мовы можна вызначыць, толькі маючы на ўвазе ўсю злучнасьць адзнак. У асяродку кожнай сыстэмы могуць быць падразьдзелы ў залежнасьці ад гэтых адзнак. Затым, калі яфэтычная тэорыя гаворыць, што процэс глёттогоніі або моўнае творчасьці ідзе ад многасьці моваў да адзінства, г. зн. адваротнае таму, што кажа буржуазнае мовазнаўства, дык гэтую думку нельга разумець у спрошчаным выглядзе. У процэсе моўнае творчасьці трэба зважаць на масу момантаў, як зьніканьне форм, так і зьместу слоў, скрыжаваньне сыстэм і да т. п.

У кожнай мове існуюць свае асаблівасьці. Калі, напрыклад, узяць кітайскую мову, дык у ёй сынтэтычнасьць цікава ня з пункту погляду форм, а з пункту погляду зьместу. Накш кажучы, зьвяртае на сябе ўвагу ня „беднасьць морфолёгіі“, а так званы полісэмантызм, г. зн. шматзначэннасьць слоў. Калі наконт беднасьці морфолёгіі можна дапусьціць, што тут адбылася ўтрата, дык у сувязі з полісэмантызмам можна сказаць, што мы маем справу з вельмі даўнімі моўнымі фактамі, якія ідуць да эпохі аморфнай сыстэмы.

Пры разгляде моваў розных сыстэм трэба мець на ўвазе, што ў мове ўсё мяняецца—і формы, і значэньне. Яфэтычная тэорыя ня згодна з сьцьвярджэньнем старога мовазнаўства, што форма нязьменная, а мяняецца толькі слоўнік. Запазычаюцца ня толькі словы, але і формы. Ад яднаньня народаў адзін з адным мянялася часам толькі вонкавая частка мовы—морфолёгія, часам-жа, наадварот, толькі слоўнік.

Таму мовы могуць радніцца аднычасна—у дачыненьні да формальнай тыполёгіі з аднэй групай моваў, а ў дачыненьні да слоўніку—з другой. „Аджа трэба памятаць: як няма аднапрыродных нацыянальных народаў-масываў, усе распластаваны на вытворчыя колектывы рознага пахаджэньня,—станы гэта ці клясы,—так няма масыўных аднапрыродных моваў,—усё скрыжаваньні, усё пластамі.

Кожны пласт мае сваю гісторыю“.

Да зьяўленьня гукавой мовы людзі карысталіся ручной або кінэтычнай мовай. У працэсе здабываньня ежы ўсяго патрэбнага для падтрыманьня жыцьця чалавек стаў ужываць словы, якія мелі магічнае значэньне. Перажыткі такога магічнага характару захаваліся аж да нашага часу. Так, напр., на Каўказе ў абхазаў і сванаў да апошняга часу паляўнічыя карыстаюцца гэтаю „магічнаю“ моваю, якая вядома толькі паляўнічым.

У гэны далёкі час гукі насілі вельмі складаны характар. З разьвіцьцём людзкой мовы гэтыя дыфузныя і дыфузоідныя, „по членораздельности“ менш дасканалыя, сталі спрашчацца, расчляняцца і зьнікаць. Вось затым наяўнасьць у мове складаных паводле складу зычных гаворыць пра тое, што сыстэма данае мовы вельмі даўняя.[1]) Збыткоўасьцю такога гатунку гукаў вызначаюцца многія мовы Каўказу, асабліва—абхаская. Некаторыя мовы прайшлі даўно гэты этап, як, напр., большасьць эўропейскіх, а некаторыя, прайшоўшы гэты этап, усё-ж прынесьлі з сабою сьляды даўнейшых этапаў.

Але спатыкаюцца зьявы яшчэ больш складаныя. Так, напрыклад, гукавая сыстэма кітайскае мовы цалкам адпавядае гукавой сыстэме промэтэідкай (індо-эўропейскай) сыстэмы моваў, але тып кітайскае мовы застаўся даўнім. Гэта гаворыць пра тое, што кітайская мова

[1]) Напрыклад, наяўнасьць у беларускай мове складаных зычных, як „дз“ і падобныя, давodзіць, што яна ня створана штучна ў рэволюцыйныя часы, як спрабуюць давесьці некаторыя вялікадзяржаўныя шовіністыя, а зьяўляецца вельмі даўняй, больш старой за суседнія.

пражыла „інтэнсыўна-культурна“, у выніку чаго яе тыполёгія ня мела магчымасьці адпаведна перайначыцца.

З гэтага пункту погляду асабліва цікавы яфэтычныя мовы, бо ў іх захаваліся сьляды ўсіх сыстэм, у кожнай сыстэме ёсьць перажываньні папярэдніх сыстэм. Больш таго, між іх ёсьць мовы пераходныя. Н. Я. Марр пра гэта піша: „Уласьне, ня толькі армянская, але і грузінская—мовы пераходныя ад агглютынацыйнае сыстэмы да флекцыйнае, армянская ўпіраецца ў промэтэідкую (індаэўропейскую) сыстэму, грузінская—у сэмітычную“.

Адначасна трэба памятаць, што гістарычная хронолёгія моваў не супадае з лінгвістычнай. Так, напр., германскія і романскія мовы лічацца новымі ў параўнаньні з грэцкай ці лацінскай. Але з пункту погляду тыполёгіі першыя зьяўляюцца мовамі больш раньняга тыпу, бо гэта мовы займенна-агглютынатыўнага тыпу. Наадварот, лацінская і грэцкая мовы паводле тыпу маладзей, як мовы флекцыйныя. Вывад ясны: цяжка скласьці табліцу моваў, таму што ўвесь глёттогонічны процэс, процэс стварэньня мовы прадстаўляе адно цэлае, злучнасьць супярэчнасьцяй.

Цяжкасьць зьмяшчаецца і ў тым, што навочная простасьць зьмен розных сыстэм у сапраўднасьці прадстаўляе нешта вельмі складанае. Сыстэмы ня проста ідуць адна за аднэй.

У процэсе разьвіцця няма „созидательных узловых стоянок“, „между которыми лишь прозябание“. „Сапраўды гэтыя папаскі ці этапы—толькі паваротныя ці рэволюцыйныя. Яны ўзрываюць астоенае атачэньне і адкрываюць новыя шляхі, па якіх паступова і налаöваецца складаньне новага тыпу і разьвіцьцё, і на гэтых жа шляхох нараöаецца разыхоöаньне, узьнікненьне антытэзы побач з тэзаю, што дае ў выніку змаганьня новае вырашэньне ў рэволюцыйным зруху на наступнай вузлавой папасцы.

Творчасьць у самым руху, не на папасках, як не ў пачатку, а ў процэсе бязупыннага намнажэньня і дынамікі матар'ялу. У пачатку—нічога“.

З усяго сказанага наконт процэсу глёттогоніі вынікае, што процэс гэты надзвычайна складаны. Складанасьць ягоная зусім адпавядае складанасьці экономічных і клясавых узаемадачыненьняў грамад.

Яфэтычная тэорыя вельмі далёка ад таго спрошчанага способу падвядзеньня базы пад мову, які дужа пашыраны ў сучаснай буржуазнай лінгвістыцы. Н. Я Марр па дапамогу „соцыялёгіі“ Дюрнгейма і яму падобных „грамадазнаўцаў“ не зьвяртаецца, гэта пры дапамозе іх буржуазныя лінгвістыя хочуць „абмаладзіць“ свой параўнаўчы мэтод вывучэньня моваў.

„Мова ва ўсім сваім складзе“, піша Н. Я. Марр, „ёсьць стварэньне людзкога колектыву, адлюстровак ня толькі ягонага мысьленьня, але і ягонага грамадзкага ладу і гаспадаркі ў тэхніцы і ладзе, роўна ў

сэмантыцы, але ня ў тым спрошчаным тыпе, як гэта мысьліў найбольш да нас блізкі па ідэолёгіі Нуарэ, з яго папярэднікамі і пасьлядоўцамі".

Кожны лінгвісты павінен мець асобную цікавасьць да пытаньня пра пахаджэньне мовы. Буржуазнае мовазнаўства адмаўляецца ад вырашэньня гэтага пытаньня, уважаючы, што яно ня можа быць вырашана, а таму знаходзіць, што ня справа навукі працаваць над гэтым.

Аднак, без работы над гэтым ніякіх станоўчых вынікаў для лінгвістыкі быць ня можа. Ад правільнай пастаноўкі пытаньня наконт пахаджэньня мовы залежыць далейшае разьвіцьцё новае навукі пра мову. Людзкая мова ўзьнікла ў працэсе працы. Для яснага разуменьня гэтага працэсу трэба памятаць, што гукавая мова ёсьць вынік ужо больш дасканалага стану чалавека. Гукавую мову папярэджала ручная ці кінэтычная мова, якая панавала „многія дзесяткі, калі ня сотні тысяч гадоў".

Кінэтычная мова ўзьнікае ў працоўных абставінах, хоць і ў параўнаньні з гукавой яна мае больш натуральны характар. Рука адыграла ў гісторыі чалавецтва вялікую творчую ролю, у тым ліку ў справе стварэньня мовы.

Яфэтычная тэорыя, грунтуючыся на дадзеных матэрыяльнай культуры, дае выключныя тлумачэньні па пытаньні пра ролю рукі ў працэсе моўнае творчасьці. Выясьняецца, што слова рука зьмяшчаецца ў масе рознастайных словаў з розных моваў, ды пры тым яшчэ ў розных комбінацыях, у скрыжаваньнях. Сьмела можна сказаць, што ў гэтай галіне дасягненьні яфэтычнае тэорыі зьдзіўляюць сваёй глыбінёй і тонкасьцю аналізу.

Кінэтычная мова зьяўляецца разам з прыладаю працы, продуктам працы—рукой, творцам прылады вытворчасьці. Яна была асабліва каштоўнаю для першабытнае грамады сваёй агульнадаступнасьцю. Але адначасна трэба адзначыць і яе дэфэкты: у цемры ёю карыстацца нельга. Працэс пераходу ад кінэтычнае мовы да гукавой вельмі працяжны. „Пры ўсёй зьвязанасьці гукавой мовы з кінэтычнай зьяўленьне гукавой мовы было рэволюцыяй", кажа Н. Я. Марр. „Надзвычайна вялікае значэньне замены „рукі" і „вока" апаратам, цалкам засяроджаным у галоўнай частцы цела, у непасрэднай сувязі з мазгамі, у яго ным абваколеньні—з поласьцю роту і вушмі. Дзейнасьці новага апарату дапамагала ўзмацненьне грамадзкай работы мазгоў ад росту гаспадарчага жыцьця і ўскладненьня соцыяльных узаемадачыненьняў, разам з тым пашырэньне разумовага кругагляду колектываў, ужо скрыжаванага племя".

Гукавыя элемэнты ў пачатку справаджалі кінэтычную мову, так сказаць, дапаўнялі яе. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што з пераходам ад кінэтычнай мовы да гукавой адбываецца зьвінчаньне ў самой сыстэме мовы. Калі ў кінэтычнай мове рука ёсьць адначасна „прылада моватварэньня і ўцелаішчаньне самой мовы", дык „у гукавой мове

прылада тварэйя язык і апарат гукатварэйя—адна справа, а самі гукі—іншая справа". Гукавая мова больш складаная. Складаны перш за ўсё гукі, якія прадстаўляюць сабою комплексы. Гэтыя комплексы доўга не дыфэрэнцыяваліся і ў дыфузным стане дайшлі ў многіх мовах да нашых дён, як, напрыклад, у абхаскай мове.

Паўстае пытаңе, де шукаць крыніцу зараҙэйя гукавой мовы? Гукавая мова ўзьнікла з магічных деяў. Гукавая мова зьвязана з першастковымі мастацтвамі—сьпевамі, музыкай і танцамі, якія былі зьвязаны з прымітыўным культам. На гэтай стадыі разьвіцьця выяўляліся неаформаваныя, комплексныя гукі, якія выражалі розныя пачуцьці—радасьць, смутак і да т. п. Такім чынам, існавалі адначасна кінэтычная мова і вельмі прымітыўная—гукавая, пры чым гукавая патрэбна была людям менш, бо апошняя патрэбна была ў чараўніцтве, у магіі.

Шляхам доўгіх шукайяў, дасьледаваўшы вялізманы матар'ял, Н. Я. Марр знаходзіць першастковыя гукі—комплексы, якія ўжываліся ў прымітыўнай гукавой мове. Гэтыя элемэнты—sal, bet, yon, rош—„Чатыры элемэнты, якія ўзьніклі разам з іншымі мастацтвамі ў эволюцыі працоўнага працэсу, што прадстаўляў сабою магію, ня мелі ў пачатку і доўга не маглі мець ніякага слоўнікавага значэйя, бо гукавых слоў яшчэ ня было, як ня было гукавой мовы",—кажа Н. Я. Марр. „Кожны з гэтых чатырох элемэнтаў у магічным успрыняцьці сыгналізаваў аднолькава з іншымі трыма галоўную патаёмную сілу магіі, абаронцу і тотэма пэўнай соцыяльнай групы, у далейшым тотэма племя—бога. У дачыненні да атрымайя слова даволі было ўсьвядоміць гэтую магчымасьць сыгналізавайя членаразьдельным гукавым комплексам хоць бы аднаго вобразу ці зьявы, каб далей пашло бесьперашкодна разьвіцьцё гукавой мовы ў парадку ўжывайя тых жа чатырох гукавых комплексаў, чатырох элемэнтаў, у тым ці іншым патрэбным значэйі.

Значыцца, толькі ў выніку працяжнага працэсу паказаныя чатыры элемэнты даюць магчымасьць перайсьці да словатворчасьці. Адбываецца скачок у момант зьяўлейя „магчымасьці сыгналізацыі", і гукавая мова перажывае новы этап.

Роўналежна з разьвіцьцём грамадзкіх і экономічных умоваў адбываецца формальны рост гукавой мовы. Элемэнты дыфэрэнцуюцца ў больш позьнія эпохі дзякуючы „рознасьці спачатку вытворча-колектыўных, пасьля пляменных вымоваў".

Узьнікаюць рознага гатунку гукавыя адпаведнасьці ці корэспондэнцыі (напрыклад—sal, шог, шur) у складаных умовах грамадзкасьці. Затым ідзе працэс скрыжавайя элемэнтаў. Гэтыя працэсы ўдалося дакладна прасачыць у самых рознастайных мовах, асабліва яфэтычнай сыстэмы. Асаблівую цікавасьць прадстаўляе ў росьце гукавой мовы зьяўлейе часьцін мовы. Перш за ўсё зьяўляюцца імёны. „Злучнікі і прыслоўі, першасткова і прыметнікі, прадстаўляюць тыя-ж імёны без перайначайя ці аформлейя імён, і, зразумела, дзеясловаў,

складаючы новатвор, які ўзьнікае з дапамогаю ня толькі імён, што становяцца канчаткамі—сымболямі, але і займеньнікаў. Узьнікненьне займеньнікаў гэта паваротны пункт у гісторыі разьвіцьця мовы, пачатак новай эры морфолёгічнай, спачатку агглютынацыйнай затым флекцыйнай—на зьмену аморфнай".

У процэсе разьвіцьця мовы складаны момант прадстаўляе так званы полісэмантызм або шматзначэнасьць слоў. Кожнае слова мела шмат значэньняў. Яфэтычная тэорыя выкрыла гэтыя пасмы значэньняў.

Такою, напрыклад, пасмаю зьяўляецца „рука+жанчына+вада". Зважаючы на гэту пасмавасьць у словах, можна адразу адчуць, наколькі процэс моўнае творчасьці складаны, калі гутарка ідзе пра займеньнікі. Аказваецца, што „у якасьці займеньнікаў скарыстаны імёны, якія азначаюць „галаву", „душу", „цела" і да т. п.". Трэба такжа мець на ўвазе, што „па функцыянальнай сэмантыцы новы прадмет атрымліваў назву старога прадмету, прызначэньне якога ён прыцягваўся выконваць, г. зн. „язык", які замяніў руку, насьледаваў яе назву". Расейскія словы „речь", „изрекать" узыходзяць да „рукі". Бязумоўна, калі гутарка ідзе пра граматычныя часьціны, заўсёды трэба памятаць, „што граматычныя часьціны мовы адлучаны ад якой бы там ні было матар'яльнай рэчаіснасьці, як у корані схэматычныя абстракцыі".

Затым пры вывучэньні моўных зьяваў прыходзіцца лічыцца з тым, што ў многіх мовах, а ў яфэтычных асабліва, назоўнік грае ролю дзеяслова, ці наадварот; такую зьяву можна бачыць, напрыклад, у грузінскай мове. Часта прыметнік і назоўнік ня розьняцца адзін ад аднаго.

Часьцін мовы наогул не існавала. Існаваў толькі гукавы комплекс, які ўжываўся для выражэньня вобразу ці паняцьця. У зьвязку з патрэбамі мовы гэтыя часьціны ўжываліся, як назоўнікі, прыметнікі і інш. часьціны мовы. Гэтае зьявішча рознастайна ў розных тыпах моваў. Гаворачы пра тыпы моваў, мы не павінны блытаць іх з сыстэмамі, г. зн. мы павінны памятаць, што „тыпы складаліся ў сыстэмы". Гэта тым больш важна, што, „маючы справу з паасобнымі конкрэтнымі мовамі, мы можам паставіць конкрэтна-ж пытаньне пра падлік гістарычных, тэрыторыяльных і іншых вонкава-уплывовых фактараў узьнікненьня тыпаў". Але ў гэтым выпадку трэба памятаць, што „багатыя прыродныя ўмовы самі па сабе не зьяўляюцца фактарамі словатворчасьці". Наяўнасьць слоў аднае групы паняцьцяў гаворыць не пра тое, што ў дадзенай краіне такую словатворчасьць выклікае, напрыклад, прырода". „Прычынаю гэтага—тое ці іншае гаспадарчае выкарыстаньне прадмету",—кажа Н. Я. Марр.

Апрача таго, вялікая колькасьць гэтых слоў тлумачыцца ня толькі творчасьцю народу, носьбіта дадзенае мовы, але і творчасьцю іншых, нават ня суседніх народнасьцяй.[1])

[1]) Яскравым прыкладам зьяўляецца наяўнасьць у беларускай мове вялікай колькасьці слоў, напрыклад, агульных з кельцкаю ня суседняй моваю (матар'л гл. у Карскага, „Белорусы", т. 1) і некаторымі іншымі.

Яфэтычная тэорыя ня згодна з тым спрошчаным тлумачэйем буржуазнай лінгвістыкі, якая ў такіх выпадках шукае паратунак у тлумачэйі з дапамогаю запазычайяў ці міграцый

Як надбудовачная каштоўнасьць, мова вымагае вельмі асьцярожнага абыходайя з сабою. Заўсёды прыходзіцца памятаць, што зусім чыстых сыстэм моваў няма. Гутарка ідзе пра перавагу сыстэмы ў дадзенай мове. У гэтым сэнсе вельмі цікава „наяўнасьць у аднэй сыстэме яфэтычных моваў розных сыстэм: і сынтэтычнай, і агглютынацыйнай, і флекцыйнай з аднэй агаворкай пры кожнай сыстэме „амаль“: „амаль агглютынацыйнай“, „амаль сынтэтычнай“, „амаль флекцыйнай“,—піша Н. Я. Марр. Такім чынам, няма паступовай, эволюцыйнай зьмены аднае сыстэмы другой. Процэс ідзе дыялектычна.

## IV

„Мова такая-ж надбудовачная грамадзкая каштоўнасьць, як мастацтва наогул. Мы сілаю рэчаў, сьведчайем моўных фактаў прымушаны прасочваць творчы процэс гутаркі, фактары творчасьці ў гісторыі матар'яльнае культуры і грамадзкасьці, якая будуецца на ёй, і на гэтай базе складзеных сьветаглядаў“, піша Н. Я. Марр. З гэтага ён выводзіць, што яфэтычная тэорыя ня можа „формальным крытэрыем характарызаваць сыстэмы моваў“, як гэта робіць старое мовазнаўства. Зьявы мовы адпавядаюць пэўнай матар'яльнай культуры, грамадзкасьці і сьветагляду, а таму нельга разглядаць той ці іншы морфолёгічны тып мовы, як „продукт любога часу“.

Буржуазнае мовазнаўства лічыць, што агглютынацыйныя і флекцыйныя мовы ўзьніклі адна ад аднае незалежна, г. зн. між імі няма нічога агульнага. Яфэтычныя тэорыя давяла, што такой ізоляванасьці ня існуе. Процэс моўнай творчасьці чалавецтва мае агульныя законы.

Яфэтычная тэорыя вывучае мовы ў іх статыцы і дынаміцы. Статычна вывучаны і вывучаюцца так званыя яфэтычныя мовы Каўказу, Паміру і Эўропы. Але статычнае вывучэйе мае падсобнае (дапаможнае) значэйе. Дынамічна вывучаюцца ўсе мовы. Яфэтычныя мовы асабліва цікавы тым, што ў іх захаваліся моўныя зьявы вельмі даўняга пахадэйя. Словы і наогул зьявы мовы вывучаюцца палеонтолёгічна, г. зн. зьява прасочваецца ў яе папярэднім стане.

З прычыны таго, что ўсе мовы чалавецтва ўзьніклі з чатырох элементаў (sal, ber, yon, rош), дык аналіз слоў мае задачу выкрыць наяўнасьць гэтых элемэнтаў, якія даюць магчымасьць займацца і палеонтолёгіяй мовы, і сэмантыкай, г. зн. вывучэйем значэйяў слоў у розных разрэзах. Асаблівую вагу мае выкрыцё сэмантычных пасмаў. Гэта тым больш важна, што пераход функцый аднаго прадмету на другі цягне за сабою і перанос назвы прадмету. Процэс скрыжавайя гукаў і іхнай

дыфэрэнцыяцыі цягне за сабою стварэньне новых асноў. Затым зьяўляюцца складаныя словы, якія ўжо выражаюць больш складаныя паняцьці.

У паасобныя стадыі культурнага разьвіцьця чалавецтва ўзьнікаюць і розныя сыстэмы моваў. Адзнакі, якія характарызуюць паасобныя моманты ў разьвіцьці мовы, вельмі разнастайныя. Сумы розных адзнак (напр.—полісэмантызм, сынтэтычнасьць і да т. п.) даюць магчымасьць груптаваць мовы па сыстэмах. Многія мовы пры такой клясыфікацыі, выяўляюцца, як пераходныя.

Яфэтычная тэорыя прасякнута дыялектыкай і матэрыялізмам. З кожным днём яе бурны рост гаворыць пра набліжэньне да марксызму, і пры тым да рэволюцыйнага марксызму. У тэрмінолёгіі яфэтычнай тэорыі спатыкаюцца вывады, якія не ўваходзяць у слоўнік дыялектычнага і гістарычнага матар'ялізму. Але ў гэтым няма бяды.

Істнасьць у тым, што „вызваленьне“ з рамак буржуазнае навукі ідзе наўзьдзіў хутка. Дапамагае такому руху ня толькі мэтод, але і наяўнасьць вялізманай колькасьці праапалізаванага матар'ялу. Яфэтычная тэорыя мае пад сабою вельмі трывалы падмурак, пабудаваны на вялічэзнай колькасьці моваў розных частак сьвету.

Адсутнасьць шор старой лінгвістыкі, якая вывучае „параўнаўча“ толькі мовы найбольш „культурных“ народаў, дала магчымасьць Н. Я. Марру заўважыць усё тое, што прайшло міма воч найбольшых буржуазных мовазнаўцаў.

## V

Застаецца сказаць некалькі слоў пра тое, як ставяцца да яфэтычнае тэорыі буржуазныя мовазнаўцы. Тут паўтарылася старая гісторыя. У свой час замоўчвалі Маркса і Дарвіна. Калі-ж буржуазныя вучоныя заўважылі, што замоўчваньнем ня зьнішчыш тэорый гэтых волатаў думкі, яны сталі „папраўляць“ ці „лаяць“ іх. Апошняя стадыя— „пакладаньня“ Маркса і Дарвіна. Яфэтычная тэорыя пакуль перажывае пераходны кругабег. Ад кругабегу замоўчваньня яна пераходзіць да кругабегу нясумленнай клеветы. Жрэцы Заходняй лінгвістыкі не крытыкуюць яе, а абмяжоўваюцца толькі заўвагамі „з гуры“. З іхнага пункту погляду наогул тэорыяй няма зачым цікавіцца, калі яна ідзе нязвычайным шляхам. Гэта тэорыя, па словах аднаго з вучоных жрацоў, „экстравагантна“.

Аднак, найбольш глыбокія і жывыя прадстаўнікі буржуазнае навукі, якіх параўнаўча вельмі мала, бачаць у яфэтычнай тэорыі многа каштоўнага. Так, напрыклад, з пашанаю да яе ставіцца вядомы лінгвісты Шмідт. Затое для лінгвістых, якія грунтуюцца каля францускага

вучонага Мэйе, яфэтычная тэорыя прадстаўляе нешта дзіўнае. І гэта зразумела. Мэтод і сьветагляд—вось тое, што аддзяляе іх ад яфэтычнае тэорыі.

Зьвяртаючыся да нашае краіны, трэба адзначыць, што па заслугах яфэтычную тэорыю ацанілі марксыстыя.

Выключаючы бліжэйшых вучняў Н. Я. Марра—І. Мешчанінава, І. Орбэлі, К. Дондуа і інш, або прыхільнікаў, як, напрыклад, профэсар І. Дзержавін, вучоныя мовазнаўцы нашае краіны ў большасьці яе замоўчвалі, або-ж, аддаючы „вартае" Н. Марру-каўказазнаўцу, не заўважалі Н. Марра мовазнаўцу.

Карыстаючыся тым, што галіна мовазнаўства занадта адмысловая, мала даступная шырокім колам нашае грамадзкасьці, невялікія рэшткі старых лінгвістых усё яшчэ паднасілі (і падносяць) савецкай школе і савецкаму чытачу наскрозь прасякнутую буржуазным сьветаглядам „інда-эўропейскую" тэорыю пра мову.

Спробы самога Н. Я. Марра знайсьці водгук між марксыцкай моладзі тармозіліся закуліснай работай прыхільнікаў старога. Моладзь муцілі рознымі магічнымі заўвагамі накшталт: „интересно, но не убедительно", „любопытно", „проблематично" і да т. п. Паступова стала пашырацца кола прыхільнікаў яфэтычнае тэорыі між Ленінградзкіх вучоных[1].) У Маскве яфэтычная тэорыя прыцягнула ўвагу асабліва пасьля таго, калі ў Комуністычнай акадэміі два гады таму назад быў зроблены пра яе даклад В. Аптэкарам. Ад таго моманту абаронцы старой навукі закраталіся. У выніку руху для „паратунку" старога мовазнаўства ўвесну 1928 г. у РАНІОН'е (у Маскве) адбыўся даклад праф. Е. Паліванавага. Даклад апошняга, паўтораны ім з некаторымі зьіначаньямі ў лютым 1929 г., меў задачаю раз назаўсёды „прыкончыць" з яфэтычнай тэорыяй.

Для гэтага былі мобілізаваны ўсе гатункі абозу буржуазнае крытыкі, аж да акадэмічных плётак уключна. Даклад проф. Паліванавага, які цягнуўся некалькі гадзін, лішні раз паказаў, у якім тупіку знаходзіцца буржуазнае мовазнаўства.

Неразуменьне мэтоду, а з другога боку, клясавы інстынкт, які гаворыць яму, што яфэтычная тэорыя—гэта аснова новага, матэрыялістычнага мовазнаўства, якое ідзе зьнішчаць старое, прымусілі профэс- Паліванавага скарыстаць агульна-вядомыя ў буржуазнай навуцы спосабы: „передергивания" і „выдергивания" фактаў, перакручваньне іх, клевету і г. д. Само па сабе двухразовае выступленьне гэтага вучонага магло-б прайсьці не заўважаным, каб ня было наяўнасьці другога факта: проф. Паліванаў выражаў погляды на яфэтычную тэорыю з боку, трэба спадзявацца, апошніх прадстаўнікоў старога, ідэялістычнага

[1]) Змаганьне за марксыцкія позыцыі ў мовазнаўстве знайшло свой адлюстровак і ў мастацкай літаратуры. З гэтага боку вельмі цікавым зьяўляецца роман В. Каверына—„Скандалист или вечера на Васильевском острове". Выд. „Прибой", 1924 г., які радзім пачытаць беларускім чытачом.

мовазнаўства. Дружны адпор, дадены ленінградкімі вучонымі-яфэтыдаведамі супольна з членамі лінгвістычнай падсэкцыі Комуністычнае акадэміі, паказаў, што ў яфэтычнай тэорыі зьмяшчаецца сума тых палажэйяў, на падставе якіх вырастае ўжо матэрыялістычнае, марксыцкае мовазнаўства[1]).

**І. К. Кусік'ян**

Масква. 12 IV. 1929.

# Да пытаньня пра спрошчанае азначэньне падвойных зычных на пісьме

Прапанова Ул. Дубоўкі, што да замены шматлітарнага напісаньня падоўжаных, ці падвойных літар адналітарным, са знакам падоўжаньня ці падваеньня над літарай,—вельмі цікава, мае пад сабой рэальны грунт і, бязумоўна, варта ўсебаковага вывучэньня і абгаварэньня ў мэтах рацыянальнага дапасаваньня яе да патрэб беларускага друку.

У зьвязку з гэтым пытаньнем цікава, між іншым, адзначыць, што спробы спросьціць напісаньне падвойных зычных гукаў у беларускай мове мы можам прасачыць і па гістарычных літаратурных крыніцах. Апрача старой беларускай традыцыі пісаць падоўжаныя зычныя над радком, пра якую ўспамінае Ул. Дубоўка, тыя самыя спробы мы бачым і ў рукапісных помніках беларускіх татар. У практыцы штодзённага прыстасаваньня арабскага альфабэту да ўжываньня ў беларускай мове, татары таксама выпрацавалі на працягу стагодзьдзяў, нароўні з тонкімі адценьнямі і адменнасьцямі ў перадачы зычных гукаў, цэлы шэраг умоўных скарочаньняў для спрашчэньня пісьма. У тым ліку наглядаецца і спрошчаная перадача падвойных зычных аднэй літарай з умоўным значком над ёю—нешта накшталт сучаснага проэкту Ул. Дубоўкі. Прыкладамі могуць служыць беларускае слова „спасеньне" і арабскае імя „Мухаммэд".

У слове „спасеньне" падвойны зычны „н" перадаецца аднэй толькі літарай „нун" (адпавядае нашаму „н") з умоўным значком падваеньня над ёю, замест таго каб пісаць два „нун". Тое самае і ў слове „Мухаммэд", дзе замест двух „мім" (адпавядае нашаму „м") пішацца толькі адна літара „мім", але ізноў са значком падваеньня зьверху.

Такім чынам мы можам констатаваць, што нават у старадаўнія часы людзі бачылі канечную патрэбу спрашчэньняў правапісу і выпрацоўвалі адпаведныя мерапрыёмствы. Няма чаго і казаць, што нашым часам, калі так шпарка пашыраецца друкарская справа, калі перад намі стаяць адказныя задачы прасоўваць пісьменнасьць у самыя глыбокія гушчы адсталага жыхарства, усялякія спробы спросьціць правапіс трэба вітаць. Не гаворачы ўжо пра эканомію дзяржаўных сродкаў у выніку скарачэньня набору паперы, гэтыя мерапрыёмствы павінны зрабіць вывучэньне правапісу больш прыступным для шырокіх мас. Гэта трэба ўзяць на ўвагу.

**Віт. Вольскі.**

---

[1]) Чытач, які захоча больш падрабязна азнаёміцца з яфэтычнай тэорыяй, можа зьвярнуцца да нядаўна выдрукаванай кнігі вучня Н. Я. Марра—проф. І. Мешчанінава „Введение в яфетидологию", выд. „Прибой", Ленінград. 1929 г., цана 1 руб 50 кап. Чытачу гэтае кнігі адначасна рэкомэндуецца артыкул В. Аптэкара „На путях к марксистской лингвистике", надрукаваны ў „Вестнике Коммунистической Академии" за 1928 г. Чытаць творы самога Н. Я. Марра, колькасьць якіх складае даволі паважную лічбу, не спэцыялістаму будзе цяжкавата, ня кажучы пра тое, што заўсёды трэба зважаць на розныя этапы разьвіцьця яфэтычнае тэорыі. Паказаньні на творы Н. Я. Марра чытач знойдзе ў выстарчальнай колькасьці ў вышэйзгаданай кнізе проф. І. Мешчанінава.

# СЛОВА—ЧЫТАЧУ

## Чаго мы хочам ад пісьменьнікаў?

Чаго мы, звычайныя чытачы, хочам ад нашых пісьменьнікаў? Мы хочам, каб пісьменьнікі нашы выявілі нам вельмі складаную і багатую зьместам і перажываньнямі нашу сучаснасьць, адлюстроўвалі ў мастацкіх вобразах наша соцыялістычнае буд.ўніцтва; мы хочам у нашай мастацкай літаратуры бачыць і цяжкасьці новага будаўніцтва і бязупынную творчую працу працоўных мас гораду і вёскі. Мы хочам. каб пісьменьнікі нашы далі нам жывыя вобразы людзей сучаснасьці, якія з дня ў дзень бяз гучных слоў будуюць новую гаспадарку, новую культуру, змагаюцца за новы быт, а разам з імі і людзей паказу, слова, якія ўмеюць выкарыстоўваць сумленную працу другіх для сваіх уласных мэт; мы хочам бачыць жывых людзей з іхнымі перажываньнямі, горам, радасьцю, з памылкамі і дасягненьнямі.

У горадзе і ў вёсцы ідзе жорсткае змаганьне розных соцыяльных груп жыхарства, у сем'ях ідзе змаганьне паміж бацькамі і дзяцьмі, ломяцца старыя традыцыі; ва ўдзельнікаў гэтага змаганьня паўстае цэлы шэраг пытаньняў, якія выклікаюць глыбокія перажываньні, штурхаюць на неспадзяваныя ўчынкі. Заглянуць у самыя інтымныя перажываньні сучаснага чалавека ў розных яго палажэньнях і выявіць гэтыя перажываньні ў належным сьвятле можа толькі сапраўдны пісьменьнік. Актуальнейшай проблемай сёньняшняга дня ў мастацкай літаратуры зьяўляецца разьвязаньне пытаньня пра нарастаньне новай колектывістычнай асобы, новай сям'і, новага грамадзтва. Трэба неяк знайсьці гэтае новае ды паказаць яго належным чынам.

Наша моладзь, галоўны спажывец літаратурнай продукцыі нашых пісьменьнікаў, у літаратурных творах шукае адказаў на вострыя пытаньні жыцьця і часта не знаходзіць гэтых адказаў, застаецца незадаволенай у сваіх запатрабаваньнях. А літаратура павінна выхоўваць моладзь, даваць ёй новыя імпульсы жыцьця, уздымаць настроі для будаўніцтва

Прывядзём некаторыя выказваньні і вымаганьні нашай чытацкай моладзі. Што ў творах падабаецца моладзі? Падабаюцца „гэроі з рашучымі характарамі, сьмелыя, якія гатовы пайсьці на сьмерць за якую-небудзь справу“... „Асабліва падабаюцца прыгодніцкія апавяданьні... і гэроі, у якіх разьвіта сіла волі, якія ня маюць страху, зухі, бадзёры“... „У творах мне падабаюцца гэроі вытрыманыя, адважныя, якія змагаюцца і аддаюць сваё жыцьцё для шчасьця другіх“... і г. д. Меншая частка чытачоў цікавіцца прыгожымі малюнкамі прыроды і псыхолёгіяй дзейных асоб.

А вось і некаторыя незадаваленьні моладзі: „не падабаюцца падрабязныя і марудныя апісаньні“... „не падабаюцца творы, дзе выводзяцца гэроі з вялымі характарамі, у якіх няма сілы волі, не падабаюцца і доўгія монолёгі“. У творах не падабаецца тое, што часта ўжываюцца новыя і ня родныя словы... Гэта, на мой погляд, псуе мову“... Нараканьні на незразумелыя словы, звароты і цэлыя думкі чуюцца досыць часта з боку моладзі і масавага чытача наогул. Асабліва цяжкімі для разуменьня зьяўляюцца вершы некаторых поэтаў (Дубоўкі, Пушчы).

Наконт мовы ставяцца пэўныя запатрабаваньні: „каб было менш чужых слоў“. каб творы пісаліся „прыгожай мовай“, „каб ня ўжываліся вульгарныя і грубыя словы, выказы“... Што да вершаў, дык ад іх патрабуецца большая прастата і музычнасьць.

„Ад аўтара я хачу і патрабую“—выказваецца адна камсамолка,—„каб ён узбагаціў мае веды, разьвіў мае думкі, даў бы знаёмства з жыцьцём“... Некаторыя патрабуюць, „каб аўтары пісалі популярна, тэмы бралі з рэальнага жыцьця і ўмелі-б зацікавіць чытача“, каб было больш паступовасьці і больш душэўных момантаў... каб творы пакідалі глыбокія ўражаньні і перажываньні... і каб быў зразумелы і ясны для чытача канец.

## Што-ж даў для нас № 1 „Узвышша?“

„Узвышша“, бязумоўна, каштоўная часопісь і мае свой круг чытачоў, але паасобныя творы некаторых пісьменьнікаў часам задалёкі ад запатрабаваньняў і разуменьня масавага чытача. Возьмем, прыкладам, першы нумар „Узвышша“ за 1929 г. Для мяне, як і для іншых звычайных чытачоў, досыць незразумела, што, прыкладам, хоча сказаць У. Дубоўка у сваім „Пярэстым букеце“. Можа гэткія творы вельмі патрэбны і карысны для спэцыялістых у поэзіі, для крытыкаў, але для звычайнага, нават больш-менш пісьменнага ў літаратуры чалавека яны ўсё-ж незразумелы, як у сваім зьмесьце, так і ў форме, пакуль іх не популярызуюць належным чынам нашы крытыкі.

Зусім іншае уражаньне дае верш Глебкі „У дарогу“; тут для нас усё блізка і знаёма: блізак для нас і Ўладзік, які ідзе з бацькавай хаты „на сход, бараніць беднякоў-беларусаў“ ад польскіх паноў, блізак і добра знаёмы і Ўладзікаў бацька Асташэня Рыгор, якому там, у Вязыні, няма ніадкуль дапамогі.

„Местачкоўцы“ Кузьмы Чорнага робяць уражаньне ўдалага паказу перажыткаў старога жыцьця там, дзе новы быт яшчэ не нарадзіўся, куды яшчэ не дакацілася культурная рэволюцыя. Тыпы „местачкоўцаў“ характэрны, бязумоўна, толькі для пэўнай групы жыхарства нашых мястэчак і хутароў. Лужанінаву „Мяцеліцу“ псуе, калі можна так сказаць, залішне романтычная форма апісаньня.

Добрае уражаньне пакідаюць сурёзныя і карысныя для чытача артыкулы Дубоўкі „Лацініка ці кірыліца“ і Ю. Дрэйзіна „Франц Шубэрт“.

Мне думаецца, што аддзел мастацкай прозы, насычанай пэўным соцыяльным зьместам, павінен займаць у часопісі першае і галоўнае месца. Аддзел здаровай крытыкі, якая-б дапамагала разьвіцьцю нашай пролетарскай літаратуры, трэба зрабіць сталым і сыстэматычным.

**В. С—іч.**

**Ад рэдакцыі.** Рэдакцыя атрымала яшчэ шэраг лістоў у аддзел „Слова—Чытачу“ (ад т. т. Я. Герасімовіча. А. Ляснога, Я. Мякоты, К. Уласэвіча, А. Цяўлоўскага). Для большасьці іх тыповымі зьяўляюцца заўвагі, падобныя да тых, якія выказаў у сваім лісьце т. В. С—іч. З прычыны гэтага мы іх цалкам і ня друкуем.

Так, адны выказваюцца супроць „групавое“ крытыкі ў беларускай літаратуры, прыкладам якой зьяўляецца пісаніна Т. Глыбоцкага, М. Байковага і З. Жылуновіча. Другія адмоўна ставяцца да вершаў Ул. Дубоўкі „Пярэсты букет“, Яз. Пушчы „Сьнежанская сьвежасьць“ („Узвышша“ № 1—29 г.). Зазначым, між іншым, што т. Дубоўка цалкам згадзіўся з гэтымі заўвагамі. Бадай усе пагаджаюцца на тым, што найцікавейшымі творамі апошніх нумароў часопісі зьяўляюцца вершы П. Глебкі. Тав. Цяўлоўскі (завод „Комунар“) піша пра гэта так: „Шчыра кажучы, ад вершаў Пятра Глебкі „У дарогу“ вее нейкім сьвежым подыхам—нібы ад лугу, на якім растуць чароўныя краскі і зіхацяць расой пад сонейкам, якое яшчэ нядаўна ўзыйшло. І нейк міжволі, нясутрымана хочацца нагнуцца перад аднэй з гэтых красак і прыпасьці да яе вуснамі, прамовіўшы:

„Няхай вас ня топча жывёлы капыт,
А сонейка грэе і жывіць раса—
Змагайцеся, краскі, за волю і быт,
Дык вас не падкосіць ніколі каса“.

Асобнае месца займаюць заўвагі чытачоў пра новыя літары, якіх мы атрымалі таксама нямала. Пакуль што ніводзін чытач ня выказаўся супроць новых літар. Просім і надалей прысылаць свае заўвагі. Яны дапамогуць усебакова абмеркаваць гэтае важнае пытаньне.

# Аб „Узвышшы“ і дасужых крытыках

Паўгода назад я з вялікай цікавасьцю прачытаў зборнікі Кузьмы Чорнага „Хвоі гаворацць“, „Пачуцьці“ і аповесьць „Салавей“ Зьмітрака Бядулі.

Апавяданьні Чорнага я перачытаў па два разы і кожны раз знаходзіў у іх што-небудзь новае, што мяне захапляла. У кожным невялічкім ягоным апавяданьні адчуваецца нейкае надзвычайнае хараство, мастацкасьць і вялікая ўмеласьць аўтара. Псыхолёгія людзей выведзена тут да таго выразна і правільна, што спакойна, без хваляваньня нельга чытаць.

І ўсюды тут перажываньні людзей зьвязаны з мастацкімі апісаньнямі прыроды, яе хараством і прастатой, што ніяк ня можна адарвацца ад апавяданьня, і, чытаючы, жывеш разам з гэнымі дзейнымі асобамі, ставіш сам сябе на іх месца.

З зборніку „Хвоі гаворацць“ мне больш за ўсё спадабаліся апавяданьні „Хвоі гаворацць“ і „Захар Зынга“.

Як прыгожы ў Чорнага розныя маленькія дробязі, нікому няпрыкметныя ў жыцьці: „Седзячы над узрытай канавай дзядзька Язэп глядзіць, як недзе на дне канавы ўзрылі мурашкі дробна-жоўты пясок; яму вельмі сумна і нялёгка, ён яшчэ ўвесь пад уражаньнямі сьмерці блізкага Міхала.

Ён зусім цяпер ня цікавіцца навакольным і, агорнуты зусім іншымі думкамі, говорыць, што вось скора, пэўна, халады настануць, бо птушкі ў гольлях зьбіраюцца“...

Як тут усё гэта проста, жыцьцёва і праўдзіва!

Нельга абыйсьці гэтыя творы так, нічога не сказаўшы, хаця я зусім ня зьбіраюся даваць тут разгляд. Мяне вельмі зьдзівіла і дзівуе наступнае: адзін з прадстаўнікоў БелАПП'у так выразіўся на адным сходзе ў Гомелі: „Чорны скочваецца цяпер усё ніжэй і ніжэй“.

— Зьлітуйцеся,—пачуліся галасы,—а роман „Зямля?“ Ці-ж гэта, па вашаму, зусім звычайная рэч у беларускай літаратуры?..

— Што „Зямля“... гэта нікчэмны роман, бо ў ім дробна буржуазныя тэндэнцыі, і Чорны стаіць на чале гэтае ўласнасьці...

Хаця, можа, і нядобра пісаць аб тым, што дзесьці і некалі гаварылася, але надзвычайна брыдка чуць такія словы ад літаратараў, якія, бязумоўна, добра разумеюць сэнс таго, што гавораць, і добра ведаюць, што з сябе ўяўляе Кузьма Чорны сапраўды. І вее ад гэтых слоў нейкай няпраўдай, злосьцю, проста грызьнёю, чым хочаце.

Я прачытаў уважліва роман „Зямля“, падкрэсьліваю ўважліва, я прадумаў і шукаў тут ня толькі цікавасьці сюжэту, а і глыбіні думак, шукаў тут самога аўтара і нічога не знайшоў такога, што-б хаця крыху пацьвярджала словы прадстаўніка з БелАПП'у.

Калі мне вельмі спадабаўся роман М. Зарэцкага „Сьцежкі-Дарожкі“, а адным з галоўных недахопаў гэтага роману я лічу неасаблівую сьвежасьць сюжэту (ён ужо часткова быў скарыстаны ў ранейшых творах), неасаблівую сьвежасьць тыпаў (Раіса, Лясьніцкі), то ў Чорнага мы бачым зусім іншае. Сюжэт „Зямлі“ вельмі просты і блізкі кожнаму беларусу, узяты з сучаснага вясковага жыцьця. Гэта—роман нашых дзён. Дзе тут гэтыя дробна-буржуазныя тэндэнцыі, імкненьні і любасьць аўтара да ўласнасьці?

Наадварот, сяляне імкнуцца да комуны, да колектыўнае гаспадаркі. Праўда, ёсьць сяляне, якія не згаджаюцца на пераход да новага жыцьця, але чым гэта не праўдзіва і ці не з натуры сьпісана гэта, ці ня з нашай вясковай рэчаіснасьці.

„Зямля“, па-мойму, вялікае дасягненьне. Ні ў які твор не ўкладзена столькі мастацкіх і прыгожых малюнкаў, прыгожага апісаньня розных пор году, апісаньняў блізкай і знаёмай кожнаму зямлі. І мне хочацца сказаць, што многа і многа ёсьць няправільнай крытыкі „Узвышша“ і ўзвышанцаў, дзе крытыка часамі пераходзіць проста ў ганьбу.

Як бы там ні было, а нельга закрыць вачэй чытачом на творы К. Чорнага, Бядулі, Дубоўкі, Пушчы.

Сьмешны яшчэ словы таго-ж белапаўца пра Дубоўку.

Калі загаварылі, што ў „Узвышшы“ вельмі таленавіты Дубоўка, дык гэты літаратар сьціпла заўважыў: „Дык што-ж, у вапошні час Дубоўка нічога ня піша, усё гэта было напісана калісьці“...

І калі я сказаў, што нельга закрываць вочы на гэтую творчасьць, дык гэта гаворыць само за сябе, калі мы возьмем чытаемасьць „Узвышша“ Гомельскай культурнай масай.

Расчароўваешся нейк, калі чытаеш, прыкладам, крытыку Зьм. Жылуновіча на „Салаўя“, і калі абсалютна ня згодзен з такімі вывадамі, не знаходзіш і сотай долі тых паказаных недахопаў і хібаў. Нікольki ня дзіўны словы аднаго таварыша ў „Слове—чытачу“, які піша, што, калі ён чытаў аповесьць „Салавей“ аднаму дзеду, дык той плакаў.

У гэтай аповесьці свая вельмі прыгожая, орыгінальнасьць напісаньня, свой рытм і стыль, няма зьбітасьці і падробленьня пад чужое і разам з гэтым простае, сьціслае апісаньне, якое захапляе. Тое-ж самае датычыць апавяданьняў „Пальцы“ і „Дзесяць“.

Або ўзяць, прыкладам, рэцэнзію ў „Савецкай Беларусі“ ад 10 лютага 1929 году. Рэцэнзуецца часопісь „Узвышша“ № 6 (12). Пад якім соусам падае Барыс Мікуліч часопісь шырокім масам?

Усё ў яго дрэнна тут, пачынаючы ад пачатку да канца. Нават заканчвае словамі: „Агулам часопісь нагадвае альманах—цягучая хвароба шмат якіх часопісаў“.

Калі ня браць за аснову, што ўсе гэтыя рэцэнзіі, крытычныя нарысы трэба разумець наадварот, ці як проста нападкі, дык гэта значыць, што комсамольцу. з пролетарскай ідэолёгіяй, моладзі, каб ня зьвіхнуцца, зусім ня трэба чытаць „Узвышша“. А разам з гэтым мы ня бачым нічога дрэннага ў творах, што-б зьвіхала з правільнае пролетарскае дарогі, а бачым надзвычайную мастацкасьць і апрацаванасьць твораў. Чытаючы „Узвышша“, можна шмат чаго навучыцца, бо бяруць удзел у часопісі надзвычайна таленавітыя і моцныя пісьменьнікі. Я ўсё-ж лічу, што ня трэба закрываць вочы, а глядзець на справу так, як яна ёсьць.

г. Гомель **Юры Грынкевіч**

# „Узвышша“ на вёсцы

Помню, як у сьвятошны дзень, на вуліцы ў вёсцы, я чытаў сялянам „Узвышша“. Чытаў як раз апав. „Вайна“. Слухалі ўважна. Калі кончыў—доўга сьмяяліся. „Вось табе й панакупоўвалі“, сьмяюцца яны. Адзін селянін падходзіць і пытае: „Скажы-ж ты мне, сынку, хто гэта так напісаў? Гэта-ж у нас акурат так робіцца. А-а, вось дык саставіў!“ Просяць, каб яшчэ прачытаў. Я ім прачытаў апав. „Пальчык“ таго-ж аўтара. Адна жанчына ажна заплакала. „Гэта-ж з маім Петрыкам было тое самае“, расказвае яна жанкам. Устаў адзін селянін і гаворыць: „Мужчыны, усё гэта праўда і можа здарыцца ў кожнага з нас. Давайце будзем старацца, каб як-небудзь ясьлі ў нас з'арганізавалі на лета“, і шмат яшчэ што гаварылі. Творы „Узвышша“ робяць на іх добры ўплыў. Моладзь моцна захапляецца вершамі. Чытаюць і вучаць на памяць вершы Глебкі, Пушчы, Дубоўкі, Лужаніна. У мяне быў комплект „Узвышша“ за 1927 г. Кожны дзень я ня меў спакою, „Дай і дай пачытаць“—просяць. Раскажы нам, што-небудзь пра „Ўзвышша“. Хто гэта там піша?“ Я ім расказваў, што толькі знаў. Расказваў, што пішуць такія самыя сялянскія хлапцы, як і яны самі, затым і творчасьць іхная такая блізкая для нас.

„Мы да гэтага часу ня бачылі яшчэ падобных твораў“, гавораць хлопцы.

„А скажы ты нам, пытаюць, чаму гэта ў газэтах зьвягаюць на іх?“ Ну, я растлумачваў, што некаторым „дзядзям“ не падабаецца творчасьць „Узвышша“, загэтым яны й зьвягаюць. Хлопцы абураліся, шмат гаварылі, шмат спрачаліся і нарэшце

рабілі такі вывад, што „Ўзвышша“ ёсьць адно з лепшых літаратурна-мастацкіх згуртаваньняў, што „Ўзвышша“ ў сваёй творчасьці адлюстроўвае іхні быт і сучаснасьць, а не апявае дробна-буржуазныя элемэнты, як гэта гавораць тыя „дзяді“. А таму трэба не нападаць на „Ўзвышша“, а дапамагаць яму ў працы. Вось што гаворыць пра „Ўзвышша“ сучасная беларуская вёска, вось як адзываюцца бядняцка-серадняцкія масы.

Я як чытач, раблю такі вывад: „Узвышша“ творыць не для „габінэтных дзядзяў“, не для розных „Алёшаў“ і „Байкушаў“, яно творыць новы быт для рабоча-сялянскіх працоўных мас. Таму мы, чытачы, прапануем усім турботлівым „дзядзям“ перастаць турбавацца аб „Узвышшы“, ляпей больш зьвярнуць увагу на самых сябе: а „Ўзвышша“ няхай судзяць масы, няхай судзяць самі чытачы.

Цяпер некалькі слоў аб монумэнтальнай поэме Дубоўкі „І пурпуровых ветразей узьвівы“. Гэты новы і па свайму стылю, і па форме мастацкі твор выклікаў шмат спрэчак у сучасных літаратурных колах. „Славутыя“ крытыкі як на ахвяру наваліліся на гэты твор і пачалі яго грызьці жыўцом. Не разумеючы беларускае мовы, нават можа зусім яе ня ведаючы, павярхоўна падыйшлі да поэмы і пастараліся зьмяшаць яе з гразёю.

Назвалі поэму нэо-буржуазнай, нават антысавецкай. У асобе матэматыка вывелі компартыю. Але праўду пагаворка кажа: „хто парася ўкраў, у таго і ў вушох зьвініць“. Ці не адзелі вы самі авечай шкуркі? Досыць. Мы, чытачы, поэму разумеем іначай. Гэта сталёвы звон нашых дзён. Ён чаруе сваім хараством, захапляе. У ім відаць рухомыя сілы нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

„Крытычны“ пустакрык чытачы падымаюць на сьмех.

в. Пузава, Меншчына. С Кулеш

---

# На прогрэсыўным шляху

*(Поэма „І пурпуровых ветразей узьвівы“)*

У сваёй поэме „І пурпуровых ветразей узьвівы“ Дубоўка вызначыў шлях, па якім павінен ісьці сучасны лірык, к чаму імкнуцца. і яго ўзаемаадносіны з „матэматыкам“. Каго-ж мы павінны разумець пад „матэматыкам“? Зусім не згаджаюся з т. Нэдбэ, які ў сваім артыкуле „Навагодні настрой Ул. Дубоўкі, ці куды яны растуць“, гаворыць што пад „матэматыкам“ мы павінны разумець нашу партыю. З поэмы гэтага ня відаць і ні ў якім выпадку нельга лічыць „матэматыка“ ўвасабленьнем партыі. На мой погляд, пад „матэматыкам“ трэба разумець таго крытыка, які цэніць творчасьць нашых пісьменьнікаў у процантах, як Тодар Глыбоцкі. Ці можна згадзіцца з т. Нэдбэ ў характарыстыцы гэтай поэмы і ў прыватнасьці самога Дубоўкі? Калі мы будзем так цаніць літаратурныя творы, то бадай зьвядом сучасную літаратуру к нулю і скажам, што літаратура, як такая, ў нас ня існуе. Што ставіць перад лірыкам Дубоўка?

Ён раіць лірыку шукаць новых форм і стылю, уцягнуць у літаратурныя спрэчкі ўсё грамадзтва, бо толькі з яго ўдзелам можа быць створана сапраўдная, пролетарская літаратура.

Будзі шуканьні новага у стылі,
Пакліч на спрэчкі думнае грамадзтва,
Каб на здабытках даўніх не застылі,
Каб не засьцюжылі у іх мастацтва.

Толькі пры такой пастаноўцы пытаньня мы пасунем разьвіцьцё маладой беларускай літаратуры і зробім яе прыгожай.

Мы зразу схапіліся за адшуканьне новых форм і стылю, але, ня вызначыўшы іх стала, мы прыціхлі:

Занадта ціха стала на Парнасе
У сэнсе творчасьці і дасягненьняў.

У зьвязку з шпаркім ростам соцыялістычнага будаўніцтва, у зьвязку з ростам культурнасьці і сьвядомасьці мас, ці можа-ж літаратура стаяць у застоі і падносіць чытачу напалову старыя формы? Вось гэта Дубоўка і цалкам „Узвышша" зразумелі.

Дубоўка кажа:

Ня трэба нам спыняцца у зацішку,
Бо ў далі думка нас вяде жывая.

Далей Дубоўка зварочваецца да ўсіх сяброў па працы і кліча іх ня спыняцца, а ісьці ў будучыну, займаючы перадавыя пасты.

Мае сябры, супольнікі у працы,
Штурмуйце будучыны аванпосты.
Мы звыклі перашкодаў не баяцца—
Яны спрыяюць нашаму узросту.

Тав. Нэдбэ ў сваім артыкуле ўпікае Дубоўку ў тым, што ён шануе і дрыжыць за народную творчасьць, успрыймаючы і ўвасабляючы яе як скарб. Доўгі занепад нашай краіны, прывёў да таго, што мы амаль ня страцілі тое, што даўней звалася беларус ай культурай. Толькі дзякуючы працоўнаму беларусу, які з гонарам захоўваў сваю мову і складаў народную творчасьць, мы прышлі адраджаць тое, што калісьці жыло і звалася беларускай культурай, а дзеля гэтага патрэбен грунт і аснова. Народная творчасьць, захованая працоўным беларусам, і паслужыла асновай прыгожага пісьменства.

Мы не ганяемся за буржуазнай культурай, бо яна пабудована на эксплёатацыі працоўных, а мы творым процілеглую ёй, пролетарскую. Але і да сягo часу мы ўвекавечваем памяць тых, якія катавалі і душылі працоўных.

Ты уважаеш, што культура ходзіць
У портках ката слаўнае Комуны
Парыскае, у портках Галіфэ?
Або у марынарцы ходзіць Фрэнча,
Другога ката, ката нашых дзён?
Ня веру я у гэткія акрасы:
Я ненавіду іх, змагацца буду!

У знак змаганьня з гэтай „тваньню", з „тваньню" ганебнае культуры, Дубоўка возьме ўсё добрае з культуры працоўных:

І у імя змаганьня з рознай тваньню
вось гэтае шляхетнае культуры—
я лепш вазьму акрасы Беларусі...

Дубоўку не па густу буржуазная культура. Ён ня верыць, што яна мае перавагу над „сярмяжнай", бо „сярмяжную" стварыў сам народ. Ня маючы „уласных скарбаў", што-ж мы павінны выбраць? І тут Дубоўка дае адказ:

Пакуль ня маем мы уласных скарбаў,
Павінны выбраць вартае увагі.
Мая увага выбірае тое,
Што створана працоўнаю сям'ёю.

З усяго гэтага можна зрабіць вынікі:

1. Дубоўка стаў на прогрэсыўны шлях разьвіцьця беларускай літаратуры.
2. Чэрпаючы скарб народнай творчасьці, Дубоўка апрацоўвае і прыстасоўвае да сучаснасьці.

Урэчча Паўлюк Дубовік

**Ад рэдакцыі.** У зьвязку з тым, што поэма Дубоўкі выклікала вялікую зацікаўленасьць з боку чытачоў, рэдакцыя ў адным з наступных нумароў прысьвеціць ёй адмысловы артыкул.

# КНІГАПІС

## „Сочинительство“ ці творчасьць?

**А. Оршын. Цяжкія роды. Аповесьць Пераклад з расійскага. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.** *Цана 85 к., бал. 94.*

Разьвіцьцё братняй пролетарскай літаратуры РСФСР за апошнія гады паказала нам аб вялізнай творчай моцы пролетарыяту, што крок за крокам прасоўваецца наперад і адваёўвае адну за аднэй літаратурныя позыцыі. Шырокія, сапраўды мастацкія палотны, што выйшлі з-пад пяра расійскіх пісьменьнікаў у пасьлякастрычнікавую пару могуць быць не апошняй акрасай у літаратурным багацьці народаў СССР. Па зусім зразумелых прычынах мастацкая культура ў расійскіх пісьменьнікаў стаіць вышэй, чым у іншых нацыянальнасьцяй Саюзу,—гэта акалічнасьць мае свае, і соцыяльныя і палітычныя, угрунтаваньні. Абмен культурнымі каштоўнасьцямі—першы крок да падвышэньня культуры тых нацый, што толькі пасьля Кастрычніка сталі на цьвёрды грунт свайго адраджэньня. Узаемны пераклад літаратурных твораў нацыянальнасьцяй, што жывуць у Саюзе, дапаможа ня толькі ўзаемнаму азнаямленьню з бытам, соцыяльнай псыхолёгіяй працоўных мас, з іхнай працай, змаганьнем і дасягненьнямі, ня толькі будзе спрыяць яшчэ большаму іхнаму збліжэньню, але таксама і дапаможа кожнай нацыі ўзбагачвацца культурнымі каштоўнасьцямі.

Вось чаму мы за пераклады літаратур з іншакраёвых моваў. Вось чаму мы так зацікавіліся пачынам выдавецтва ў гэтай галіне. Аднак, справа перакладаў, гэта даволі адказная культурная справа, якая патрабуе пэўнага знаёмства з прадметам пэўнай і ўсебаковай мастацкай культуры. Выбар твораў для перакладу павінен адбывацца з уважлівай асьцярогай, адкідаючы ўсё сьмецьце і халтуру, што, на вялікі жаль, таксама назьбіралася за часы рэволюцыі на кніжнай паліцы. Аднак, як-бы там ні было, выдавецтва за пераклады ўзялося, пачатак зроблен. Перад намі аўтарызаваны пераклад з расійскае мовы аповесьці „Цяжкія роды“ Оршына. Аповесьць заслугоўвае ўвагі і павінна быць перасьцярогаю выдавецтву ў справе больш уважлівага падбору твораў. Але перш аб перакладзе. Перакладчык зразумеў сваю ролю крыху іначай, чымся ад яго вымагалася, і правёў „беларусізацыю“ аповесьці, мэханічна прыклеіўшы асаблівасьці і нацыянальныя адзнакі Беларусі вобразам, тыпам, гэроям аповесьці, паставіўшы іх такім чынам у двусэнсавае становішча. Яны не расійцы, бо з іх зьнялі іх нацыянальную вопратку, яны і не беларусы, бо беларуская нацыянальная форма на іх ня ўзлазіць, і таму яны паказаны праз меру фальшыва. Такая хіба перакладу.

Фальшывасьць аповесьці яшчэ і ў другім, але гэта ўжо ня мае дачыненьня да перакладу, і мы на ёй спынімся ў далейшым.

Зьмест аповесьці прыблізна наступны. Пасьля 5-гадовай службы ў Чырвонай арміі кулацкі сынок Ігнат Ворчык зварачаецца на бацькаўшчыну. Вёска Загор'е сустракае яго прыхільна, цешыцца сваім выхаванцам—„арол-хлапцом“. Бацькі супольна з сваякамі і сусе́дзямі, таксама кулакамі, наладжваюць спатканьне. Самагон, кулацкая пахвальба і злосьлівыя эківокі на ўладу саветаў, пачуцьцё свае сілы і моцы—: ось фон, на якім вымалёўваецца нам цэнтральная фігура аповесьці з першых-жа балон. Ігнат ня п'е. Ён сумленна прайшоў школу Чырвонай арміі, ён жыве другім жыцьцём. Тут першая катэгорыя супярэчаньняў асобы і акружэньня асяродзьдзя. На вёсцы беднага стогне, улады савецкае няма—старшыня сельсавету фактычна на службе ў кулакоў. Вясковы актыў (ня кулацкі), моладзь пад „канаводзтвам“ дэмобілізаванага чырвонаармейца Якава Бубна хуліганіць, п'янствуе. Настаўнік, забіты „цілігент“, жыве ідэямі Глеба Усьпенскага Камсамол—тры хлапчукі, вечна бітыя хуліганамі, зацкаваныя ўсёй вёскай. На гэтай глебе ў Ігната Ворчыка зноў супярэчаньні грамадзкага парадку. Далей, каханьне. Дачка

кулака Наста і ўдава, бяднячка Тацяна, —супярэчаньні асабістага парадку. Затым Ігнат організоўвае спэктакль, сельсавет, правodзіць земляўпарадкаваньне (на гэтай глебе стрэл з абрэзу) і фінальная сцэна—выезд з трактарам да колектыўнага заворваньня зямлі Ігнатам-жа організаванай арцелі.

Такі сюжэт перакладзенае аповесьці. Нельга сказаць, што падобная тэматыка не актуальна, ня сугучна эпосе. Наадварот, яна сёньня заслугоўвае грамадзкае увагі. Аднак, каштоўнасьць мастацкага твору ляжыць зусім не ў яго сюжэтнасьці, або композыцыйным аформленьні—гэта рэчы другараднага значэньня. Разглядаць мастацкі твор мы павінны з пункту гледжаньня каштоўнасьці і праўдзівасьці ідэй, пакладзеных у яго аснову, з пункту гледжаньня ідэолёгічнай мэтаімкнёнасьці ўсяго твору і, нарэшце, з пункту гледжаньня таго, як мастацкія вобразы апраўдваюцца паложанымі ў грунт іх мэтамі.

Асноўнае пытаньне,—гэта праўдзівасьць ідэі. Ня трэба забывацца, што „когда ложная идея кладется в основу художественного произведения“, дык яна „вносит в него такие внутренние противоречия, от которых неизменно страдает его эстетическое достоинство“ (Плеханов, т. XIV, ст. 156). Дык у чым-жа ідэя „Цяжкіх родаў“? Яна зусім выразная. Аўтар імкнуўся паказаць тую ісьціну, што соцыяльнае быцьцё можа і ня ўплываць на сьвядомасьць асобнага індывідууму—гэта першае. Другое выразнае яго жаданьне - гэта паказаць „ідэйную чыстату“ гэроя, яго высока альтруістычную душу і індэтэрмінаванасьць яго ўчынкаў. Ідэйкі, як бачыце, ня новыя, аднак, зусім няправільныя, а сваёй існасьцю шкодныя. І сапраўды, якое ўражаньне застаецца ў вас, калі, уважліва прасачыўшы адрэзак жыцьцёвага шляху Ігната Ворчыка, вы падумаеце пра вёску, яе жыцьцё. Завостранасьць клясавага змаганьня, бязумоўна, прытупляецца, на кулацтва і яго прыхільнікаў вы глядзіцё ня з пункту гледжаньня об'ектыўнай сапраўднасьці, а з пункту гледжаньня мажлівага перараджэньня „чалавека“, пераформаваньня яго псыхолёгіі і набліжэньня заможных груп да беднаты. Упартасьць Ворчыка Ігната, яго адданасьць саветам на фоне беспрасьветнай цямноты Загор'я, на фоне прыбітай, запалоханай, бязвольнай грамады соцыяльна ніжэйшых пластоў, на фоне паказу зацкаванага, пабітага комсамолу і бесхарактарнага настаўніка, на фоне пагалоўнае п'янкі ўсіх пластоў вёскі і соцыяльных і ўзроставых - вырастае ў вашым уяўленьні ў прывабны малюнак таго, як моцны воляй і сумленны душою „чалавек“—абстракцыя можа перавярнуць усё жыцьцё, паставіць яго па свайму жаданьню. Такога чалавека вы вітаеце, на яго ўскладаеце спадзяваньні, а разам з гэтым і забываецеся на правільны шлях масавага змаганьня з клясавым ворагам; вы чакаеце яго паступовага перараджэньня і зглажваньня клясавых-супярэчнасьцяй. А гэта ўжо шкодная зьява.

Ігнат Ворчык, вы можаце мне сказаць, прайшоў школу Чырвонай арміі, ён там, у яе шэрагах, соцыяльна перарадзіўся, і таму яго адыход ад заможнай групы, якая яго выхавала, прычынна абумоўлены, соцыяльная залежнасьць такім чынам у яго атрофавалася. Ён да таго-ж гэрой двух ордэнаў Чырвонага сьцягу. Праўда, адмаўляць гэта было-б рэччу няправільнай. Ворчык—сумленны чырвонаармеец і таму першую катэгорыю бытавых супярэчаньняў, яго і асяродзьдзя, ён з посьпехам перамагае. Ён, як асоба, не паддаецца ўплывам кулацкай радні—гэта добра. Але ў аповесьці гэта зьява—толькі прыватнасьць, першая рыска ў агульным композыцыйным пляне, які бязумоўна прэтэндуе на „вялікую“ „агульначалавечую“ ідэю.

Я нагадаю Якава Бубна, таксама дэмобілізаванага чырвонаармейца - бедняка, які прайшоў такую-ж школу, які, аднак, у аповесьці паказаны як „канавод“ хуліганнай моладзі, зачыншчык усіх п'янак і організатар нападаў на камсамол. Якаў Бубен—таксама прыватнасьць, у агульным пляне ён паказаны як антыпод Ворчыку ня толькі ў соцыяльна - клясавых а і ў псыхолёгічна-ідэолёгічных дачыненьнях. Іншых тыпаў гэтай катэгорыі няма. І тады дазвольце іх супаставіць і з прыватнасьцяй вывесьці нешта агульнае. Прыгадаем індыфэрэнтнасьць асноўнай масы гаспадароў—беднаты Загор'я, успомнім яе пасыўнасьць і агульны шэры фон грамадзкага жыцьця загарчан, прыгледзімся да нашых гэрояў і адразу ўбачым, што зробленыя ў пачатку артыкулу заўвагі аб ідэёвай мэтаімкнённасьці твору правільныя.

„Сьвядомасьць вызначаецца быцьцём"— выразна падменьваецца другой формулай, якую можна было-б выразіць такім чынам: „сьвядомасьць вызначае быцьцё". Уявеце сабе, чытачу, на хвілінку, што Ворчык не вярнуўся з арміі ў вёску—такое здарэньне магло быць з тае ці іншае прычыны. Што-б мы тады мелі? Дзе тая сіла, дзе той грунт, на якім базуецца рух грамадзкага жыцьця? Прынамсі аўтар зрабіў усё, што было мажліва паводле яго сіл, каб завэлюмаваць яго, прыкрыць шапкай-нявідкай. Няма і самае малое зазнакі на тое, што маса ў сваім гістарычным творчым руху наперад знойдзе патрэбныя сродкі і сілы ў самой сабе, якія вызначылі-б посьпех змаганьня. Тры вечна бітых комсамольцы ды замучаны жыцьцём настаўнік, ці гэта не пародыя на сьцьверданьні, што „даб'емся самі лепшай долі". Якаў Бубен, кроў ад крыві прыбітага кулацтвам і соцыяльнымі бедамі селяніна, ці не яскравы вобраз таго, якім шляхам прызначана існці грамадзе, прадастаўленай самой сабе. Анархізм, бандытызм, п'янка—вось яе ўдзел, калі-б ня Ворчыкі, гэтыя высока-альтруістычныя людзі, здольныя нават „пострадать за народ".

Нездарма-ж аўтар пастараўся як мага яскравей паказаць апотэоз кіраўніцтва Ворчыка грамадою. Уся сіла яго абстрагаванай індывідуальнасьці вылілася ў выхадзе ў поле з трактарам, але бледнай немаччу расплылася ў паветры. Нічога орыгінальнага, трафарэт і хадульнасьць, а яны, як ведама, ня могуць быць прызнаны за адзнаку мастацкасьці твору. Гэтыя прыёмы адразу паказваюць штучнасьць ідэй, заложаных у творы, і мімавольна прымушаюць падумаць аб сапраўдных шляхох тых, хто будуе новае жыцьцё на падставах колектывістычнасьці.

Плеханаў некалі пісаў, што „никакой талант не превратит в истину того, что составляет ее противоположность". І на творах такіх талянавітых пісьменьнікаў, як Кнут Гамсун, яскрава гэта даводзіў. Творы талентаў літаратуры, насычаныя спробамі правесьці надуманыя ідэйкі, не прызнаваліся грамадзтвам і тэй клясай, песьняром якой быў той ці іншы талент. Што-ж гаварыць аб нашым аўтары, бязумоўна далёкім ня толькі да таленавітасьці, а і да звычайнай „посредственности". Высунутыя ім палажэньні бязумоўна няправільныя, яны для нашага часу крыху, ну як-бы, застарэлі. Мы Ворчыкаў—чырвонаармейцаў, адданых савецкай уладзе шануем, мы ведаем іхныя імкненьні, але ведаем і тое, што ня Ворчыкі організуюць жыцьцё, а само жыцьцё ў сваім соцыяльна-гісторычным поступе вылучае Ворчыкаў і дэтэрмінуе іхную волю, а дзейнасьць іх акрэсьлена станам грамады. І вось гэты стан, жыцьцё, так, як яно ёсьць, павінна знайсьці сабе месца ў мастацкай літаратуры.

Аднак, мы добра ведаем, што ня кожнаму пісьменьніку так лёгка, як гэта-б здавалася, надаць сваім творам ідэйна прыемлемы нам зьмест. Ідэя ня ёсьць нешта такое, што можа разглядацца незалежна ад наяўнага грамадзкага ладу, у сваю чаргу абумоўленага соцыяльна-эканомічнымі дачыненьнямі грамады. Ідэйная ж мэтаімкнёнасьць усякага чалавека ў канечным выпадку і, галоўным чынам, залежыць ад дачыненьняў яго да грамады. І калі Ігнат Ворчык у сваіх дачыненьнях да грамады выявіў (ці імкнуўся паказаць), што яго „я" абасоблена ад яго „быцьця", што гэтае „я" стала адзінай сапраўднай рэальнасьцю, дык гэтым самым ён і выявіў убоства асноўнай ідэі твору, увасобленай у Ворчыку і ягонай дзейнасьці.

Можа паказацца з папярэдняга, што мы адмаўляем мажлівасьць псыхолёгічнага перараджэньня чалавека, зьмены ім сваіх поглядаў, мажлівасьць адрыву ад роднай яму соцыяльнай глебы. Зусім не. На такое меркаваньне мы поваду не даем, лічачы, што Ворчык ёсьць Ворчык, які ў пастаўленых супярэчнасьцях выходзіць пераможцам. Але мы лічым, што справа тут не ў пэрсональных учынках каго-б там ні было, справа ня ў Ворчыку—гэроі грамадзянскае вайны, а справа ў тым, што аўтар выкарыстаў гэты тып, як мастацкі вобраз з дрэньненькаю мэтаю працягнуць свае зусім не матэрыялістычныя погляды. Пагледзім на композыцыю аповесьці.

Выкрышталізоўваючы характар Ігната Ворчыка, аўтару, бязумоўна, трэба было паказаць яго ўнутраны зьмест, ці інакш кажучы, ускрыць яго псыхолёгію на мотывах змаганьня пачуцьцяў. Мэтод правільны, але гэтым самым мы і ўбачылі ўсю штучнасьць пабудовы вобразу Ігната, як інтуіцыйна моцнага індывідууму. Спатканьне з Надзь-

каю, дачкою Дзяніса Ляшчыка, выразна выяўленага кулака, паказала Ворчыку, што выбар бацькоў ня так ужо яму не да густу. Уплыў на яго робіць вонкавы выгляд дзяўчыны, яе ўбёры і „залаты гадзіньнік з цэпкаю, што спускалася ніжэй стану“. Ён у дачыненьнях да яе натуральны, і таму натуральна ўспрыймаюцца словы, сказаныя яму Надзькаю: „Кахаю цябе, Ігнатачка. да сьмерці. Прыходзь у сваты“.

І зусім адваротнае ўяўленьне пры чытаньні радкоў, прысьвечаных спатканьню Ігната з бежанкай, удавой Тацянай. Аўтару не пад сілу было абмаляваць пачуцьцёвы бок адчуваньняў Ігната, ён не знайшоў фарбаў,слоў,якія пераканалі-б чытача ў шчырасьці і заканамернасьці дачыненьняў гэроя да Тацяны.

Нічога не гавораць заўвагі, што „толькі сэрца, здавалася, расло, пухла, напаўнялася пачуцьцём нейкага наяўна-салодкага незразумелага чаканьня“, зробленыя аўтарам у дачыненьні да Ігната, калі той вярнуўся пасьля спатканьня з Тацянай. Ды зрэшты такая задача і не магла быць разьвязана аўтарам. Элемэнт псыхолёгічнага аналізу калі-б быў уведзен ва ўсёй паўнаце, дык адразу раскрыў-бы штучнасьць характару вобразу Ворчыка, і тады абмежавацца толькі жаласьцю, як адзіным стымулем да жаніцьбы Ворчыка на Тацяне, было-б немагчыма, а раскрыць глыбіню вобразу, значыць пазбавіць яго тых атрыбутаў, якім яго надзялілі для выкананьня ролі носьбіта ідэі, незалежнай ад быцьця.

І таму гэты від супярэчаньняў разьвязваецца надзвычай лёгка, штучна, я сказаў-бы мэханічна. Але гэта паказвае толькі на штучнасьць Ігната, як мастацкага вобразу, яго нявытрыманасьць да канца.

Заступніцтва Ігната за беднату пад час падачы акладных лістоў на падатак і перагляд у зьвязку з гэтым об'ектаў абкладаньня камісіяй, што прыехала з павятовага гораду, робіць немажлівым далейшае жыцьцё Ігната ў бацькоў. Ён пераяжджае да Тацяны, жэніцца з ёю і пачынае праводзіць у вёсцы сапраўдную палітыку савецкае ўлады. Ня гледзячы на ўдалы прыём, гэта частка аповесьці найбольш выразна раскрывае нам няўгрунтаванасьць вобразаў, а разам з гэтым і даводзіць з бясспрэчнай відавочнасьцю выказаныя думкі, што да існасьці ўсяго твору. Пачынаючы з гэтага моманту, мы ўжо губляем Ігната Ворчыка—чалавека і бачым увесь час плён фантастычнае думкі аўтара, пабудаванай на прынцыпе паказу не таго, што ёсьць, а таго, як-бы хацелася, каб было. Тут мы знойдзем усяго па крысе: і організацыю спэктаклю, на якім вясковыя жанкі, старыя, струдзаныя, гледзячы на бясхітрасную гульню комсамольцаў, праліваюць сьлёзы над пражытым і выслаўляюць будучыну, дзякуюць Ігнату, што паказаў ім яе ў ружовых фарбах; і земляўпарадкаваньне так, як яно ўяўляецца чалавеку, які ніколі ня бачыў вёскі, які ня ведае органічнага зрастаньня селяніна з зямлёю, як сродкам яго існаваньня, і які ўяўляе, што кожны сход абавязкова з кулачным боем; і „загавор“ кулакоў, якія раней зарэзалі Ігнатавага жарабца, а потым зрабілі напад і на самаго Ігната (абрэз канечны атрыбут клясавага змаганьня); і падзел сенажацяй, дзе сяляне зусім не адчуваюць цяжару касавіцы, а косяць, нібы польку танцуюць; і парадны выезд з трактарам на заворваньне арцельнае зямлі; і, нарэшце, прымірэньне бацькоў з сваявольным сынам.

Так, „добродетель торжествует“! Так, вёска прышла да... соцыялізму, водле паважанага аўтара, дзякуючы самаадданасьці і самаахвярнасьці Ігната Ворчыка.

Тут чытач, калі будзе ўважлівым, дык і ня знойдзе элемэнтаў псыхолёгічнага перарасьценьня, зноў такі мажлівага выключна на грунце зьмены грамадзка-вытворчых узаемадачыненьняў. Але Ворчык такой псыхолёгічнай зьмены не патрабуе. Ён паказана досыць выразна, як ужо зусім аформлены і ўсталяваны індывідуум, які перабудоўвае жыцьцё паводле прынцыпаў свайго „я“, свайго „мысьленьня“. Увядзеньнем элемэнтаў сучаснага перабудаваньня вёскі аўтар думаў прыкрыць суб'ектывізм характару гэрояў і, паставіўшы яго на чале пасыўнай грамады, хацеў толькі болей выцяніць яго інтуіцыйную глыбіню, індывідуальную незалежнасьць. Спроба няўдалая.

Адным з крытэрыяў мастацкасьці зьяўляецца жыцьцёвая праўдзівасьць і орыгінальнасьць форм мастацкіх вобразаў. Падыходзячы з такою меркаю да рэцэнзаванага твору і не знаходзячы ў ім ні аднаго, ні другога, мы ня можам прызнаць за ім хоць якой эстэтычнай вартасьці.

„Сочинительство“ гэта яшчэ далёка ня творчасьць, а мы змагаемся за творчасьць, за мастацтва такое, якое-б ня толькі нас эмоцыянальна заражала, але патрабуем, каб гэтая зарадка была організую ым элемэнтам нашага пачуцьця, розуму вакол пытаньняў сёньняшняга дню. Ня прытупляць увагу да клясавага ворага, а раскрываць яго істоту, не пагабацца з ім, а бязьлітасна змагацца, ня „ружовіць“ жыцьцё, а вывучаць сапраўднае жыцьцё, каб хутчэй яго перабудаваць—адным чынам, мы за мастацкі матэрыялістычна - дыялектычны твор, а не мэтафізычнае „сочинительство“.

Расійская літаратура мае ня мала вартых увагі твораў такіх, якія нам патрэбны, выдавецтва павінна нам іх даць. „Барсуки“ Леонавага, „Перегной“ Сэйфулінай,—гэта лепшыя ўзоры творчасьці, якая малюе быт сучаснай вёскі, „Железный поток“ Серафімовіча, „Тихий Дон“ Шолахавага, агульна-прызнаныя ўзоры рэволюцыйнай гэроікі і г. д. і г. д. чым ня вартыя для перакладу —дайце нам іх. Украінская літаратура прабіла сабе дарогу ў РСФСР, а на Беларусі няма ніводнага людскага перакладу мастацкай украінскай літаратуры. Пара сур‘ёзна ўзяцца за справу. **Фэлікс Купцэвіч**

# Пра I том „Литературной энциклопедии“

Першы том „Литературной энциклопедии“, якую выдае Комуністычная Акадэмія, нарэшце, выйшаў. Літаратуразнаўцы, настаўнікі, студэнцкая моладзь, што вывучае літаратуру, пісьменьнікі і, урэшце, шырокае кола чытачоў, аматараў мастацкага слова, нецярпліва чакалі гэтага выйсьця. Програма распачатага выданьня вабіла сваёю шырокасьцю і сьвежасьцю. Паводле абвешчанага пры пачатку падпіскі пляну, „Літаратурная энцыклёпэдыя“ павінна была ахапіць, з марксыцкага пункту глебаньня, пытаньні агульнага літаратуразнаўства, г. зн. літаратурнае мэтодолёгіі, поэтыкі, гісторыі сусьветнае літаратуры, даючы месца ня толькі тым зьявам слоўнага мастацтва ад першых досьвітак чалавечае гісторыі да нашых дзён, якія ўжо былі не аднойчы об‘ектам навуковага разгляду, але і тым зьявам, якія ‘шчэ ня вывучаліся—літаратуры прыгнечаных народаў, што цяпер абубаюцца як у межах СССР, гэтак і па-за ягонымі межамі, і літаратуры сучаснай наагул, асабліва літаратуры, зьвязанай з вызваленьнем пролетарыяту.

Гэткай была пастаўленая задача. Спачатку—колькі слоў пра агульнае ўражаньне. У літаратуразнаўцы, што сочыць разьвіцьцё свае навукі на Захадзе, міжволі паўстае жаданьне прыраўнаваць нашую энцыклёпэдыю да трохтамовае нямецкае літаратурнай энцыклёпэдыі, якая выходзіць цяпер, і два першых томы якое ляжаць перад аўтарам гэтых радкоў[1]).

Нямецкая энцыклёпэдыя мае сваё ідэалёгічнае абліччa. Як ні багатыя яе артыкулы на паасобныя тонкія, што ўзбагачаюць думку, заўвагі, на новыя абагульненьні, сьціслы і глыбока зьмястоўны сынтэз вынікаў нямецкае літаратуразнаўскае работы, але ёсьць ува ўсёй гэтай будыніне пэўныя ідэолёгічныя падваліны, што зусім ня могуць быць прыняты намі, прадстаўнікамі савецкае навукі. Я маю на ўвазе тую нацыянальную абмяжованасць, якая згукнулася ў тым, што зьявы агульнага парадку, як тэрміны самое навукі, будзь гэта тэрміны мэтодолёгічныя, жанравыя, стылістычныя, вершазнаўскія, усе яны разглядаюцца, галоўным чынам, на матар‘яле нямецкае мастацкае літаратуры і выключна ў кірунках, што праклала нямецкая навуковая думка.

Зусім адваротнае мы бачым у нашай энцыклёпэдыі. У ёй няма гэтага нацыянальнага выпукленьня культурных дасягненьняў; Байрону і Бальзаку аддаецца ня менш увагі, чымся Блоку або Брюсаваму, Белінскі і Андрэевіч разглядаюцца побач з Брунэт‘ерам і Брандэсам. Кожнаму пісьменьніку рэдакцыя імкнулася адвесьці месца незалежна ад нацыянальнасьці, у меру ягонае мастацкае і ідэолёгічнае каштоўнасьці. Кніга цешыць сваёю выразнаю строгаю прынцыповасьцю і шырокасьцю абхапленьня літаратурных зьяў.

Нямецкая энцыклёпэдыя хоча быць ня толькі навуковым сынтэзам сучасных вед, але і буйною зьяваю нямецкае нацыянальнае культуры. Наша энцыклёпэдыя дае

[1]) Reallexicon der deutschen Literaturgeschichte. Herausgegeben von P. Merker und W. Stammler. Berlin.

таксама навуковы сынтэз, але больш шырокі і больш прынцыповы, г. зн. угрунтованы на прынцыпах гістарычнага матэрыялізму і, у адрознасьць ад нямецкай энцыклёпэдыі, зьявіцца сродкам інтэрнацыянальнага выхаваньня сваіх чытачоў. Братняе яднаньне народаў, зьдейсьненае на балонах „Літаратурнай энцыклёпэдыі", дапаможа ў перамаганьні таксама наяўных у нас нацыяналізмаў усіх колераў ды іхнае спадчыны—адсутнасьці выстарчальнае ўвагі да культурных дасягненьняў іншых народаў.

Пяройдзем да навукова-мэтодолёгічнага прыраўнаваньня абедзьвюх энцыклёпэдый. У прадмове да нямецкай энцыклёпэдыі рэдактары заяўляюць, што на працягу двух апошніх дзесяцігодзьдзяў паўстала новае літаратуразнаўства, якое пакінула ранейшыя індывідуалістычныя шляхі. Усё выданьне выканана пад знакам пераходу ад гісторыі літаратуры, як гісторыі паасобных творчых індывідуальнасьцяў, да гісторыі літаратуры, як гісторыі стыляў, кірункаў, густаў. Гэтая формула аб'яднае ўсіх супрацоўнікаў энцыклёпэдыі (блізка 100). У гэтым сваім кіраўнічым прынцыпе нямецкая энцыклёпэдыя зьяўляецца прогрэсыўнаю зьяваю навуковае думкі. Аднак, мы ня можам прыняць яе прынцыповую позыцыю таму, што яна абмяжоўваецца апісаньнем і абагульненьнем літаратурных зьяў, не даючы ім соцыялёгічнага вытлумачэньня, або калі і дае гэткае вытлумачэньне, дык яно мае ідэялістычны характар.

Паколькі, аднак, і марксыцкае літаратуразнаўства імкнецца перамагчы глыбока ўкарэненыя індывідуалістычныя традыцыі навукі і пабудаваць гісторыю літаратуры, як асьветленую гістарычным матэрыялізмам гісторыю стыляў, праца, якую зрабіла нямецкая навука, павінна была быць выкарыстанай. З артыкулаў першага тому гэта яскравей за ўсё згукнулася ў артыкуле „Бароко"—тэрмін, уведзены ў літаратуразнаўства нямецкімі вучонымі [1]). Аўтар артыкулу ў нашай энцыклёпэдыі падрабязна знаёміць з вынікамі навуковае працы, прысьвечанай высьвятленьню літаратурных зьяў барокавага стылю, у чым яму, вядома,

[1]) Гл. мой артыкул — «Проблемы поэтыкі ў новай кнізе О. Вальцэля.» – «Узвышша», 1927, № 4, бал. 130—132.

шмат дапамог адпаведны артыкул нямецкай энцыклёпэдыі [1]).

Абодва артыкулы зьяўляюцца творчымі: артыкул у нямецкай энцыклёпэдыі дае яскравы, удумна выкананы агляд зьяў барокавае літаратуры і ўстанаўляе істотныя адзнакі яе стылю; артыкул у нашай энцыклёпэдыі дае гэтай зьяве гістарычна-матэрыялістычнае асьвятленьне. Цяжкасьць палажэньня абодвух аўтараў была ў тым, што ім прыходзілася падвесьці падрахунак навуковае працы яшчэ далёка не закончанае: адсюль - няпоўная пераканальнасьць і спрэчнасьць іхных артыкулаў. Не здавальняе і тая акалічнасьць, што паняцьце бароко, якое мае значэньне для ўсяго эўропейскага мастацтва і літаратуры, устанаўляецца выключна на матар'ялах нямецкае літаратуры. У гэтым, як і ў іншых дачыненьнях, шмат новага ўносіць кніга Ф. Шюра [2]), якая н даўна выйшла і якое, аднак, ня толькі аўтар артыкулу ў нямецкай энцыклёпэдыі, што выйшла раней, але і аўтар нашай энцыклёпэдыі ня мог выкарыстаць.

Што да пастаўленае задачы даць марксыцкае асьвятленьне літаратурным зьявам, дык гэтую задачу рэдакцыя не магла выканаць поўна. „Марксыцкае літаратуразнаўства—навука маладая", сказана ў прадмове да I тому. „Дагэтуль шэраг вялікіх абсягаў літаратуры, як прыкладам, літаратура ўсходніх народаў, антычная літаратура, расійскае і заходняе сярэднявечча, нават некаторыя кругабегі і паасобныя пісьменьнікі новае літаратуры не дасьледваны ня толькі марксыстымі, але і літаратуразнаўцамі соцыялёгічнага кірунку. Рэдакцыя вымушана была абмежавацца выкладаньнем фактычнага матар'ялу тых абсягаў літаратуразнаўства, якія невыстарчальна распрацованы марксыстымі ці соцыолёгамі".

У сувязі з гэтаю заяваю рэдакцыі паўстае агульнае пытаньне пра тое, што павінны даваць артыкулы літаратурнай эн-

[1]) У расійскім літаратуразнаўстве спробу ўвесьці гэтае паняцьце зрабіў А. В. Луначарскі ў сваёй характэрыстыцы Торквато Тасо, як поэты бароко. Гл. ягоную «Историю западно-европейской литературы в ее важнейших моментах» М. 1924. Часть 1; бал. 217—218.

[2]) Fr. Schürr. Barock, Klassizismus und Rokoko in der französischen Literatur. Leipzig—Berlin. 1928.

цыклёпэдыі: ці толькі падрахунак, сьціслае выкладаньне таго, што зроблена ўжо навукаю, ці артыкулы павінны даваць не адзін сынтэз ужо ўстаноўленага, але павінны і самі пасоўваць навуку наперад, ці ў форме новых назіраньняў над прадметам, дзе гэтых назіраньняў няма або яны невыстарчальны, ці ў форме прыстасаваньня да вывучанага ўжо матар'ялу новых пунктаў гледаньня, што ўшчэ да яго не прыст соўваліся, ці ў форме некаторых гіпотэтычных абагульненьняў там, дзе яны пакуль магчымы ўся о як гіпотэзы, што папераджаюць навуковыя высновы. Ставіць вымаганьні артыкулам энцыклёпэдыі, каб усе яны пасоўвалі навуку наперад у тым ці іншым з паказаных кірункаў, значыла-б ставіць рэдакцыі і яе супрацоўнікам вымаганьні, якіх яны ня могуць выканаць. Даволі, калі ў энцыклёпэдыі будзе больш ці менш значны лік артыкулаў, што не абмяжоўваюцца задачаю азнаямленьня чытачоў з станам навукі ў дадзеным пытаньні.

У I томе энцыклёпэдыі мы маем артыкулы, дзе дадзены паглыблены марксыцкі аналіз літаратурных зьяў. Такія. галоўным чынам, артыкулы, падрыхтаваныя ўжо шэрагам папярэдніх марксыцкіх прац пра пісьменьнікаў. Але ёсьць і інакшыя. Так, аўтар артыкулу „Біблія“, артыкулу дужа зьмястоўнага, абмежаваўся, калі карыстацца з вышэйпрыведзеных слоў рэдакцыі, выкладаньнем фактычнага матар'ялу. Марксыцкага асьвятленьня літаратурных зьяў,згуртаваных у „Бібліі“, няма. Ня ўжыты таксама марксыцкі мэтод у артыкулах, прысьвечаных літаратурным жанрам: афорызм, баляда, байка.

Кожны том энцыклёпэдыі будзе падзелены на два разьдзелы: асноўны, дзе зьмяшчаюцца больш-менш пашыраныя артыкулы, і даведачны разьдзел, дзе даюцца адно кароткія фактычныя весткі ці сьціслыя азначэньні. Гэты падзел трэба прызнаць дужа дамэтным, але ён кладзе на рэдакцыю абавязак не выпадкова зьмяшчаць артыкул у той ці іншы разьдзел. Трэба, каб устаноўлены рэдакцыяй прынцып разьмеркаваньня матар'ялу ў гэтых двух разьдзелах, якім будзе кіравацца чытач, шукаючы даведку ў тым ці іншым разьдзеле, быў сапраўды зьдзейсьнены. Агулам гэты прынцып у I томе праведзены ўдала, хоць ёсьць і некаторыя памылкі. Так, прыкладам,няправільна зьмяшчэньне ў даведачны разьдзел артыкулу пра Апухцінага, творы якога мелі 7 выданьняў і выклікалі да сябе немалую літаратуру, калі Бэнэдыктаў трапіў (што і правільна) у васноўны разьдзел і нават з портрэтам. Але гэта памылка ўсяго тэхнічная. Больш істотным недахопам мне выдаецца зьмяшчэньне кароткае нататкі ў даведачным разьдзеле пра паняцьце, якое заслугоўвала-б у літаратурнай энцыклёпэдыі больш грунтоўна распрацаванага артыкулу.

Так, няправільна тое, што словы „амфібрах“ і „анапэст“ трапілі ў даведачны, а не ў асноўны разьдзел энцыклёпэдыі. Праўда, трохдольныя памеры менш распрацаваны ў навуцы, чымся хорэй і асабліва ямб, але ўсё-ж аўтары павінны былі-б, папершае, даць філёлёгічнае тлумачэньне гэтых слоў, паказаць, якое месца займалі гэтыя памеры ў антычнай мэтрыцы, у якіх выпадках ужываліся, якая роля гэтых памераў у новых літаратурах, якія літаратурныя школы, якія пісьменьнікі ў якога віду творах карысталіся з іх, у якім ліку стоп гэтыя памеры сустракаюцца, якую ролю ў іх адыгравае цэзура і да г. п. Хоць такога гатунку артыкулы вымагалі-б некаторай самастойнай працы, але нельга ў літаратурнай энцыклёпэдыі, што займае некалькі тамоў, абмежавацца адным азначэньнем літаратурнага тэрміну нават без філёлёгічнага вытлумачэньня яго. Гэтак сама слова „арсіс“, што ўжываецца ў розных, нават процілежных, сэнсах, павінна было быць высьветлена, і тая тэрмінолёгічная блытаніна, якая існуе ў дачыненьні да гэтага слова, павінна была-б быць ня проста адзначанай, але і высьветленай. Аджа-ж гэты тэрмін ужываецца ў сучасных працах пра верш [1], і нават маленькі нямецкі слоўнічак Рэля [2]) дае больш у гэтым дачыненьні [3]). Слову „архаізм“ трэ' было прысьвяціць грунтоўны артыкул у васноўным разьдзеле,

---

[1]) В. Брюсов.—Основы стиховедения. М. 1924. Бал. 21.

[2]) H. Röhl. Wörterbuch zur deutschen Literatur. Leipzig-Berlin. 1921.

[3]) Крыніцаю блытаніны зьявілася тая акалічнасьць, што грэкі, выходзячы з таго, што пры адбіваньні такту апусканьне нагі адзначала даўгі, а падыманьне яе кароткі склад, называлі першы тэзісам, а другі арзісам. Рымскія-ж граматыкі, выходзячы з таго, што з даўгім складам зьвязана павышэньне голасу, а з кароткім— паніжэньне, засвоілі адваротную тэрмінолёгію, якая і перайшла ў сучаснае вершазнаўства.

а не нататку ў даведачным. На архаічнасьць вершаванай мовы ўзглядна празаічнай не аднойчы зважалі літаратуразнаўцы, прыкл. Эльстэр. Новыя літаратурныя школы, імажыністыя, футурыстыя, пролетарскія поэты часта абвяшча і архаічнай лексыцы вайну, ім падчас утуравала і крытыка. [1]) Гэтыя пытаньні трэ' было 'высьветліць з пункту гледжаньня марксызму і гэта льга было зрабіць.

Калі такія паняцьці, як „амфібрах", „анапэст", „архаізм", павінны былі-б быць разгледжанымі ў артыкулах асноўнага разьдзелу, дык паняцьце „аббрэвіятура" належыць да мовазнаўства і мае дужа невялікае (да таго-ж, у артыкуле ня высьветленае) дачыненьне да літаратуразнаўства, дзеля чаго яму і ня месца ў асноўным разьдзеле.

Дужа добры артыкул В. Асмуса пра Арыстотэля мае ўсё-ж адзін істотны недахоп: у ім дадзена выразная і зьмястоўная характарыстыка Арыстотэля як эстэтыка, але застаўся ў баку Арыстотэль як тэорэтык мастацкае мовы; засталася нават няўспомненай „Рыторыка" Арыстотэля, што мае вялізнае значэньне для літаратуразнаўцы, які цікавіцца проблемамі стылістыкі.

Цяжкасьць артыкулу для энцыклёпэдыі, як асаблівага віду навуковае працы, зьмяшчаецца ў канечнасьці выканаць дзьве ўмовы, якія цяжка сумясьціць,—кароткасьць і закончанасьць. З апошняга пункту гледжаньня я пярэчыў-бы супроць артыкулу пра І. Аньненскага, дзе гэты поэта справядліва характарызуецца як модэрністы і лірык, але застаецца ў баку ягонае дачыненьне да антычнасьці, ягоныя пераклады Эўрыпіда, ягоныя драматычныя спробы, ягоная бакхічная драма „Фаміра-Кіфарэд", двойчы выдадзеная і пастаўленая на сцэне Маскоўскага камэрнага тэатру, пры чым пастаноўка гэтага значнага твору сталася таксама вялікай падзеяй у гісторыі расійскага тэатру.

З цікавым і грунтоўным артыкулам „Агітацыйная літаратура" я ня згодзен у адным. Аўтар піша: „Творачы ў кругабег буры й націску, поэты-агітатары сьпяшаюцца адгукнуцца на баявую надзённасьць і ня маюць магчымасьці ствараць свае новыя мастацкія формы. Жанры мастацкае агітацыйнае літаратуры таму зьяўляюцца устаноўленымі жанрамі поэтычнае творчасьці наагул". З гэтым цяжка згадзіцца. Наадварот, асаблівыя мэты, якія ставяць сабе агітацыйныя поэты, міжволі прымушаюць іх ствараць новыя формы. Зазначу на вершаваны фэльетон [1]) і на вершаваны тэкст да малюнку, у прыватнасьці да плякату,—два літаратурных жанры, якія атрымалі шырокае разьвіцьцё пасьля Кастрычніка. Узоры другога нават пададзены ў тэксьце як ілюстрацыі, але яны не атрымалі высьвятленьня ў артыкуле. Што-ж да мастацкае прыроды асноўных літаратурных жанраў, дык у агітацыйнага поэты яны істотна зьмяняюцца. Ці ня лепш было-б зазначыць, што пытаньне пра формы агітацыйнае поэзіі яшчэ не дасьледвана, чымся адмаўляць проблему там, дзе яна ёсьць.

Памылковым мне выдаецца тое, што дужа часта гэнам, дзе чытач чакае і з поўным правам чакае артыкулу, ён дастае спасылку—„гл. іншае слова", прычым гэтае іншае слова, у большасьці выпадкаў, дужа шырокага зьместу дл вымагае і бяз гэтага вялізнага артыкулу. Так, прыкладам, адшукоўваеш слова „авантурны" і знаходзіш спасылку—„гл. роман". Тымчасам авантурным можа быць не адзін роман, але і аповесьць, і новэля; поэму „Одысэя" трэба аднесьці таксама да авантурнага віду. Гэтак сама няма артыкулу на слова „бэлетрыстыка"; дадзена спасылка—„гл. літаратура"; тым часам, ці ня лепш было-б, замест таго, каб адсылаць да вялікага артыкулу на такую шырокую тэму, як літаратура, высьветліць тут жа ўмовы і час вынікненьня тэрміну „бэлетрыстыка" і ягоны абхват. Нязручна таксама для чытача адсыланьне ад слова „белы верш" да слова „вершаваньне".

Не здавальняе артыкул аб беларускай пасьлякастрычнікавай літаратуры. Ня толькі няма характарыстыкі нашых літаратурных аб'яднаньняў, але яны нават не названы. Ня ўспомнены нават найбольш выдатныя пісьменнікі „Узвышша" і „Белаппу". Артыкул не дае разуменьня стану нашае

[1]) Гл. артыкул Б. Арватова „Контр-революция формы" у ягонай кнізе „Социологическая поэтика". М.1928.

[1]) Гл. Н. Асеев. Работа над стихом. Л. 1929.

сучаснае літаратуры [1]). Гэтыя хібы належыць выправіць у артыкуле „Літаратурныя організацыі Беларусі“.

Перайду цяпер да разгляду таго, як пастаўлена такая важная для кожнага, хто хоча павялічыць і паглыбіць свае веды, галіна, як бібліографія Дужа часты недахоп энцыклёпэдый —у тым, што ў іх грунтоўная ці павярхоўная бібліографія або поўная адсутнасьць яе залежаць ад аўтара артыкулу. Пры нашым агульным пераходзе ад чыста індывідуальных мэтодаў навуковае працы да колектыўных, рэдакцыя павінна была-б паставіць перад аўтарамі артыкулаў пэўныя вымаганьні. Пункт гледжаньня рэдакцыі на бібліографічныя весткі, якія павінен даваць артыкул, на іхнае групаваньне і колькасьць (вычэрпнымі ў літаратурнай энцыклёпэдыі яны, вядома, быць ня могуць, гэта—задача адмысловых бібліографічных прац) павінен быць вядомы супрацоўнікам і павінен імі выконвацца. Маючы на ўвазе інтарэсы чытачоў, я думаю, што пераклады чужаземных твораў парасійску павінны паказвацца не ў агульнай форме, як гэта зроблена, прыкладам, у артыкулах пра Альтэнбэрга ці Барбюса, а дакладна, г. зн. з абазначэньнем месца і часу выданьня (як, прыкладам, у артыкуле пра Базэна). Зусім ужо нядобра, калі пераклады наагул не паказваюцца, як, прыкладам, у артыкуле пра Арыосто, дзе нават не адзначаны пушкінскі пераклад з „Шалёнага Роляндa“. Часам няма даволі важных зазначэньняў. Прыкладам, у артыкуле пра акмэізм, дзе зазначаецца, што „наагул літаратура пра акмэістых не вялікая“, ня прыводзіцца артыкул В. Брюсавага „Новые течения в русской поэзии. Акмеизм“ у „Русской Мысли“ і артыкул В. Саянавага „К вопросу о судьбах акмеизма“ [2]), дзе зроблена цікавая спроба марксыцка асьвятліць асноўныя накіраванасьці гэтае школы. У артыкуле „Александрыйскі верш“ (якому месца не ў даведачным, а ў асноўным разьдзеле), канечна патрэбна было паказаць на артыкул Л. Гросмана „Пушкин и Андрэ Шенье“ [1]), што дае каштоўныя весткі пра эволюцыю гэтага памеру. Не здавальняе бібліографія ў артыкуле „Афорызм“. Аўтар заяўляе: „ні ў расійскай, ні ў чужаземных мовах паасобных монографій пра афорызм няма“. Тым-жа часам, па-француску, у дужа распаўсюджанай сэрыі „Les genres litteraires“, ёсьць адмысловая кніга [2]). У Лянсона [3]) ёсьць таксама цэлы разьдзел „Les formes fixes de la prose“, прысьвечаны стылістыцы афорызму, разьдзел; які ні ў якім разе ня сустпіць сваім значэньнем параграфу ў „Стылістыцы“ Майера, на якую аўтар нашага артыкулу спасылаецца. Робіцца ўражаньне, што пра афорызм пісалі адны немцы. Гэта a priori мала верагодна, бо ў гісторыі гэтага жанру, Ля-Рошфуко, Паскаль, Шамфор маюць, напэўна, ня меншае значэньне, чымся Ліхтэнбэрг, Новаліс і Шлегель, а Ніцшэ ўважаў сябе за насьлядоўніка францускіх, а не нямецкіх афорыстых. Уся рэч у тым, што аўтар артыкулу пра афорызм узяў бібліографію з нямецкае літаратурнай экцыклёпэдыі. У гэтым, вядома, ня было-б нічога дрэннага, калі-б тая бібліографія была добра складзенай, а ня мела-б тае нацыянальнае абмяжованасьці, якую я ўжо адзначаў. Гэтак сама ў артыкуле пра Арыстотэля паказана таксама выключна нямецкая літаратура пра гэтага дасьледчыка. А тым часам пра Арыстотэля і ягоную поэтыку ёсьць каштоўная літаратура і ў іншых мовах [4]).

Аніводнай энцыклёпэдыі не ўдаецца ўнікнуць пропускаў некаторых слоў, якія павінны былі-б знайсьці сабе месца. Ёсьць гэткія пропускі і ў гэтай энцыклёпэдыі. Няма артыкулу пра такую важную, асабліва з соцыолёгічнага пункту гледжаньня, зьяву літаратурнага жыцьця, як бібліотэка. Няма артыкулу пра буйнога фінскага фольклёрыстага Аарнэ. Апушчана слова „апофэгма“, тымчасам гэты тэрмін хоць і ня мае шырокага распаўсюджаньня, але ўсё-ж

[1]) Упрадмове да энцыклёпэдыі сказана: „аддзел беларускай літаратуры арганізаваны пад кіраўніцтвам Інстытуту Беларускай Культуры“. Гэтая заява, прынамсі што да тому, які выйшаў, не адпавядае сапраўднасьці. Гл. ліст неадменнага сэкратара Акадэміі ў газэце „Зьвязда“. 1929 г. № 45.

[2]) „На литературном посту“. 1927 г. № 17—18.

[1]) Альманах „Свиток“, № 3. М—Л. 1924.

[2]) L. Levrault. Maximes et portaits. Paris.

[3]) G. Lanson. L'art de la prose. Paris.

[4]) Зазначу, прыкладам, на навейшую працу, што вышла ў Чэхаславаччыне па-француску—K. Svoboda. L'esthétique d'Aristote. Spicy filosofické faculty Universitety v Brné. Brno 1927.

сустракаецца [1]). Дужа добра, што даюцца кароткія, якія не перагружаюць кнігу, тлумачэньні мітолёгічных іменьняў, што сустракаюцца ў літаратурных творах, але ёсьць пропускі: Альцыона, Антэй, Атляс.

Думаецца, што лішне пры ўспамінаньні агульнавядомых пісьменьнікаў і асноўных тэрмінаў зазначаць—„гл". Гэта займае месца і раздражняе вока сваёю непатрэбнасьцю. Гэтае „гл." заўсёды сустракаецца пры ўспамінаньні нават гэткіх слоў, як Белінскі, Гоголь, Чэрнышэўскі, Бэрнэ, Гайнэ, проза, эпітэт. Кожны чытач літаратурнай энцыклёпэдыі і так ведае, што на гэтыя словы ня можа ня быць артыкулу. Адзначу адну прыкрую памылку ў друку ў нататцы „Антыспаст": няправільна надрукавана схема гэтае стапы.

[1]) Зазначу на кнігу W. Gemoll. Das Apophtegma. Literatur-historische Studien. Wien 1924.

Портрэты выдатнейшых пісьменьнікаў дадзены на асобных аркушох. Зроблены для гэтага выбор не выклікае пярэчаньняў. Тэхніка выкананьня зусім добрая. Портрэты ў тэксьце, наадварот, не заўсёды ўдалыя (прыкл. няўдалы портрэт А. Белага). Цешыць зрок немалы лік ілюстрацый, зьвязаных з культураю кнігі.

Мы суняліся даволі падрабязна на недахопах першага тому, выходзячы з таго меркаваньня, што першы том такога гатунку выданьняў заўсёды горшы за наступныя. Недахопы выпраўляюцца ў процэсе працы і выключэньне іх у значнай меры залежыць ад уважлівае крытыкі.

Нам ясна, што выданьне літаратурнай энцыклёпэдыі паводле выразнага, шырокага, увязанага з агульным кірункам савецкае навукі і культуры пляну зьяўляецца фактам вялізнага значэньня.

**А. І. Барычэўскі**

---

# „І бяз болю і бяз мукі" ці „тое ўсё, што ў моҙе"

(*М. Хведаровіч. Настроі. БДВ. Менск, 1929, бал. 117, цана 90 к.*)

*Ня блага было-б, каб у кожнага, хто накіроўвае свае крокі да берагоў поэзіі, пыталіся: чаго ты йдзеш—тварыць ці паўтараць загалоўкі? што новага бачыў ты ў сваім падарожжы? І калі ён не адказвае, сурова адвярнецеся ад такога чалавека. Ён прышоў не адтуль, дзе знаходзяцца крыніцы. Другая справа, калі чалавек сарамліва прамовіць, што бачыў, як падала сьлязіна, як выбівалася з-пад сьнегу першая травіца.*

Гэтакі сэнс невялічкага ўступу да артыкулу аб поэзіі Ж. Ляфорга. Нам хочацца дадаць, што ў першую чаргу трэба адварочвацца ад разьвязных поз і многаслоўнае бязглузьдзіцы. Найбольш такога многаслоўя трэба асьцерагацца маладым поэтам, дэбютантам.

Раскрываючы першы зборнік, цяжка патрабаваць чаго-небудзь зробленага: тут могуць быць абяцаньні, разумеецца ня крык і не дэклярацыі накшталт Хведаровічаўскага: „Я першы, моцны, дужы"... Тут можа быць нявыразнасьць, неакрэсьленасьць думкі, але павінна быць і такое, што-б абнадзейвала і гаварыла аб будучыні пісьменьніка. Аднак, на 117 балонах „Настрояў" мы не спаткалі нават згадкі аб тым, што будучына за Хведаровічам. Адразу кідаецца ў вочы тое, што аўтар цьвёрда засвоіў прынцып „з міру па нітцы—голаму кашуля", нават зрабіўшы з прыказкі гэтае цэлы радок: „хоць адкуль—я ўсё прымаю". І сапраўды, якіх толькі нітак мы не знаходзім у зборнай кашулі „Настрояў"! І нізкапробная Есеніншчына: „дарога сонная, дарога санная, сябры загублены (?), гітара п'яная;" ці: „у папоўскай камілаўцы клён у даліне на каленях" (як ён умудрыўся на калені стаць? Л. Т.); і Яз. Пушча: „ветры стэповыя коні" ці „ў срэбрамёце клёнаў лісьця"; і Кляшторны: „я сягоньня поўнымі збанкамі п'ю з таварышамі бярозавую кроў"; таксама кавалачкі ад містыкаў: „і ўсяму зямному (курсыў наш. Л. Т.) сёньня, што жыве-цьвіце на сьвеце, адбівае ніц (?) паклоны ў каточках вербных вецьце (якая кволасьць! зусім у стылі перадвялікодных „твораў" хрысьціянскіх арцібі-

скупаў! Л. Т.); або яшчэ лепш: ‚Хачу збавеньня, хачу твайго“ ці „тваё вялічча нам не спазнаць“.

Не забыты нават старыя романсы „душещипательного“ зьместу: „Болей, каханая, мусіць ня ўбачу, ціха... ня плач... ня дрыжы“...

Адным словам нікога не пакрыўǳіць, усім дагаǳіць стараецца аўтар, бо:

„Алене трэба гузікі,
Пятру—гвазды, гарбузікі (супастаўленьніца! цьвік і панахвіда! Л. Т.)

Хаўроні трэба пацеры
Хвядосу—кутасы.

Але гэтага нельга ставіць у вялікую віну маладому поэту. Нам цікава ўстанавіць ягоны сьветапогляд, адносіны да сучаснасьці, ін. каж., ідэолёгічную накірованасьць. Ці да канца апраўдана абяцаньне: „і як змаглі мы белых генэралаў, так зможам мы цяпер балячкі нашых ǳён“, і якая роля поэта ў той час, калі „агульнай творчай сілай будуецца краіна Беларусь“.

Можна было-б думаць, што пераж ытыя паходы, (пэўней пераж ытыя не Хведаровічам, а Сьвятловым і Уткіным) выпрацавалі цьвярозае дачыненьне да жыцьця і паставяць аўтара на пэўнае месца ў будаўніцтве. Аж не! Ён скарǳіцца:

„Цяжка так, браточкі,
Душыць н я б ы ц ь ц ё.
Мы зараз вось хочам (якая зграбнасьць!)
Н о в а е жыцьцё. (Разьбіўка наша. Л. Т.)

Аўтара душыць „нябыцьцё“ нашых ǳён, паходы цікавей, у іх было „хмяльное (?) віно“ рабунку, наогул для яго цяпер ня той час, калі „бывала і справа і думка адна“. Цяпер для Хведаровіча толькі можна прысьці „у пустыя клеці, схіліцца на к а л е н і н і ц“, месца яго імкненьням не на зямлі, а „на нябесным прыгуменьні“.

„На нябесным прыгуменьні,
Хай як зоры шалясьцяць“—кажа верш на 51 бал.

А накіраваны гэтыя імкненьні вось куды:

„Цішу начную
Хачу ўспрыняць.
Стаю і чую
Твой голас я“.

Далей аўтар просіць у кагосьці невядомага, у каго „стан—вялічча і „лік—сьвятло“ „збавеньня“, бо зараз у руках ён трымае „сухі загнет“, або развоǳіць „гусіную“ ідэолёгію:

„У іх (гусей. Л. Т.) не здраǳіш
правадыра.
Агнём загады
Гарацьʼ, гарацьʼ.

Загады няздрадных гусіных правадыроў (да-рэчы: гусі—сымболь адарванасьці ад месца, вечныя нездаволеныя блукальнікі) гарацьʼ агнём. Вось чаму кажа аўтар: „душой і целам я з імі ўвесь“. вось чаму ён „і дома і ня дома, не на сваім двары“ вось чаму ў яго „ня нашыя каровы прайшлі каля вакон“, вось чаму ён наогул тут „не патрэбен з сваім ахапкам слоў“.

„Гусі“ бліжэй, бо
„раней вясковы
сялянскі сын—
лістом кляновым
апаў аǳін“.

Гэты сялянскі сын выкладае слаўныя думкі пра працавітую пчолку, а пчолка здаўна сымболь сялянства, пра пчолку, якая кружыцца

„каля какалушы
і над агародам,
каб чужыя душы
накармілі мёдам“.

Бедная пчолка!

„Так павінна стацца,
што зімой халоднай,
пчолцы заставацца
голай і галоднай“.

Няǳіва, што аўтару не застаецца нічога больш, як прысьці „у час вячэрні (няйначай у час вячорнага набажэнства—вячэрня) да сьцен тваіх прыду ў апошні адвячэрацьʼ канон і лебяду“.

„Знайду с т а р ы я (Разьбіўка наша. Л. Т.) ǳьверы—гаворыцца далей.
Старыя дзьверы пасьля баǳёрых паходаў! Ды самі вершы пра паходы банальныя быццам-бы рэволюцыйныя рэчы. Пра і х можна сказаць словамі аўтара:

„не з такім мы шумам
ехалі ў паход!“

Устаўлены яны ў зборнік таму, што
„чуюць заячыя вушы,
хтосьці прытаіўся з ружжом!

Аўтар ня можа перайначыцца, бо

„...я другія песьні граў-бы“...

„... ды ўсё-ж тыя мары, тыя“..., бо ён вельмі выразна сказаў „Я буду пець, як маці нас прасіла, бо гэтакае й жыцьцё— „і жыву, як некалі ты казала мне“ (верш „Матцы“). Істота аўтара старая, аднолькавая з істотаю ягонае маці. Вось чаму ён ня ведае „ці мне сьпяваць аб праꙃедах, ці мне сьпяваць пра новае“, ці славіць пылаючы на захаꙃе маяк“.

Нам больш чым ясна, да чаго прыꙃе аўтар, хоць ён і агаварваецца тым, што „сам ня ведаю, ꙃе є лед пракладаю босым“.

Ідэолёгія ўсе-ж застаецца нявыразная, „гусіная“, калі казаць словамі аўтара.

Хведаровіч буꙃе шмат яшчэ позіраваць і фразёрстваваць.

Агульную композыцыю *зборніку* характарызуе прыказка „крупа крупу гоніць“ ці яшчэ лепш „сноп ад снапа, як поп ад папа“. Прыватнае-ж композыцыі (*паасобных вершаў*), як і знакаў прыпынку, не заўважаецца. Люꙃі згінулі ў баю і раптам едуць строем каля вакон аўтара, або чалавек з толькі што параненаю нагою хапае кастылі. Калі іх пасьпелі зрабіць, бо кульгавых у войска не бяруць. Часта Хведаровіч носіць ваду ў рэшаце, прыкл. парада Маракову „праканацца ў лёс“ ці характарыстыка Чарота як поэта, каторы сее „налева й направа“. У тым-жа вершы да Чарота аўтар навязвае гандлярскія рысы селяніну:

„ім шапочуць палеткі ніў,
ціхім шолахам новых чырвонцаў“.

Але аб гэтым досыць.

„Чытай, мой чытач,
і радкі успрымай,
бо лепшае песьні
на сьвеце няма—

рэкомэндуецца аўтар. А як-жа чытаць і ўспрымаць, калі аўтар ня ўмее пісаць. Бо чым-жа як ня гэтым растлумачыць такія рэчы, як: „радасьць завуць напаверх“, ці „ляжаць каменьнямі капыты (?) ў сочных (?) далавах (?!!)“, або „з пралесак ую (?!) вянкі“, або нават цэлыя вершы:

„Мілыя (!) мае дарагія
Закапцелыя (?) чатыры вуглы.
І чаму, чаму сёньня другія
У сэрцы гараць вуглі“.

Шматлікія бяссэнсіцы: 1) „грымяць актавы пушак кананад“; 2) „хто крокамі зьмераў з заходу на ўсход“; 3) „каб з першаю песьняй пад клік трубача, вялікім і новым паходам пачаць“, і гэтак без канца,—сьцьвярджаюць вышэй сказанае.

Мы не гаворым ужо пра паасобныя прозаічныя мясьціны „скарыстайце юнацтва разьбег“; пра ляпсусы мовы: легкавыя ногі, незамянімая, ꙃівізьа (!!!), рухаюць колёны, почасьць (траха ня пошасьць); пра няведаньне граматычных правіл кіраваньня і дапасаваньня: „сьпявай (!) пявучай лірай“, „мы тады ня зналі блізкую пару“, мілагучнасьці вершу, трапляюцца зьбегі накшталт „*з х сьці*“,—або-*н ў мн*“ ці сугучча: „над далінай, ꙃе ꙃяўчыны,- нябёс сінь“--дзе за гэтым усочыш, калі, напрыклад. падаецца сьмерць, няхай сабе й конская, у такім разрэзе:

„штось кальнула, нехта пасваволіў,
боль то ці жальба“...

Ня буду вырашаць і таго, хто што „зьнёс“ у зборніку Хведаровіча, „о колькі гора горкага тваё жыцьцё зьнясло“, (як звычайную рэч, каторая здараецца ад няведаньня мовы. Рыфмы: гаі—свае, думцы—старонцы, пазнаём—халадком. Пачуцьця рытму няма.

А галоўнае, што няма нічога жывога. Усё „бяз болю і бяз мукі“, моднае, крыклівае.

Аднак, пры сваёй спажыўнай вобразнасьці („месяц абаранкам“) і пры ўпартасьці ў адносінах да зьнішчэньня паперы з Хведаровіча можа выйсьці „саставіцель“, што відаць зьяўляецца ягоным ідэалам: „Я радкі саставіўшы, праўду раскажу“.

Кніжка шэрая і блёклая, як вокладка на ёй. Ды вокладка аздоблена карункамі з вядомай прыналежнасьці жаноцкае вопраткі, што павінна, як відаць, сымболізаваць „настроі“ аўтара.

Апрача ўсяго, зроблена злачынства— сапсаваны перакладам і без таго благі верш Р. Троянкер.

Але мы раім усё-ж набываць гэтую кніжку ўсім, хто хоча мецъ узор таго, як ня трэба пісаць

**Л. Трыер**

**„Голубі ешелоні“.— Петро Панч. ДВУ. 1928 г.** *Цана 1 р. 90 к.*

У Украінскай літаратуры апошняга часу можна было спаткаць творы, якія апісваюць рэволюцыйны рух. Аднак творы гэтыя ў большасьці абмалёўвалі асобны кругабег, альбо этап рэволюцыйнага руху. Нам. прынамсі, не даводілася заўважаць кніг, якія-б ахаплялі такі вялікі тэрмін часу рэволюцыйнага руху і савецкага будаўніцтва, які ахапляе кніга Панча „Голубі ешелоні“.

Кніга складена з чатырох аповесьцяй, якія выяўляюць з сябе 3 эпізоды рэволюцыйнага руху і 1 эпізод соцыялістычнага будаўніцтва. Першы распрацаваны аўтарам эпізод—гэта змаганьне рабочых у 1905 г., якое па ходе аповесьці цесна зьвязана з гэроічным паўстаньнем на браняносцы „Потёмкин“. Другі эпізод рэволюційнага руху, які бярэ аўтар, гэта—чэрвеньскі наступ на Каўкаскім фронце (1917 год), калі шматлікія расійскія войскі адмаўляліся йсьці ў бойку, і калі „вялікі наступ“, аб якім марыў Керанскі, ня даў адпаведных вынікаў. Трэці этап—грамадзянская вайна на Украіне.

Разглядаючы гэтыя аповесьці, як мастацкае цэлае. трэба адзначыць імкненьне Панча даць заўжды супроцьстаўленьне двох поглядаў—інтэлігенцкага і рэволюцыйнага. Змаганьне гэтых двох поглядаў ў большай ці меншай меры праходзіць праз усе чатыры аповесьці. У аповесьці „З моря“ побач з моцнымі тыпамі матросаў, рэволюцыйных рабочых выяўлены панікёрскія настроі тагачаснай інтэлігенцыі, якая прыяжджае на курорты, шпацыруе па ўзмор'і, якая ў істоце сваёй глыбока консэрватыўная і нярухомая. Больш выразна гэтае змаганьне поглядаў абмалёўваецца ў твары Туманова і Забачты і салдацкай масы („Без козиря“). Першы погляд- гэта думкі адукаванага студэнта, які некалі „протэставаў“, але на вайну ўсё-ж пайшоў. Ён імкнецца да спакою, да крымскіх кіпарысаў; яму не зразумела, што такое вайна і навошта яна (Туманов). Больш казённым тыпам зьяўляецца капітан Забачта. Ён хоча давесьці, што вайна—гэта сталы закон прыроды, што вайна ўзьнікла з арганічнага складу чалавека. У доказ ён кажа „Ти пригадай з яким ентузіязмом їхали перші ешелони“. Але Туманов прыводзіць свой контр-доказ: „А ти з ентузіязмом прощався із своїмі дітьми?“. І контрастам да гэтых двох тыпаў зьяўляюцца сялянесалдаты, тыя, якіх дражняць „пушачнае мяса“. Яны адмаўляюцца ісьці ў наступ. „Ви вбиваєте революцію“, кажуць їм. „А на біса вона здалася!“... Таких же, як і ми, а не революцію“, адказваюць яны. Тое самае змаганьне поглядаў спатыкаецца і ў трэцяй аповесьці „Голубі ешелоні“. Гэтая аповесьць малюе эпізод грамадзянскай вайны ў чыста украінскіх абставінах. Украіна ў кругабезе 1918—1920 г. г. была найбольш сваеасаблівай, найбольш бунтуючай часткай сучаснага Савецкага Саюзу. Войскі „гетьмана“ Скарападзкага. падтрымліваемага немцамі, войскі і банды Пятлюры, Грыгор'ева Зяленага і інш.- усё гэта давала Украіне сваеасаблівы колёрыт. Панч малюе заняпад пятлюраўшчыны. Эшалон пятлюраўцаў пападае ў тупік, у войску адчуваецца поўны распад, салдаты рабуюць эшалоны і гандлююць казённым дабром, начальства гуляе ў дваццаць адно, п'е і валочыцца за жанчынамі. У некаторых тыпаў яскрава выяўляюцца нацыяналістычныя тэндэнцыі (Лец-Отаманів, два козаки). Яны ня могуць бачыць, як салдаты рабуюць „неньку“ Украіну, як яе прадаюць немцам, ці фрачцузам, ім мілыя часы гетьманшчыны. „І тепер ту чисту мрію, що ми горіли нею... ту нашу яснооку вільну Україну, що нарешті вирвалась із-під чобіт царів і гетьманів.. для якої він приніс себе в офіру... знову потайки хтось виводить на торг, як рабиню, як шлюху“... „Лец-Отаманів думае аб бальшовіках, але ня хоча йсьці да іх, бо „.. більшовики цього не зрозуміють. Хіба вони захочуть розбиратись у складній психіці людини, або і самої нації, що віками мріяла про власну хату, про яку до того потайки читала тільки в кніжках“. ...„Він—син вільного народу“... Ён сам кідае эшалон і ўцякае з жанчынай, якая выпадкова папала ў эшалон. Грамадзкія ідэі прыраўняліся ў яго да нуля. Яго сьветапогляд гэта „все одно я завтра, чи позавтра мушу наложити головою, але сьогодні я хочу пережити насолоду дотику до ваших пругких форм, до теплих колін“. Усе яго лятуценьні, уся грамадзкая, хоч бы і нацыянальная думка, якая адчувалася ў яго раней, сходзяць у патрэбны момант да нуля. Яго мары згуртоўваюцца вакол пакою ў готэлі на двох пэрсон. Жанчына-бальша-

вічка ўдала выведвае сакрэты „самостійників“ і ўцякае з Лец-Отаманівым ў выглядзе яшчэ яго спачувальніцы. Па шмат якіх прыкметах можна было бачыць, што жанчына гэта выяўляе з сябе нешта падазронае. Але Лец-Отаманів не зьвяртае на гэта ўвагі, бо для яго ніяк ня можна зьвязаць грамаду і жанчыну. Бачачы апошнюю, ён кідае першае. Наадварот, аднак, ня бывае. Сяляне ў гэтым творы зьяўляюцца рабаўнікамі і марадзёрамі (большасьць). Богіня, якога заарыштоўваюць і судзяць за злачынства, вядзе сябе на судзе вельмі нахабна, без ўсякае павагі да суду. Салдаты, якія папаліся разам з ім у пакражы казённага дабра, ведаюць, што і іншыя ня лепш. Але ўмовы для такога апісаньня былі своеасаблівыя. Ня трэба забывацца на тое, што гэта быў час распаду, поўнага разлажэньня пятлюраўцаў. У „Повісті наших днів“ гэтыя погляды спатыкаюцца лепш. Іх можна пабачыць, з аднаго боку, ў рэзолюцыі і паводзінах камісіі, якая рабіла абсьледваньне заводу. З другога боку, гэта ўжо не сялянскія, а рабочыя погляды, поўныя энэргіі і энтузыязму.

Вялікая каштоўнасьць кнігі ляжыць у бесстароннасьці абмалёўваньня і ў поўнай праўдзівасьці аўтара. Гэроі Панча—гэта жывыя істоты, ня выдуманыя і не занадта ідэалізаваныя. Як выключэньне можна прывесьці тып Серады („З моря“). Неяк цудоўна-мэтаморфічна ён з „чарвоненькага“ абываценя робіцца рэволюцыйным змагаром. Афіцэры („Без козыря“) паказаны ня зусім рэальна. Іх галоўным жаданьнем—імкненьнем зьяўляецца „Володимир четвертої степені“, яны ідуць у бой самі, калі за імі ня рушаць салдаты. Наўрад ці магчымы такія малюнкі, асабліва бяручы на ўвагу тое, што яны ведаюць, што перамогі гэткім чынам ня будзе, „Володимира“ ня будзе, што ідуць на верную сьмерць. Але гэтыя маленькія недарэчнасьці мала псуюць агульнае ўражаньне.

Зусім асобна стаіць у кніжцы „Повість наших днів“. Яна выяўляе з сябе нешта падобнае да „Цэманту“ Гладкова. Ідзе адбудова шкляной гуты сіламі саміх рабочых. Свыр зьяўляецца тыпам аналёгічным Глебу. Тэма, хоць і вядомая, абмалёвана аўтарам своеасабліва; вызначаецца формальны бок аповесьці—дзеяньне адбываецца ў рэдакцыі газэты за чытаньнем рабкораўскай корэспондэнцыі.

Характарызуючы кнігу ў агульных рысах, трэба паказаць на бязумоўную цікавасьць, якую яна павінна выклікаць у масавага чытача. Аўтар добра ўвязвае прыгожы, часамі дынамічны стыль з фактамі гістарычнага значэньня. Як на хібу кнігі трэба паказаць на надзвычайную прымітыўнасьць і беднасьць у галіне прозьвішчаў. Так, напрыклад, імя Свыр спатыкаецца ў двох творах, Забачта у трох (капітан, палкоўнік і г. д.). Гэтая акалічнасьць робіць кепскае ўражаньне.

Выдадзена кніга з тэхнічнага боку добра.

**Ал. Цітоў**

---

*Рэдагуе* **Рэдколегія** *Выдае* **„Узвышша“**